ІНСТЫТУТ ДЛЯ ВЫВУЧЭНЬНЯ СССР
Institute for the Study of the USSR + Institut zur Erforschung der UdSSR
Institut d'études sur l'URRS

Досьледы й матарыялы
Сэрыя II /ратацарныя выданьні/
№ 63

Г. НЯМІГА

# ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

# БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК – АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР

МЮНХЭН

1957

Рэдагуе Выдавецкая Калегія Навуковай Рады Інстытуту

Herausgeber: Institut zur Erforschung der UdSSR, e.V., München 26, Schliessfach 8, Germany. - Verantwortlicher Redakteur: Dr.Stanisłaŭ Stankievič, München 22, Mannhardtstrasse 6.

Institute for the Study of the USSR

H. Niamiha

INSTITUTE OF BELORUSSIAN CULTURE

BELORUSSIAN ACADEMY OF SCIENCES - ACADEMY OF SCIENCES OF THE BSSR

---

Institut zur Erforschung der UdSSR

H. Niamiha

INSTITUT DER WEISSRUTHENISCHEN KULTUR

WEISSRUTHENISCHE AKADEMIE DER WISSENSCHAFTEN - DIE AKADEMIE DER WISSENSCHAFTEN DER WEISSRUTHENISCHEN SSR

---

Institut d'études sur l'URRS

H. Niamiha

INSTITUT DE LA CULTURE BIÉLORUSSIENNE

L'ACADÉMIE DES SCIENCES BIÉLORUSSIENNE - L'ACADÉMIE DES SCIENCES DE LA RSS BIÉLORUSSIENNE

München

1957

## ПРАДМОВА

Выдатную ролю ў разьвіцьці ўсебаковае нацыянальнае дзейнасьці ў Беларусі, асабліва ў гады НЭП-у, згулялі Інстытут Беларускае Культуры - Беларуская Акадэмія Навук.

Тымчасам, ні ў эміграцыі, ні тым больш у БССР, дагэтуль няма яшчэ аніводнай працы, прысьвечанай гісторыі ўзьнікненьня, разьвіцьця й чыннасьці гэтых вышэйшых навукова-дасьледавальных інстытуцыяў.

Вялікімі цяжкасьцямі апрацаваньня падобнае тэмы ў эміграцыйных умовах ёсьць перадусім немагчымасьць доступу да архіўных матар'ялаў ды кантактаў з жывымі сьветкамі - удзельнікамі жыцьця й дзейнасьці Акадэміі, а таксама адсутнасьць у бібліятэках вольнага сьвету адпаведных і неабходных у такіх выпадках жаролаў, бо ад 30-тых гадоў заслона паміж бальшавіцкім і вольным сьветам пасьлядоўна ўшчыльнялася, аж пакуль не замянілася ў зялезную заслону.

З гэтага гледзішча, зразумела, што першая гэтта спроба нарысу гісторыі Інбелкульту - БАН - Акадэміі Навук БССР будзе мецьшмат тых ці іншых недакладнасьцяў. Аўтар, аднак, не маніўся й не маніцца на канчальную і ўсебаковую вычарпальнасьць тэмы.

Зьявілася яна ў выніку разуменьня, што ў гісторыі культурна-палітычнага змаганьня беларускага народу з палітыкай бальшавізму і ягоных марыянэтачных урадаў БССР, аніводная бачына гэнае гісторыі не павінна заставацца ня высьветленай.

Аднэй з такіх бачынаў і ёсьць гісторыя дзейнасьці Інбелкульту - БАН, бо Інбелкульт і БАН былі носьбітамі культурных і нацыянальных імкненьняў свайго народу, а бальшавізм - найзацятшым ворагам беларускага народу і ягонае культуры. Бальшавіцкая пар-

тыя і ўрад намагаліся паступова змусіць сваводную акадэмічную думку да прапагаваньня тэорыі маркса-леніна-сталінскага захопніцтва, ды хвальшаваньня нязгодных з гэтай тэорыяй фактаў, што й было дасягнута ў Акадэміі Навук БССР.

У зьвязку з гэтым, тэма дзеліцца на тры часткі: Інбелкульт, - як пара зараджэньня й росквіту незалежнага навуковага вывучэньня роднага краю, БАН, - як пара наступу й перамогі бальшавізму і Акадэмія Навук БССР, - як пара канчальнагаператварэньня Акадэміі ў вышэйшага маштабу прапаганды дадатак акупацыйнага рэжыму.

Заданьнем гэтага піянэрскага нарысу, на думку аўтара, было, па магчымасьці, як найбольш дакладна паказаць пазытыўны ўклад у разьвіцьцё беларускае культуры, як вышэйшай навукова-дасьледавальнай інстытуцыі ў цэлым, гэтак і паасобных ейных адзінак і асобаў наагул.

Таму й не магло быць тутака ніякіх адмысловых параўнаўча-вызначальных ацэнаў ступені нацыянальнае вартасьці тых ці іншых асобаў.

Зразумела, што ў такой сыстэме татальнага паняволеньня, якой ёсьць бальшавіцкая сыстэма, людзі, што не затрацілі да канца свае чалавечае годнасьці, стараліся рабіць і робяць пры кажнай нагодзе шмат карыснага й добрага, не зважаючы навет на сваю фармальна-страхавальную партыйную прыналежнасьць.

У заключэньне, аўтар выражае на гэтым месцы сваю шчырую падзяку праф. А.Адамовічу і сп. Ант.Шукелойцю за іхныя карысныя заўвагі й дапаўненьні ў працэсе працы над тэмай, д-ру Ст.Станкевічу і д-ру Вярбіцкаму за іхную дапамогу ў вадшуканьні некаторых патрэбных жаролаў, а таксама ўсім тым сябром Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, што не паскупіліся на свае крытычныя заўвагі.

За ўсе будучыя дапаўненьні і ўдакладненьні паважаным рэцэнзэнтам дзякую загадзя.

Г.Нямiга



## ЧАСТКА І

## ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

## І Н Б Е Л К У Л Ь Т

 



## I. Стан навуковага дасьледваньня гісторыі й культуры Беларусі да рэвалюцыі 1917 г.

Навукова-арганізаванага й сыстэматычнага вывучэньня Беларусі да рэвалюцыі 1917 году ня было. Шмат прычынаў злажылася на гэта, а найважнейшай зь іх гэта тое, што царская Расея, забраўшы пры канцы XVIII ст. пад сваю ўладу беларускія землі, заявіла ўсяму сьвету, што Беларусы - гэта расейскае племя, і што яно павінна быць злучанае з расейскім народам.

Таму што гэта не адпавядала праўдзе, царскі ўрад адразу прыступіў да ліквідацыі ўсіх нацыянальных праяваў у жыцьці забранага краю, уключна да забароны карыстаньня роднай мовай у грамадзка-палітычным жыцьці, а пазьней і забароны друку ў гэтай мове. Адмысловы ўказ Мікалая I з 18-га ліпеня 1840 году забараняў навет ужываць тэрмін "Беларусь".

Пасьля 1840 году ня існавала ў Беларусі больш аніводнай беларускай нацыянальнай школы, газэты, а таксама ніводнай вышэйшай навучальнай установы, навет у расейскай мове. Усё было накіравана на хутчэйшую русыфікацыю краю. Народ быў няпісьменны ў сваёй масе, а інтэлігенцыя спалянізаваная або зрусыфікаваная.

Частка інтэлігенцыі, навукоўцаў, што выйшла з нашага краю і яшчэ была ня страціла цалком нацыянальнага пачуцьця, бачучы гэтую несправядлівасьць, стала цікавіцца мінуўшчыняй свайго краю. Забаронены плод заўсёды мае больш прыцягальнае сілы. Зацікаўленьне гэтае выявілі К.Калайдовіч /зацікавіўся старабеларускімі дакумантамі і яшчэ ў 1822 г. выдаў працу п.н. "О белорусском наречии"/, Згілеўскі, Шпілеўскі, Сямёнаў, Кіркор і іншыя. Яны пачалі апрацоўваць і выдаваць кніжкі зь гісторыі, этнаграфіі й геаграфіі Беларусі. Былі гэта адно спробы прыватных адзінак і тады яшчэ шырокага разгалосу ня мелі.

 

Найлепшы штуршок да зацікаўленьня беларускім пытаньнем навет у расейскіх колах дало паўстаньне 1863 году пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, што было зьвязана з польскім паўстаньнем таго-ж году. Сьветчаньне гэтага можна знайсьці ў расейскага вучонага XIX ст. А.Н.Пыпіна, які кажа:

> "... Беларускае племя зьвярнула на сябе асаблівую ўвагу... з часу апошняга польскага паўстаньня. Да таго часу ў нас цікавіліся Беларусьсю й ведалі яе вельмі мала ў параўнаньні з тымі, даволі шматлікімі і часткаю цудоўнымі працамі па вывучэньню гэтага краю, якія зроблены былі асабліва ў сямідзесятых і васьмідзесятых гадох".1

Дарэчы варта адцеміць, што цытаваная праца А.Н.Пыпіна была паважным навуковым нарысам зь гісторыі этнаграфіі і вуснай паэтычнай народнай творчасьці беларускага народу.

Зацікаўленьне Беларусьсю праявілася перадусім не ў казённай, блізкай да ўраду Імпэратарскай Акадэміі Навук у Пецярбургу, а ў славянафільскіх навуковых расейскіх колах Масквы, згрупаваных у навуковых таварыствах Маскоўскага Унівэрсытэту.

У Маскве навет зьявілася думка

> "... выдаваць газэту пабеларуску, якая занялася-б культурна-навуковым аглядам Беларусі. Намеры гэтыя, аднак, скасаваў хутка царскі загад ад 1867 г., які забараняў друкаваць пабеларуску..."2.

Царскі загад ня мог спыніць ужо паўсталага зацікаўленьня навукоўцаў беларускай справай. Найбольшую актыўнасьць выявіла ў гэтым Маскоўскае Таварыства аматараў расейскай славеснасьці /паўстала ў 1811 г./, правадзейнымі сябрамі якога было шмат выхадцаў зь Беларусі. Сябры таварыства Дзьмітрыеў, П.Бяссонаў, Паўла Шэйн, гэтак як і А.Раманаў, К.Дабравольскі, Сержпутоўскі, Нікіфароўскі зьбіралі й выдавалі тысячы беларускіх народных твораў, часамі з дапамогай розных навуковых інстытуцыяў, а часта й за свой кошт. Гэткім пераважна быў А.Сапуноў. Ён-жа быў і найбольш прадуктыўным, бо з пад ягонага пяра выйшла 72 выданьні, прысьвечаныя гісторыі Беларусі. Усе тыя выданьні, кажа Ю.Віцьбіч[3] дзеляцца на 3 групы: 1. Зборнікі гістарычных актаў і дакумантаў, 2. Навуковыя працы на падставе гэтых зборнікаў і 3. Артыкулы й нарысы, разьлічаныя на шырокія колы чытачоў.

Пры дапамозе Кракаўскага Унівэрсытэту М.Фэдароўскі выдаў апрацаваныя ім этнаграфічныя матарыялы п.н. "Lud Białoruski".



Іван Насовіч улажыў і выдаў расейскім правапісам першы вялікі беларуска-расейскі слоўнік.

І ў працах расейскіх гісторыкаў, як Антановіч, Бацюшкаў, Уладзімерскі, Бэз-Карніловіч і іншыя было шмат аб'ектыўнага навуковага матарыялу зь гісторыі Беларусі.

Пад канец XIX і ў пачатку XX ст. гістарычнае вывучаньне Беларусі прыняло шырэйшыя памеры. Працы гісторыка М.Любаўскага даюць багаты фактычны матарыял зь гісторыі Беларусі XVI-XVIII ст., а выдатны вучоны, пасьлейшы сябра Інбелкульту, Е.Карскі напісаў быў і выдаў колькітамовую працу "Беларусы". Шмат працаў зь гісторыі Беларусі напісалі, таксама пасьлейшыя сябры Інбелкульту, прафэсары М.Даўнар-Запольскі, У.Пічэта, Браніслаў Эпімах-Шыпіла.

Досьледы гісторыкаў выявілі, што забароненая царскім урадам беларуская культура ў сваім мінулым буйна разьвівалася, асабліва ў пару Вялікага Княства Літоўскага ды мела вялікі ўплыў на разьвіцьцё культураў расейскай, польскай, летувіскай, латыскай і ўкраінскай. У Беларусі здаўна ўжо была пашырана асьвета й школьніцтва. Як толькі зьявілася хрысьціянства, ужо ў X ст. пры манастырох паўставалі школы, дзе навучалі чытаць і пісаць кандыдатаў да духоўнага стану.

У XII ст., каля 1130 году, Смаленскі князь Расьціслаў заснаваў быў навет грэцка-лацінска-рускую акадэмію ў Смаленску, за рэктара якое быў запрошаны Грэк Мануіл, пасьлейшы япіскап Смаленскі[3а].

У XVI ст. у Беларусі ўжо існавалі 2 езуіцкія акадэміі – у Вільні /паўстала ў 1578 г., у 1803 г. ператорана на Унівэрсытэт, які быў зачынены ў 1832 г./ і Полацку /паўстала ў 1581 г. ды таксама ператорана ў 1812 г. на езуіцкі Унівэрсытэт, якому былі падпарадкаваны ўсе езуіцкія школы/.

Віленская Акадэмія паўстала была на базе заложанай у 1566 годзе стараньнямі Жыгімонта Аўгуста школы права, дзе выкладалася права дзяржаўнае, майдэборскае й саскае, дзяржаўнае права – Статут Вялікага Княства Літоўскага, земскія прывілеі й канстытуцыя – выкладаліся пабеларуску, так як яны й былі напісаны.

Прафэсары Віленскага Ун-ту – Даніловіч, Бабpоўскі, Ярашэвіч, Анацэвіч, Марціноўскі, Сасноўскі ды іншыя ня толькі самі цікавіліся гісторыяй свайго краю й народу, а й прышчаплялі гэтае за-

цікаўленьне ды замілаваньне да свайго роднага студэнтам. З асяродзьдзя тых студэнтаў выйшлі беларускія паэты Ян Чэчат і Францішак Савіч.

Былі спробы і арганізаванага вывучэньня Беларусі з боку расейскіх краяведных арганізацыяў. Адны зь іх мелі на мэце вывучаць усю этнаграфічную Беларусь, іншыя - былі чыста краяведныя, вывучалі паасобныя краі /раёны/. Важнейшымі зь іх можна лічыць: "Паўночна-Заходні Аддзел Імпаратарскага Рускага Геаграфічнага Таварыства" ў Вільні /арганізаваўся ў 1867 г. і існаваў зь перапынкамі 1867-1877, 1910-1915 г., а фактычна II гадоў./ Гэты Аддзел меў камплексныя мэты вывучэньня краю, а галоўную мэту - давадзіць "...рускай навуковай працай", што край гэты "запраўды рускі" ў процівагу "польскаму пагляду на гэты край, як на край польскі або прынамся ня рускі"[4].

"Віленскае Таварыства аматараў Прыродазнаўства" /1909-1915г./ вывучала прыроду краю.

"Менскі Царкоўны Гістарычна-Археалёгічны Камітэт" /1907-1917 г./ імкнуўся "помнікамі археалёгіі" паказаць "... усім хто сумляваецца, што Менская губ. - рускі край, а ня польскі..."[5]. Гэтаму камітэту дапамагалі мясцовы расейскі архірэй, мясцовыя расейскія ўлады, навет Расейская Акадэмія Навук ахвяравала для яго 500 рублёў.

Падобных установаў было яшчэ колькі, але ўсе яны былі ня беларускімі па свайму характару і навет не навукова-дасьледавальнымі, а толькі навукова-дапаможнымі, ці проста прыватнымі аматарскімі таварыствамі. Наагул у XIX і пач. XX ст. у бальшыні сваёй:

> "... Як польскія, так і рускія аматары, вучоныя, ведамствы, арганізацыі і г.д., вывучалі Беларусь, тэндэнцыйна асьвятлялі факты яе існаваньня і гэтай сваёй навуковай працай сьвядома ці несьвядома ставілі практычнае заданьне: запрыгоніць Беларусаў пад польскае магнацтва ці рускага цара й давесьці ўсяму навуковаму сьвету, што Беларусі, як сваеасаблівай нацыі, ніколі ня было й нідзе няма..." 6.

Вытворчыя сілы й прыродныя багацьці краю амаль ня вывучаліся цалкам, бо й ня было каму іх вывучаць. Толькі перад пачаткам першай сьветавай вайны адчыніліся дзьве практыкавальныя сельска-гаспадарскія станцыі - Менская балотная станцыя /1913 г./ і Беняконьская сельска-гаспадарская станцыя на мінэральных глебах /1910 г./



Ня было, як ведама, у Беларусі да вайны 1914 году ніякіх і вышэйшых навучальных установаў.

Як толькі сытуацыя зьмянілася ў выніку вайны і Расейская імпэрыя пачынала рассыпацца, беларускія нацыянальныя дзеячы, палітыкі й вучоныя, адначасна з праектамі дзяржаўнае арганізацыі краю, сталі думаць і пра наладжваньне вышэйшае школы ў Беларусі, а пазьней і арганізаванага навуковага дасьледваньня гісторыі, культуры й багацьцяў роднага краю.

Праф. М.Даўнар-Запольскі ўкладаў праект не адно канстытуцыі будучай незалежнай Беларускай дзяржавы, а й праект арганізацыі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Пра ўтварэньне вышэйшае навукова-дасьледнае ўстановы тады яшчэ гаварыць і думаць было за рана, маючы 85% няпісьменнага насельніцтва ды неразгорнутае пачаткавае школьніцтва ў роднай мове.

Беларускай Народнай Рэспубліцы ня суджана было доўга існаваць і таму давялося ўжо рэалізаваць пляны па тварэньню вышэйшае навукова-дасьледавальнае ўстановы ў значна адменных ад незалежнага быцьця ўмовах, скарыстоўваючы г.зв. НЭП-аўскую аддушыну ў бальшавіцкім паняволеньні Беларусі.

## 2. Першыя крокі да ўтварэньня беларускай вышэйшай навукова-дасьледавальнай установы

На долю невялікай жменькі сьведамых нацыянальна-беларускіх культурна-навуковых сілаў, што знайшлася ў першыя пасьлярэвалюцыйныя гады ў цэнтры краю, у Менску, выпала вялізарнае, пачэснае й надзвычай цяжкае заданьне пачынальнікаў адраджэнцка-творчай працы ўва ўсіх галінах народнага жыцьця Беларусі.

Цяжкасьць тае тытанічнае працы палягала ня толькі ў тым, што ўсё трэба было рабіць ад самых элемэнтарных пачаткаў, але яшчэ і ў сваеасаблівай дынамічнасьці й зваротлівасьці ў умовах сілком накіненага чужога бальшавіцкага рэжыму, што ставіў свае адмысловыя патрабаваньні ды вымагаў іхнага безапэляцыйнага выкананьня.

Неабходна было зручна лявіраваць, каб не адно ўтрымаць, але замацаваць ды пашырыць свае нацыянальныя пазыцыі. А працы, зап-

раўды, быў непачаты край.

Беларускі народ, у сваёй масе пераважна сялянскі, пазбаўлены дзесяцігодзьдзямі асьветы ў роднай мове, пачуўшы пэўную аддушыну ад векавых дэнацыяналізацыйных путаў, але не засупонены яшчэ канчаткова бальшавікамі ў новыя, - стыхійна й масава пачаў гарнуцца да крыніцаў веды.

Гэты несамавіты культурны голад неабходна было сьпешна й апэратыўна заспакайваць, з тым, каб хуткім тэмпам, амаль пагалоўна няпісьменнае людзкое мора ўняць у вадпаведнае рэчышча навачаснага культурнага жыцьця й творства.

Перадусім патрэбна было пачынаць ад наладжваньня пачатковае народнае асьветы ў роднай мове, не забываючыся адначасна й пра вышэйшую школу, якой тады ў Беларусі ня было. Трэ' было тварыць і дзейны культурна-асьветны кіраўнічы апарат ды думаць пра собскае навуковае дасьледваньне роднага краю, ягоных багацьцяў, гісторыі.

І тагачасныя нацыянальныя працаўнікі выказваюць надзвычайную пружнасьць, энэргію й сьмеласьць, ды ў хуткім часе здабываюць, на першы пагляд, неасягальныя вышыні. Гэтак, арганізаваны І.VIII.1920 г. Беларускі Аддзел пры Народным Камісарыяце Асьветы БССР неўзабаве, бо ўжо ў пачатку 1922 году, здолеў ператварыць і ўвесь НКА ў беларускую ўстанову, а 30 кастрычніка 1921 г. адчыняецца першы, пасьля амаль векавага перапынку, Дзяржаўны Унівэрсытэт на абшары Беларусі.

Думка аб заснаваньні вышэйшай навукова-дасьледавальнай установы ў Беларусі ўзьнікла адначасна із вялікай і цяжкай арганізацыйнай працай па наладжваньню беларускага школьніцтва й адчыненьню Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

Яшчэ ў студзені 1921 году С.Некрашэвіч, пазьнейшы першы старшыня Інбелкульту, на нарадзе прадстаўнікоў беларускага грамадзтва пры НКА, прачытаў на гэтую тэму адмысловы рэфэрат, дзе матываваў патрэбу "арганізацыі адпаведнай лябараторыі для беларускага адраджэньня". Гэту лябараторыю ён бачыў у Інстытуце Беларускае Культуры.

> "...Гэтая ўстанова, - даводзіў С.Некрашэвіч на ўспомненай нарадзе, - ... павінна згуртаваць вакол сябе ўсе беларускія сілы, дзе-б яны не знаходзіліся, выкарыстаць іх па простаму назначэньню і быць адказнай за культурную справу ў Беларусі." 7.



У выніку - нарада выбрала камісію для апрацаваньня статуту Інбелкульту. Апрацаваны камісіяй, пад старшынствам З.Жылуновіча, праект статуту Інбелкульту адводзіў толькі шырокае месца культурна-грамадзянскім пытаньням, надаючы, такім чынам, Інстытуту характар больш грамадзкай, чымся навукова-дасьледавальнай установы.

Побач із апрацоўваньнем камісіяй у Менску праекту статуту для Інбелкульту, будучы рэктар Бел. Дзярж. Унівэрсытэту праф. У.Пічэта, у Маскве апрацоўвае праект статуту Інбелкульту па тыпу дасьледавальных інстытутаў[8].

Пытаньне вышэйшай навукова-дасьледавальнай установы ў Беларусі абмяркоўваецца таксама ў лютым 1921 г. на 2-ой сэсіі ЦВК БССР, на якой узьнікае плян адчыненьня 2-х інстытутаў - беларускай і жыдоўскай культуры пры БДУ.[9]

Аднак час на адчыненьне вышэйшай навукова-дасьледавальнай установы яшчэ быў не наступіў. Галоўная ўвага і ўсе сілы тады яшчэ канцэнтраваліся на ўрухомленьні Унівэрсытэту, а важнейшай перашкодай была адсутнасьць адпаведнай колькасьці высока-кваліфікаваных працаўнікоў дзеля адначаснага забясьпячэньня працы Унівэрсытэту і вядзеньня навуковай працы па дасьледваньню Беларусі. Ня было таксама й неабходнага абсталяваньня ды памешканьняў дзеля гэтай мэты. Давялося справу Інбелкульту на нейкі час адлажыць.

Тымчасам жыцьцё высоўвала штораз новыя пякучыя патрэбы. Бурны й стыхійны рост беларускае школы ня мог укладацца ў нармальны ход бяз адпаведных падручнікаў, праграмаў, а галоўнае - навуковае тэрміналёгіі.

Беларускі народ, што ў сваіх нетрах захаваў быў родную мову, ня маючы доступу ў гэтай мове да скарбніц навукі, ня мог утварыць сваіх собскіх тэрмінаў на адцягненыя навуковыя паняцьці. Пераносіць-жа й насаджаць жыўцом чужыя беларускай мове па сваёй будове й духу тэрміны зь іншых моваў было-б ня толькі бязглуздзіцай, але й шкоднай работай.

Таму, пакуль адбываюцца нарады аб тварэньні вышэйшых навукова-дасьледавальных установаў, пры Акадэмічным цэнтры Наркамасьветы БССР, 1-га лютага 1921 году закладаецца Навукова-Тэрміналёгічная Камісія ў складзе 3-х сэкцыяў: гуманітарнай, прырода-

знаўчай й матэматычнай.

Асноўным заданьнем Камісіі было апрацаваць і выдаць сьпешна навуковую тэрміналёгію на першы час, хоць-бы для карыстаньня ёю ў пачатковых і сярэдніх беларускіх навучальных установах, а таксама скласьці й выдаць шэраг беларускіх падручнікаў, пачынаючы ад лемантара.[10]

За год працы Камісія выдала беларускія тэрміналёгічныя зборнікі з наступных галінаў веды: гуманітарнай, прыродазнаўчай і матэматычнай, а таксама склала ды надрукавала ў Нямеччыне падручнікі для беларускіх школаў.

Дзейнасьць Навукова-Тэрміналёгічнай Камісіі так разгарнулася, што неўзабаве, бо ў 1922 г., яна была ўжо рэарганізавана ў Інстытут Беларускае Культуры.

### 3. Першыя гады працы ў рамках НКА БССР

Зародкам Інбелкульту была Навукова-Тэрміналёгічная Камісія пры НКА БССР. Пашырэньне абсягу працы Камісіі ўжо ў пачатку 1922 г. не ўкладалася ў вузкія рамкі выключна тэрміналёгічнага зьместу. Узьнікла неабходнасьць рэарганізацыі Камісіі ўжо цяпер, не чакаючы "лепшых часоў", у навукова-дасьледавальную ўстанову, тымчасам пры Наркамасьветы, выкарыстаўшы наяўныя тады сілы, з далейшым, у працэсе самое працы, сьцягваньнем адусюль новых.

Першая, пасьля зачыненьня царскім урадам Віленскага Унівэрсытэту ў 1832 г., вышэйшая навучальная ўстанова ў Беларусі - Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, была ўрачыста адчыненая 30-га кастрычніка 1921 г. і прафэсарска-выкладчыцкі склад, хоць і зь вялізарнымі цяжкасьцямі, скамплектаваны.

Надыйшоў чарод і на вышэйшую навукова-дасьледавальную ўстанову. Каб не адчыняць 2-х навуковых інстытутаў, як мяркавалася дагэтуль, бо яны-б маглі весьці фактычна паралельную працу, было дасягнута паразуменьне пагадзіць гэныя праекты ды прыступіць да апрацаваньня адзінага статуту, які-б у сваёй аснове захаваў абодвы прынцыпы - навукова-дасьледавальнай і культурна-грамадзкай установы. Ня менш урачыста як БДУ, меў адчыняцца і Інбелкульт, але гэная ўрачыстасьць, прызначаная на 20.II.1922 г., так і не адбылася з прычыны "выезду Наркома Асьветы ды іншых адказных працаўнікоў у Маскву і ў паветы".[11].



З гэтага відаць, што ўжо тады Масква ня надта лічылася з нацыянальнымі пачуцьцямі "самастойных" рэспублік, хоць і да часу іх цярпела, а навет сяды-тады, дзеля змыленьня чуйнасьці, і дапамагала іхнаму разьвіцьцю.

Інбелкульт, як "вышэйшая навуковая ўстанова Беларусі, што мае на мэце распрацоўваць пытаньні беларускае культуры ува ўсіх яе праявах"[12] і бяз тае ўрачыстасьці фактычна прыступіў да працы ад 20.II.1922 г.

Інстытут складаўся з наступных правадзейных сяброў: Старшыня - С.Некрашэвіч, сакратар - У.Чаржынскі, сябры Сэкцыяў - І. Луцэвіч /Я.Купала/, К.Міцкевіч /Я.Колас/, Язэп Лёсік, М.Грамыка, А.Круталевіч, Ф.Бурак, В.Міхальскі, Ч.Родзевіч, М.Азбукін, М.Гуткоўскі і М.Байкоў. Пазьней у склад Інбелкульту ўвайшлі, як сябры, Я.Дыла, д-р Цьвікевіч; сябры Ф.Бурак і Міхальскі выбылі.

Інбелкульт пачаткова падзяляўся на 2 сэкцыі: прыродазнаўчую й этналёга-лінгвістычную. Апошняя мела 3 камісіі: тэрміналёгічную, слоўнікавую й літаратурна-дасьледавальную. У гэтым часе /1922 г./ выйшаў адзіны нумар воргану Інбелкульту п.н. "Адраджэньне" - літаратурна-навуковы весьнік Інбелкульту, пад рэдакцыяй Я.Лёсіка. Часапіс адчыняўся вершам Я.Купалы "Перад будучыняй".

Інбелкульту дасталася вялікая й незакончаная спадчына ад Навукова-Тэрміналёгічнай Камісіі. Камісія прыняла 2.500 беларускіх словаў-тэрмінаў і запраектавала 4.184 тэрміны. Дакончыць гэтую пільную й вельмі патрэбную працу й выпала на долю Інбелкульту. Іншым заданьнем Інбелкульту было апрацаваньне расейска-беларускага слоўніка. У працягу першых 2-х гадоў свайго існаваньня Інбелкульт і працаваў у гэтых 2-х кірунках.

Тэрміналёгічная Камісія этналёга-лінгвістычнай сэкцыі Інбелкульту працягвала апрацоўваньне навуковай тэрміналёгіі. За гэты час былі апрацаваны тэрміналёгіі: матэматыкі, тэорыі літаратуры, лёгікі й псыхалёгіі, геаграфіі, заалёгіі, касмаграфіі, батанікі, фізыкі, хіміі, падрыхтаваны да друку 2 падручнікі. Слоўнікавая камісія разглядала ранейшыя слоўнікі беларускае мовы /Насовіча, Дабравольскага, Гарэцкага і інш./, запісала на карткі 35.000 словаў і ўжо ў 1924 годзе слоўнік быў падрыхтаваны да друку.

Літаратурна-дасьледавальная камісія распрацавала анкету па

зьбіраньні народнай творчасьці й укладала зборнік беларускіх народных казак.

Прыродазнаўчая сэкцыя прыняла 2.48I тэрмін, разглядала праграмы дакладных навук у школах і ўлажыла некалькі беларускіх падручнікаў для школаў.

Апрача гэтага Інбелкульт абслугоўваў лектуры беларусазнаўства ў ВНУ і на заснаваных НКА "Вышэйшых Курсах Беларусазнаўства".

Ад I923/24 акадэмічнага году абсяг дзейнасьці Інбелкульту пашыраецца. Ён пачынае абрастаць сэкцыямі, як: агранамічная, пэдагагічная, літаратурна-мастацкая, культурна-гістарычная й мэдычная. Кажная сэкцыя мела сваё канкрэтныя заданьні, прыкладам заснаваная 8.IУ.I924 г. пэдагагічная сэкцыя, што складалася із спэцыялістых пэдагогаў г. Менску, некаторых сяброў Інбелкульту і выкладчыкаў беларускае мовы ў Менскіх сямігодках, прадбачвала наступныя праблемы:

I. Гістарычнае дасьледваньне беларускае школы,
2. Дасьледваньне сучаснага стану беларускае школы й быту настаўнікаў,
3. Пэдалёгічнае дасьледваньне бел. школьнікаў,
4. Мэтадалёгічную працу ў галіне беларускае школы,
5. Апрацоўку й перагляд бел. падручнікаў,
6. Дасьледваньне асяродзьдзя, што акружае школу.

У сьнежані I923 г. пры Інбелкульце арганізавалася Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.

Усьлед за сэкцыямі, узьнікаюць і камісіі: па укладаньню біяграфічнага слоўніка, па укладаньню слоўніка жывой беларускай мовы, дыялекталёгічная, бібліяграфічная, гістарыяграфічная, глебава-геалёгічная і інш.

## 4. Першая рэарганізацыя Інбелкульту

Пераймаючы спадчыну ад Навукова-Тэрміналёгічнай Камісіі НКА БССР у лютым I922 г., Інбелкульт яшчэ ня меў свайго статуту, але дзейнасьць ягоная за 2 гады гэтак, як і да гэтага дзейнасьць ягонай папярэдніцы, на гэтулькі ўзрасла й пашырылася, што вымагала уцягненьня ў працу новых сілаў ды й статутовага афармленьня, рэарганізацыі.







Ужо ў палове I924 г. Прэзыдыюм Інбелкульту замiж ранейшых адно старшыні й сакратара вырас да 4-х асобаў. Падрыхтаваны быў таксама Народным Камісарыятам Асьветы й статут, які й быў прыняты ЦВК і СНК БССР 8.УІІІ.I924 г.[I3]

Згодна гэтага першага статуту Інстытут Беларускае Культуры быў

> "...вышэйшай дзяржаўнай навуковай установай, што ўваходзіць у склад НКА БССР з мэтай плянавага навуковага дасьледваньня Беларусі ў дачыненьні мовы, літаратуры, этнаграфіі, гісторыі, прыроды, эканомікі, сацыяльна-грамадзкага руху і інш., а таксама аб'яднаньня ў гэтых галінах усёй працы, якая вядзецца, як навуковымі й мастацкімі установамі, гэтак і паасобнымі працаўнікамі"/пункт I і 2 статуту/.

Інбелкульт ад гэтага часу падзяляўся на сэкцыі й складаўся із правадзейных сяброў, сяброў-супрацоўнікаў і сяброў-карэспандэнтаў.

Статут Інбелкульту яшчэ тады ня меў срогіх вымаганьняў, патрэбных дзеля залічэньня ў ягоныя сябры. Прыкладам, у дачыненьні сяброў-супрацоўнікаў гаварылася, што імі могуць быць асобы, што давялі сваю падгатаванасьць да дасьледавальнай дзейнасьці, а ў дачыненьні да сяброў-карэспандэнтаў было глуха сказана, што сюды залічаюцца тыя асобы, што "дапамагаюць Інбелкульту ў выкананьні таго ці іншага канкрэтнага заданьня згодна яго пляну".

Такім чынам удзел у працы ІБК маглі прыймаць і некваліфікаваныя вучоныя. "Высока-кваліфікаваных навуковых сілаў у Беларусі ў тыя часы было вельмі мала, ды й для першага пачатку, калі даводзілася ня столькі ствараць новыя навуковыя каштоўнасьці, як працаваць над зьбіраньнем народнай творчасьці, апрацоўваць тэрміналёгію, складаць слоўнікі жывой беларускай мовы..."[I4] удзел кажнае культурнае адзінкі быў карысны.

Навуковая дзейнасьць Інбелкульту пачаткова разьвівалася выключна па лініі гуманітарных дысцыплінаў. Працы ў галіне натуралістычных і гаспадарскіх навук пачаліся ад I924 году.

Але й тады, як цьвердзіў д-р А.Цьвікевіч, "матар'яльныя ўмовы мала спрыялі працы Інбелкульту ў галіне прыроды й гаспадаркі /надзвычай нізкая аплата супрацоўнікаў і мізэрныя фонды ў параўнаньні зь іншымі аналёгічнымі установамі СССР/".

Пашырэньне БССР у I924 г. і практычныя мерапрыемствы, зьвязаныя з правядзеньнем тагачаснай бальшавіцкай нацыянальнай палі-

тыкі, сьціраваныя на прыцягненьне да шырэйшага супрацоўніцтва нацыянальнага актыву, выклікаюць большае зацікаўленьне дзейнасьцю Інбелкультy з боку дзяржаўных і партыйных ворганаў савецкае Беларусі.

У пачатку лістапада 1924 г. адбылася 3-яя сэсія ЦВК БССР. На паседжаньні 4 лістапада стаяў спэцыяльны даклад Наркамасьветы аб Інбелкульце. Даклад рабіў намесьнік Народнага Камісара Асьветы Ант. Баліцкі. У сваім дакладзе А. Баліцкі адзначаў, што Інбелкульт стаў разгортвацца ў стала дзейную навуковую ўстанову з тэндэнцыяй паступовага ператварэньня ў Беларускую Акадэмію Навук, але вялікай перашкодай у працы ІБК было ягонае цяжкае матарыяльнае становішча ў выніку цяжкага матарыяльнага стану Рэспублікі ў цэлым. Скупыя рэспубліканскія сродкі траціліся ў першую чаргу на самае неабходнае, патрэбы ІБК-ту адкладаліся да лепшай будучыні. У 1923/24 акад. годзе на Інбелкульт затрачана ўсяго 7.186 рублёў, а ў першыя 2 гады яшчэ менш. Адсутнасьць сродкаў не давала магчымасьці друкаваць багаты навуковы матар'ял, сабраны і апрацаваны Інбелкультам, прыкладам параўнаўчы расейска-беларускі слоўнік /больш за 50.000 словаў/ з гэтае прычыны ня быў надрукаваны.

Гаворучы дэлегатам сэсіі ЦВК аб тым, што Інбелкульт галоўную ўвагу быў зьвярнуў на апрацаваньне беларускай літаратурнай мовы, А.Баліцкі паясьняў гэта наступным тлумачэньнем:

> "... пры адсутнасьці ў народнай беларускай мове словаў для абазначэньня адцятых паняцьцяў трэба было складаць нэолёгізмы на аснове элемэнтаў і законаў беларускай мовы, а пры дыялектычнай блытаніне тэрмінаў трэба было зь некалькіх словаў выбраць адно слова-тэрмін, якое больш дакладна перадае сэнс таго ці іншага паняцьця. К сучаснаму моманту тэрміналёгічную працу ў вабхваце сярэдняй школы ў большай частцы льга лічыць скончанай. Ужо выдана з друку 6 выпускаў тэрміналёгіі й прыблізна гэтулькі-ж падрыхтавана да друку. Усяго разгледжана і ўхвалена Інбелкультам больш 15.000 беларускіх слоў-тэрмінаў..." 15

Апрача гэтага, супрацоўнікі й сябры Ін-ту ўкладалі падручнікі для школаў у беларускай мове, чыталі курс беларусазнаўства, дакладваў А.Баліцкі, а ў 1923 годзе Інстытут арганізаваў быў этнаграфічныя дасьледваньні Беларусі й археалёгічныя раскопкі. Зь ініцыятывы Інбелкультy было арганізавана выдавецтва "Савецкая Беларусь" /сюды ўвайшло й раней створанае каапэрацыйнае выдавецтва "Адраджэньне"/. На заканчэньне А.Баліцкі адзначыў неабходнасьць вывучэньня гістарычнага мінулага БССР, дзеля чаго прапанаваў стварыць гэтакія камісіі:



1. Па складаньню слоўніка біяграфіяў беларускіх дзеячоў, пачынаючы ад X ст. і да сучаснага моманту;

2. Этнаграфічная, дзеля распрацоўкі пытаньняў беларускае этнаграфіі, помнікаў мастацтва й старажытнасьці;

3. Гістарыяграфічная павінна распрацаваць беларускую гістарыяграфію;

4. Бібліяграфічная павінна ўзяцца за разгляд усіх друкаваных выданьняў 16.

Тэзы А.Баліцкага знайшлі падтрымку ў дыскусыйных выступленьнях моваведа Я.Лёсіка й рэктара БДУ У.Пічэты, але найбольш арыгінальным выступленьнем была наступная прамова па-расейску нейкага партыйнага "дзеяча", Ясько:

> "Я хотел сказать, что у нас в Белоруссии культура процветает. Когда я приехал в Минск и зашел на Рабфак, то там еще мало что было. Когда я теперь приехал, то видно, что там уже процветает культура для тех людей, которые были когда-то заброшены. Зашел я в школу и осыпали меня мозырские деревенские люди. Значит мы видим, что у нас культура есть, но докладчик нам говорит, что нужно собирать какие то старые материалы по Белоруссии. Я считаю, что может быть лишнее, потому что в старое время были эксплоататоры и мне кажется, что не надо собирать старого. Мне кажется, что лучшей культуры, чем теперь, нет на всем земном шаре..." 17

Што ў умовах бальшавіцка-камуністычнай дыктатуры, якая ёсьць "найлепшай культурай цэлай зямной кулі", вельмі небясьпечна займацца аб'ектыўным вывучаньнем мінулага свайго народу, беларускія нацыянальныя дзеячы, а ў тым ліку А.Баліцкі, Я.Лёсік, і У.Пічэта, пераканаліся на сваёй скуры значна пазьней, бо пасьля 1929 году. Тады-ж, гэная як-бы перасьцярога Ясько, засталася бяз водгуку.

Сэсія-ж ЦВК БССР прыняла тады наступную пастанову:

> "... У зьвязку з пашырэньнем БССР і з практычным правядзеньнем нацыянальнай палітыкі, Інстытут Беларускае Культуры набывае асабліва важнае дзяржаўнае й палітычнае значэньне. На падставе вышэйсказанага і ў сувязі з новымі заданьнямі ІБК, Сэсія ЦВК БССР пастанаўляе:
> 1. Ухваліць усе мерапрыемствы Прэзыдыюму ЦВК і СНК

накіраваныя на ўзмацненьне Інстытуту, пашырэньню ягонай дзейнасьці й канчатковаму арганізацыйнаму афармленьню. Паміж іншым сэсія адзначае правільна праведзеную рэарганізацыю Ін-ту, накіраваную для абслугоўваньня культурных патрэбаў ня толькі Беларусаў, але ўсіх нацыянальнасьцяў Беларусі.
2. Прызнаць патрэбным рэарганізаваць ІБК у сталую дзяржаўную вышэйшую навукова-дасьледчую, па тыпу Акадэміі Навук, установу, што павінна заняцца сыстэматычнай і плянавай апрацоўкай пытаньняў навукі й культуры, датычных БССР.
3. Даручыць НКА дапоўніць склад Ін-ту кваліфікаванымі навукова-марксыцкімі працаўнікамі і ўтварыць адпаведныя ўмовы для іхнай працы.
4. Зьвярнуць увагу ўсіх савецкіх верганаў на неабходнасьць максімальнага падтрыманьня Ін-ту ў яго працы па выпрацоўцы беларускай тэрміналёгіі ў розных галінах ведаў, што павінна палягчыць пераход нашых ВНУ на беларускую мову выкладаньня... 18

Згодна з пастановай 3-яй сэсіі ЦВК БССР, Наркамасьветы БССР зацьвердзіў новую структуру й штаты Інбелкульту. Асноўнымі часткамі Інбелкульту ад гэтага часу былі: прэзыдыюм, бібліятэка, выдавецтва, сталыя камісіі, ЦБ Краязнаўства й сэкцыі, жыдоўскі й польскі аддзелы.

Пры Інбелкульце ўтварыліся й працавалі гэткія камісіі: дыялектычная, па складаньню слоўніка жывой беларускай мовы, тэрміналёгічная, гістарычна-археалёгічная, па дасьледваньню рэвалюцыйнага руху, па дасьледваньню прыроды Беларусі і яе вытворчых сілаў, па дасьледваньню народнага багацьця БССР, па выданьню твораў Леніна і марксыцкіх твораў, па вывучэньню савецкага будаўніцтва, этнаграфічная й бібліяграфічная.

Сэкцыі: лінгвістычная, літаратурная, літаратурная група "Маладняк", мастацкая, гістарычна-археалёгічная, прыродазнаўчая, эканамічная, аграномічная, этнаграфічная.

У склад жыдоўскага й польскага аддзелу Інбелкульту ўвайшлі паводля новага статуту 3 камісіі /па вывучэньню нацыянальнай мовы, літаратуры й гісторыі/ і 3 сэкцыі: нацыянальнай мовы, літаратурная й гістарычная.

Калегія НКА БССР зацьвердзіла на трохгадовы тэрмін правадзейнымі сябрамі Інбелкульту наступныя асобы: 1. Праф. Усевалод Ігнатоўскі, 2. Алесь Чарвякоў /старшыня ЦВК БССР/, Язэп Адамовіч /старшыня СНК БССР/, 4. Алесь Крыніцкі /сакратар ЦК КП/б/Б/, 5. Зьмітра Жылуновіч, пісьменьнік, 6. Антон Баліцкі /намесьнік



Народнага Камісара Асьветы БССР/, 7. Зьмітра Прышчэпаў /Народны Камісар Земляробства/, 8. Эдмунд Русецкі, 9. Язэп Каранеўскі, 10. Аўген Усьпенскі, 11. Міхась Марозь, 12. Міхась Кудзелька /Міхась Чарот/, пісьменьнік, 13. Ігнат Мазур, 14. Сьцяпан Некрашэвіч, мовавед, 15. Аркадзь Смоліч, географ, 16. Язэп Дыла, 17. Іван Луцэвіч /Я.Купала/, пісьменьнік, 18. Канст. Міцкевіч /Я. Колас/, пісьменьнік, 19. Язэп Лёсік, мовавед, 20. Іван Цьвікевіч, доктар, 21. Міхась Грамыка, 22. Максім Гарэцкі, 23. Васіль Друшчыц, 24. Мікола Азбукін, прафэсар, 25. Міхась Піотуховіч, прафэсар, 26. Самуіл Плаўнік /Зьмітрок Бядуля/, пісьменьнік, 27. Міхась Мялешка, 28. Іван Пятровіч /Нёманскі/, пісьменьнік, 29. Браніслаў Эпімах-Шыпіла, прафэсар, 30. Міхась Барсукоў, 31. Лазар Зэліксон, 32. Бэрка Аршанскі, 33. Міхал Вайнгэр, 34. Ізраіль Сосіс, 35. Леў Мышкоўскі, 36. Якаў Левін, 37. Самуіл Агурскі, 38. Алесь Сержпутоўскі, этнограф, 39. Паўла Растаргуеў, прафэсар, 40. Іван Замоцін, прафэсар, 41. Алесь Кірсанаў, прафэсар, 42. Мікола Бліодуха, прафэсар, 43. Уладзімер Пічэта, прафэсар, рэктар БДУ, 44. Уладыслаў Кіркор, прафэсар, 45. Васіль Дзякаў, 46. Саламон Кацэнбоген, прафэсар, 47. Сымон Вольфсон, прафэсар, 48. Ільля Ошэровіч, 49. Вульф Нодэль, 50. Хаім Гольшток, 51. Саламон Рывэс, 52. Сьцяпан Гэльтман, рэктар Камвузу, 53. Часлаў Дамброўскі, 54. Ядвіга Гэльтман, 55 Віктар Фрышман, 56. Іван Віткоўскі, 57. Уладыслаў Даведчык.[19]

<u>Дзейнасьць ІБК пасьля рэарганізацыі</u>

31-га студзеня 1925 году на агульным сходзе рэарганізаванага Інбелкульту быў выбраны новы Прэзыдыюм у гэтакім складзе:
Старшыня - У.Ігнатоўскі;
Намесьнік Старшыні - А.Смоліч;
Сябры Прэзыдыюму - Зьм. Жылуновіч, С.Гэльтман /Кіраўнік Польскага Аддзелу/, Б.Аршанскі /Кіраўнік Жыдоўскага Аддзелу/;
Вучоны Сакратар - Я.Дыла.
Адбыліся пэўныя зьмены і ў сэкцыях. У склад Прэзыдыюму нова-утворанай камісіі па вывучэньню прыроды і яе вытворчасьці ўвайшлі: праф. Бліодуха, праф. Касаткін і Рагавы. Камісія кіравала ўсімі прыродазнаўчымі досьледамі Беларусі.

Сельска-гаспадарская сэкцыя /ранейшая аграномічная/ утварыла 2 камісіі: па укладаньню сельска-гаспадарскай тэрміналёгіі

й па рэдагаваньню ды апрацоўцы сельска-гаспадарскай літаратуры. Гэта апошняя абвесьціла конкурс на напісаньне 41 брашуры па сельскай гаспадарцы.

Апрача камісіяў паўсталі 3 падсэкцыі: мэльярацыйная, вывучэньня хатніх рамёслаў і лясная, што пачала адразу распрацоўку тэрміналёгіі зь лясных навукаў. У Прэзыдыюм сэкцыі ўвайшлі: Народны Камісар Земляробства З.Прышчэпаў, А.Смоліч і Ч.Родзевіч.

У Жыдоўскім аддзеле на чале Гістарычнае камісіі становіцца праф. І.Сосіс, лінгвістычнай - праф. Вайнгер і літаратурнай - д-р Н.Ойсьлендэр.

Мастацкая сэкцыя падзялілася на 3 падсэкцыі: тэатральную, вобразных мастацтваў і музычную.

У тэатральнай падсэкцыі распачалася праца па палепшаньню пастановак у Беларускім Дзяржаўным Тэатры з мастацкага боку й з боку мовы, а ў 1925/26 г. быў арганізаваны Драматычны сэмінар на 50 асобаў і сабрана каля 15.000 экспанатаў для Беларускага тэатральнага музэю. У музычнай падсэкцыі рабіліся захады да зьбіраньня, вывучэньня й гарманізацыі беларускай песьні, дзеля чаго былі вызначаны прафэсары музычнага тэхнікуму Прохараў і Аладаў, з аднучасным запрашэньнем ведамых гарманізатараў беларускай песьні з Масквы й Ленінграду.

У тэрміналёгічную камісію Ю.Дрэйзін здаў апрацаваную музычную тэрміналёгію.

Падсэкцыя вобразных мастацтваў прыймала ўдзел у Міжнароднай выстаўцы мастацтва ў Парыжы ды рабіла захады да напісаньня партрэту Ф.Скарыны. Рыхтаваўся бюст Ф.Скарыны й памятная дошка прысьвечаныя 400-годзьдзю беларускага друку й асобе Ф.Скарыны.

Сэкцыя вывучэньня рэвалюцыйнага руху ў Беларусі /старшыня сэкцыі - Агурскі, сакратар Іл.Барашка/ рыхтавала да друку зборнікі: 1. "Беларусь у часы польскай акупацыі", 2. "Альбом загінутых у часы рэвалюцыі рэвалюцыянераў", 3. "1905 год у Беларусі".

У зьвязку зь пераходам да Інбелкульту працы па ахове прадметаў старасьвеччыны, прыроды й мастацтва, было ўзьнята пытаньне аб перадачы пад загад Інстытуту ўсіх музэяў БССР.

На правох сталае камісіі працавала й заложанае ў сьнежні 1923 году Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, якое было ня толькі органам вывучэньня Беларусі з краязнаўчага боку, але й органам "сувязі Інбелкульту з шырокімі масамі"[20].



Гэтай мэце служыла форма арганізацыі самога Інбелкульту й форма ягонай працы.

> "... Практыка й статут аформілі яго не як замкнутую акадэмічную ўстанову, а як сыстэму навуковых таварыстваў, сэкцыяў і камісіяў. Сэкцыі й камісіі ІБК былі адкрытыя для кажнага жадаючага. Пасяджэньні іхныя былі адчыненымі для ўсіх зацікаўленых тым ці іншым навуковым пытаньнем, і кажная асоба, што жадала прыняць удзел у працы сэкцыі або камісіі, магла запісацца ў склад яе, навет ня будучы сябрам Інбелкульту..."21.

Прэзыдыюм Краязнаўчай сэкцыі складаўся тады з наступных асобаў: Гарбуз, Шчукевіч-Трэцьцякоў /рэдактар газэты "Беларуская вёска"/ і Скандракоў.

Больш выдатнымі практычнымі вынікамі краязнаўчай дзейнасьці гэтага часу былі: запіс 26 народных песень разам із мэлёдыямі на адзін голас, зроблены загадчыкам Касьцюковіцкай сямігодкі; залажэньне акруговага музэю краязнаўчым таварыствам у Клімавічах; выданьне Віцебскім Акруговым Таварыствам кніжак - "Беларуская Архітэктура", "Эканамічны нарыс БССР", "Беларускае мастацтва й беларуская літаратура", а таксама "Беларуска-расейскага слоўнічка" /2.000 карэнных словаў/[22].

Усе аддзелы й сэкцыі Інбелкульту пачалі былі дзейную падрыхтоўку да скліканьня ў Менску ўсясьветнага кангрэсу беларускіх вучоных. Мяркавалася запрасіць усіх вучоных, што працавалі ў галіне вывучэньня жыцьця й быту Беларусі.

На правох сэкцыі працавала пры Сельска-Гаспадарскім Інстытуце /ад 1925 г. Сельска-Гаспадарская Акадэмія/ ў Горках "Таварыства навуковага вывучэньня Беларусі".

Да атрыманьня собскага памешканьня й каштарысу /да 1925/26 апэрацыйнага году/ знаходзілася пры ІБК на правох сэкцыі і Усебеларускае аб'еднаньне паэтаў і пісьменьнікаў "Маладняк".

У палове 1925 году Інбелкульт меў сваю бібліятэку /5.000 томаў/ і выдавецтва, але ягоная рэарганізацыя не магла канчальна завяршыцца з прычыны неабсаджаньня некаторых адказных навуковых пасадаў.

З гэтай мэтай рабіліся ўсялякія захады дзеля сьцягваньня ў Менск на сталую працу штораз новых вучоных.

Гэтак пераехалі дзеля сталай працы ў ІБК-це: ведамы беларускі культурнік праф. Браніслаў Эпімах-Шыпіла зь Ленінграду, этнограф Сержпутоўскі, археограф Даўгялла, і датулешні рэктар Бакінскага ун-ту - гісторык Даўнар-Запольскі, меў пераехаць з Масквы й маваед праф. Растаргуеў.

Пераезд у Менск успомненых навукоўцаў спрычыніўся да большага ажыўленьня навукова-дасьледавальнай дзейнасьці Інбелкульту, і ўжо ад 2-ой паловы 1925 году Інстытут меў 10 асноўных сэкцыяў, ня лічучы 3-х сэкцыяў жыдазнаўства, "НАП" /Навуковая Арганізацыя Працы/; пачалася праца ў сталых камісіях /20 камісіяў/.

У верасьні 1925 г. пачала сваю працу гістарычна-археалёгічная камісія ІБК пад кіраўніцтвам праф. Даўнар-Запольскага. У сувязі з апрацаваньнем пляну гэтае камісіі, Даўнар-Запольскі разам із археографам З.Даўгяллам выяжджалі ў камандыроўку дзеля азнаямленьня з архівамі й музэямі Віцебску, Смаленску, Магілёва й Кіева.

З даручэньня гістарычна-археалёгічнай сэкцыі ў Нова-Быхаў выяжджаў навуковы сакратар сэкцыі /ён-жа навукогы сакратар Камісіі аховы помнікаў старасьвеччыны/ археалёг І.Сэрбаў дзеля агляду й далейшых раскопак першай у БССР стаянкі першабытнага чалавека на беразе Дняпра.

Пад кіраўніцтвам Сэрбава праводзіліся таксама раскопкі старажытных курганоў у Рылаўшчыне /3 вярсты ад Менску/.

Этнограф А.Сержпутоўскі, пасьля свайго перабраньня ў Менск, выяжджаў у Слуцкі павет для зьбіраньня матар'ялаў, патрэбных дзеля заканчэньня ягонай вялікай працы аб матар'яльнай культуры Случчыны.

Праф. заалёг Фадзюшын закончыў заплянаваны ім на 1925 год экспэдыцыйны досьлед па вывучэньню фаўны Беларусі. Ён прывёз у Менск багатыя зборы заалёгічнага матар'ялу з асабліва багатым прадстаўленьнем птацтва БССР /панад 1.000 скурак птушак/. Разам із зборам папярэдніх гадоў ды асабістай калекцыяй прафэсара было сабрана панад 3.000 адзінак прадстаўнікоў пярнатага царства. Збор гэты лёг у васнову фармаванага ад 1925 году Інбелкультам музэю прыроды Беларусі.

Правапісна-тэрміналёгічная камісія закончыла разгляд гісторыка-грамадзяназнаўчае тэрміналёгіі, што апрацаваў яе У.Чаржынскі. Пры гэтай-жа камісіі было ўтворана г.зв. Бюро адказных перакладаў на чале із У.Чаржынскім. Бюро мела задаваляць патрэбы ўсіх дзяржаўных і грамадзкіх інстытуцыяў па ўстанаўленьню афіцыйных тэкстаў у беларускай мове. Бюро пачало было прыймаць на сябе адказнасьць рэдагаваньня беларускага тэксту рознага характару справаздачаў інстытуцыяў і іншых дзяржаўных і грамадзкіх ворганаў.



Былы загадчык Смаленскага Губэрнскага Аддзелу Народнае Асьветы здаў быў у слоўнікавую Камісію Інбелкульту працу "Краёвы слоўнік Смаленшчыны", над якой ён працаваў пяць гадоў.

Пры канцы 1925 году ў партфэлі Інбелкульту было да 300 друкаваных аркушаў розных рукапісаў, паміж якіх былі працы з этнаграфіі - Сержпутоўскага, Шлюбскага, Гарэцкага; з кліматалёгіі - праф. Кайгародава і зь гісторыі - праф. Даўнар-Запольскага. Ня гледзячы на тое, што СНК БССР быў асыгнаваў дадаткова для Інбелкульту 10 тыс. рублёў для заканчэньня бюджэтнага году, сяродкаў на выданьне ўспомненых працаў ня было, бо агульная праца Інбелкульту значна пашырылася, а разам з гэтым павялічыліся й выдаткі.

Дзеля канчальнае падрыхтоўкі выданьняў Інбелкульту да друку Управа Інбелкульту вызначыла была выдавецка-рэдактарскі аддзел у складзе: Загадчык - А.Смоліч, палітычны рэдактар - Акулік, навуковыя рэдактары - Я.Лёсік і праф. Даўнар-Запольскі.

Урэшце, 17 сьнежня 1925 г. Прэзыдыюм Інбелкульту заснаваў бюро для справы наладжваньня культурнай сувязі з заграніцаю. У бюро былі вызначаны - Аршанскі, Жылуновіч і Смоліч.

У новым 1925/26 акадэмічным годзе Інбелкульту ўдалося задзіночыць навакол сябе ўсіх беларускіх мастакоў і зь вялікімі высілкамі арганізаваць Першую Ўсебеларускую Мастацкую выстаўку, дзе было выстаўлена больш за 1.200 экспанатаў беларускіх мастакоў і графікаў.

Заміж ранейшых 14 камісіяў, у гэтым годзе працавала адно 10. Не працавалі камісіі - дыялекталёгічная, вывучэньня рэвалюцыйнага руху, вывучэньня народнай гаспадаркі й савецкага будаўніцтва, камісія па выданьню твораў Леніна і этнаграфічная. Затое заснаваліся 2 новыя камісіі: навуковае бюро па сельска-гаспадарскай справе й вайскова-тэрміналёгічная, што разгарнула сваю

дзейнасьць у сувязі зь беларусізацыяй вайсковых тэрытарыяльных частак у БССР. /"Кароткая інфармацыя аб дзейнасьці Інбелкульту", Менск, 1926 г./.

Навуковая Рада Інбелкульту 6.II.1926 г. разгледзіла й прыняла выдавецкі плян Інбелкульту на год. Мяркавалася выдаць панад сто аркушаў навуковых працаў, а між імі - "Казкі" Сержпутоўскага, творы праф. Даўнар-Запольскага, праф. Фядзюшына, першы том акадэмічнага выданьня твораў М.Багдановіча. Прыродазнаўчая сэкцыя апрацавала 3.000 словаў па заалёгіі для слоўніка ў 3-х мовах - беларускай, лацінскай і расейскай. Да лета 1926 г. выдавецтва ІБК-ту выдала каля 40 назоваў кніг.

16-18-га лютага 1926 г. адбылася Нарада ў справе беларускай археалёгіі. Нарада праслухала даклады: 1. Праф. Даўнар-Запольскага й намесьніка загадчыка Цэнтрархіву БССР Мялешкі - Аб беларускіх археалёгічных фондах; 2. Даўгяллы - Аб Літоўскай мэтрыцы; 3. Сэрбава - Аб археалёгічных досьледах на рэчцы Ухлясьці; Нарада прызнала, што Літоўская мэтрыка мае захоўвацца ў межах СССР і лічыцца за БССР, як беларускі гістарычны акт.[23]

Гісторыка-археалёгічная камісія пачала была складаньне археалёгічнай карты БССР. На карце мелі быць паказаны курганы, магільнікі, гарадзішчы ды іншыя старажытныя помнікі краю[24]. Карта Менскае акругі ў палове 1926 г. ужо была складзена.

Шырока разгорненая дзейнасьць праф. М.Даўнар-Запольскага ў Менску была не да спадобы бальшавіком, і яму далі зразумець, што ён павінен выехаць зь Беларусі. Тады яшчэ час масавых арыштаў не настаў. Улетку 1926 году ён і пакідае Менск, перадаўшы перад гэтым Інбелкульту сваю каштоўную бібліятэку з адзінаццацёх тысячаў тамоў.

## 5. Вылучэньне Інбелкульту ў самастойную навукова-дасьледавальную ўстанову

А.Цьвікевіч з нагоды пазьнейшай рэформы Інбелкульту ў 1927 годзе ў сваім артыкуле "Інбелкульт, яго навуковая дзейнасьць і сучасная рэформа", пісаў, што:

> "... Для таго, каб палажыць першыя падваліны масавага разьвіцьця беларускае культуры Інбелкульту давялося прарабіць тры рэчы: папершае, сабраць па магчымасьці ўсе тыя сілы, якія ў гэтым жыцьці прыймалі ўдзел, падругое, сабраць усё тое, што было ў гэтай галіне папярэдне зроблена і ўжо, патрэйцяе, працаваць над далейшым удасканаленьнем беларускае культуры і, больш сьціслa разумеючы, над разьвіцьцём беларускае навукі..." 25



Усё гэта да пачатку 1926 году было ў значнай меры праароблена, галоўная ўвага цяпер павінна была быць зьвернута на "далейшае разьвіцьцё беларускай навукі".

Год працы Інбелкульту на аснове зацьверджанага 25.VII.1924г. статуту паказаў, што Інбелкульт пачынае ў арганізацыйным сэньсе перарастаць тыя формы, у якія ён укладаўся пачаткова статутам 1924 г. Таму, у пачатку 1926 г. Прэзыдыюм Інбелкульту прыступіў да грунтоўнай пераапрацоўкі статуту, плянуючы, у хуткім часе, пасьля абмеркаваньня яго ў Навуковай Радзе ІБК, перадаць на зацьверджаньне належных інстанцыяў. Справа гэта, аднак адцягнулася да 1927 году, бо ў гэтым часе ўзьніклі новыя праблемы. Перадусім, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і СНК БССР, прызнаўшы каштоўнасьць працы Інбелкульту ды ўсё большае пашырэньне абсягу ягонай дзейнасьці і ўплыву на шырокія масы насельніцтва, 12 лютага 1926 г. вынес наступную пастанову:

> "... Заўважаючы важнасьць работ Ін-ту Беларускае Культуры ў галіне навуковых досьледаў прыродных багацьцяў Рэспублікі, распрацоўкі навукі і пытаньняў беларускай, жыдоўскай і польскай культураў, а таксама прыймаючы пад увагу пашырэньне кола яго працы й мацнеючы ўплыў на культурную працу краю, Прэзыдыюм ЦВК і СНК пастанаўляюць:
> 1. Вылучыць Інстытут Беларускае Культуры із складу НКА, стварыўшы яго, як самастойную ўстанову, якая існуе непасрэдна пры Савеце Народных Камісараў.
> 2. Надаць старшыні Прэзыдыюму Інстытуту Беларускае Культуры права ўваходзіць непасрэдна ў Савет Народных Камісараў з усімі пытаньнямі й прапановамі, якія датычаць Інстытуту Беларускае Культуры.
> 3. Зацьвердзіць старшынёй Прэзыдыюму ІБК У.М.Ігнатоўскага і ягоным намесьнікам Я.Н.Каранеўскага.
> 4. У зьвязку з пашырэньнем работ ІБК, задаволіць хадайнічаньне тав. Ігнатоўскага У.М. аб асвабаджэньні яго ад пасады Народнага Камісара Асьветы.
>
> Старшыня ЦВК БССР - Чарвякоў,
> Старшыня СНК БССР - Яз. Адамовіч,
> Сакратар ЦВК БССР - З. Чарнушэвіч". 26
>
> 12 лютага 1926 г."

У зьвязку з гэтымі новымі вымогамі дзейнасьці Інбелкульту, на адным із агульных сходаў Інстытуту, статутовая структура На-

вуковае Рады й Прэзыдыюму была часткова зьмененая. У красавіку 1926 г. у склад Навуковае Рады ўваходзілі: 1/ увесь склад Прэзыдыюму Інбелкульту, 2/ Старшыні ўсіх ягоных сэкцыяў і, апрача таго: 3/ дзевяць асобаў, абраных паасобнымі групамі сяброў Інбелкульту - ад правадзейных сяброў, ад сяброў-супрацоўнікаў і ад сяброў-карэспандэнтаў /па 3 асобы ад кажнай групы/. Прэзыдыюм таксама зьмяніўся: там было 9 асобаў - старшыня, два намесьнікі, два сакратары, два прадстаўнікі ад нацыянальных аддзелаў. Пэрсанальны склад Прэзыдыюму быў наступны: Старшыня - У. Ігнатоўскі; Намесьнікі - Я.Каранеўскі і А.Смоліч; Навуковы Сакратар - А.Цьвікевіч; Сакратар адміністрацыйна-гаспадарскіх справаў - М.Бялуга; Сябры Прэзыдыюму - З.Жылуновіч і А.Ажгірэй; прадстаўнік Жыдоўскага Аддзелу - Б.Аршанскі, прадстаўнік Польскага Аддзелу - С.Гэльтман.[27]

Далей, ужо ў палове 1926 г., асабліва ў урадавых колах Савецкай Беларусі паўстае першы раз думка аб рэарганізацы Інбелкульту ў Беларускую Акадэмію Навук.

Думку гэтую не праміну абгрунтаваць Урад БССР у сваёй справаздачы й Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту СССР 4-га ліпеня 1926 г. у Маскве, а ў выніку здабыў наступную рэзалюцыю ЦВК СССР:

> "... Прыймаючы пад увагу складанасьць нацыянальнага пытаньня ў Беларусі, дзякуючы рознастайнаму складу яе насельніцтва, Прэзыдыюм ЦВК Саюзу адзначае, што Беларускі Урад здолеў правільна ў васноўным вырашыць важнейшыя пытаньні нацыянальнай палітыкі, аддаючы належную ўвагу пытаньням беларускай культуры, забясьпечыўшы яе далейшае разьвіцьцё. Пры гэтым Прэзыдыюм ЦВК Саюзу асабліва падкрэсьлівае вялікае значэньне для паказанай мэты Інстытуту Беларускай Культуры, які ў сваім далейшым разьвіцьці павінен ператварыцца ў Беларускую Акадэмію Навук..." 28

Атрымаўшы апрабату сваёй дзейнасьці й заручыўшыся падтрымкай вярхоўнага выканаўчага воргану Савецкага Саюзу, Прэзыдыюм ЦВК БССР із свайго боку выслухоўвае справаздачу Інстытуту Беларускае Культуры і 10.VIII.1926 г. выносіць сваю рэзалюцыю:

> "... адзначыць узмацненьне ўплыву Інбелкульту на ўсю навуковую й дасьледавальную працу ў рэспубліцы й разам з тым лічыць неабходным з 1926/27 акадэмічнага году надаць Інбелкульту напрамак у бок паступовага ператварэньня яго ў Беларускую Акадэмію Навук..." 29.



## Дзейнасьць ІБК як самастойнай установы

Пераход Інбелкульту на самастойнае існаваньне ды канчатковая яшчэ няўсталенасьць ягонай будучай структуры ў зьвязку з успомненымі вышэй урадавымі пастановамі спрычыніліся да паўстрыманьня з абмеркаваньнем праектаванага Прэзыдыюмам у пачатку 1926 году новага статуту ІБК. Вылучэньне Інбелкульту із сыстэмы НКА БССР і перавод яго на самастойны бюджэт значна ўзмоцнілі ягонае фінансавае становішча. Гэтак, калі ў першым 1924/25 акадэмічным годзе існаваньня Інбелкульту, як статутовай вышэйшай навукова-дасьледавальнай установы, асыгнаваньні на ўтрыманьне Інстытуту складалі 77.906 рублёў, а ў 1925/26 г. - 205/26 годзе - 205.272 руб., то на 1926/27 акадэмічны год было прызначана 329.530 руб., а ў тым ліку на набыцьцё собскай друкарні й выдавецтва - 90.000 руб.[30]

Цяпер ужо маглі працаваць наступныя дапаможныя ўстановы Інбелкульту, як:

а/ Рэдакцыйна-выдавецкі аддзел, заданьнем якога было выдаваньне навуковых працаў Ін-ту /у 1926 г. надрукавана каля 200 друк. аркушаў, а каля 400 аркушаў падрыхтавана да друку/ і

б/ Бібліятэка, што ўжо ў 1927 г. мела больш за 20.000 томаў;

в/ Музэй прыроды.

Павялічэньне ліку працаўнікоў Інбелкульту /77 сталых сяброў, 69 сяброў-супрацоўнікаў і 60 сяброў дапісчыкаў/ дае магчымасьць пашырыць і паглыбіць усю дзейнасьць Інстытуту.

Працаўнікі ІБК паводля іхнага нацыянальнага складу ў 1926 годзе разьмяркоўваліся наступным чынам: Беларусаў - 120, Жыдоў - 40, Палякаў - 22, Расейцаў і іншых - 24[31]. Усе яны інтэнсыўна працавалі ў розных сэкцыях і камісіях Інстытуту, абслугоўвалі лектурай ВНУ Беларусі, праводзілі ўсялякія навуковыя экспэдыцыі.

Слоўнікавая камісія Інбелкульту наладзіла была сувязь із Смаленскам, Гомелем і Невелем, што былі тады паза межамі БССР, дзеля складаньня слоўнікаў тамашняй беларускай мовы, і сабрала з гэтай мэтай да 120 тысяч словаў жывой беларускай мовы, а пад канец 1926 г. здала ў друк "Беларуска-расейскі слоўнік" М.Байкова й С.Некрашэвіча на 360 бачынаў, што меў каля 30.000 словаў.

Вайсковая Камісія выдала пабеларуску "Часовы дысцыплінарны

статут" і "Часовы баявы статут", здала ў друк "Часовы стралковы статут" ды рыхтавала да друку практычныя вайсковыя слоўнічкі па 10.000 словаў кажны /беларуска-расейскі й расейска-беларускі/.

Выйшлі ў сьвет музычная й лясная тэрміналёгія ды І-шы выпуск мэдычна-анатамічнай тэрміналёгіі.

Музычная падсэкцыя арганізавала беларускі студыйны хор, што пазьней рэарганізаваўся ў дзяржаўную капэлю.

Тэатральная падсэкцыя /старшыня М.Красінскі/ распрацоўвала пытаньні гісторыі беларускага тэатру, а менавіта: беларуская батлейка, тэатр часоў Марцінкевіча, тэатр часоў паншчыны, дзейнасьць беларускага тэатру часоў адраджэньня, пэрыяду Ігната Буйніцкага, тэатр "Беларускае т-ва камэдыі й драмы". Зьбіраліся матар'ялы да тэатральнага музэю, у які ў 1927 годзе В.Ластоўскі перадаў архіў тэатру Буйніцкага /1910-11 год/, што складаўся з 13 афішаў, 17 праграмаў і інш.

Праф. Сержпутоўскі, вывучаючы ў Гомельшчыне, Арлоўшчыне ды Браншчыне пытаньні беларускае этнаграфіі насельніцтва, выкрыў там цікавую групу, што ў іншых частках Беларусі ня сустракалася. Гэта былі казакі, што ніколі ня былі пад прыгонам, гаварылі пабеларуску, але было іх тады ўжо вельмі мала.

Моцна ажывілася дзейнасьць краязнаўчых арганізацыяў, якія пры канцы 1926 г. аб'ядноўвалі больш за 6.000 сяброў. ЦБ Краязнаўства абменьвалася сваімі выданьнямі зь Вільняй, Коўняй, Варшавай, Рыгай і Ляйпцыгам. Ад другой паловы 1926 г. пры ЦБ Краязнаўства пачала працаваць польская сэкцыя ў складзе Загадчыка польбюро Наркамасьветы Я.Клыса і інструктара польбюро Ч.Дамброўскага. Заданьнем сэкцыі было арганізаваньне польскіх сэкцыяў пры краязнаўчых таварыствах на мясцох, гурткоў пры польскіх сельскіх саветах і школах ды кіраваньне іхняй працай. Цікавай навіной у працы Інбелкульту 1926-га году былі першыя навуковыя камандыроўкі заграніцу.

Гэтак Прэзыдыюм ІБК быў вызначыў такія камандыроўкі: у Польшчу й Чэхаславаччыну - С.Некрашэвічу й Г.Гарэцкаму, а ў Нямеччыну - дац. Сельска-Гаспадарскай Акадэміі ў Горках - Кісьлякову.

Найважнейшай падзеяй у працы Інбелкульту было скліканьне й правядзеньне Акадэмічнай Канфэрэнцыі па рэформе правапісу й графікі беларускае мовы. Канфэрэнцыя адбылася ў Менску й працавала ад 14-га да 21-га лістапада 1926 г.



Прэзыдыюм ІБК запрашаў на Канфэрэнцыю выдатнейшыя навуковыя сілы СССР і заграніцы.

Із Заходняе Беларусі былі запрошаны прадстаўнікі Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні - праф. Б.Тарашкевіч, Антон Луцкевіч, Кс. Адам Станкевіч, С.Рак-Міхайлоўскі, кс. Г.Абрантовіч, Г.Трэпка, др. Я.Станкевіч, а з польскіх вучоных - праф. Ян Развадоўскі /Кракаў/, дац. Я.Голомбэк і праф. Я.Лось /Варшава/; з Чэха-Славаччыны - праф.Чэрны, праф. В.Вандрак /Брно/, праф. Дарашэнка /Прага/, праф. Е.Ляцкі, беларускі пісьменьнік У.Жылка; з Латвіі - К.Езавітаў, В.Пігулеўскі, дац. Блесэ, паэта Ян Райніс /Рыга/; зь Летувы - В.Ластоўскі, А.Галавінскі, праф. Біржышка; зь Нямеччыны - філёлёгі Фасмэр і Бэрнэхер ды шмат іншых. Было выслана таксама запрашэньне Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту ў Чыкага /ЗША/. Хоць і ня ўсе із запрошаных маглі з тых ці іншых прычынаў прыбыць на Канфэрэнцыю, аднак, яна па складу сваіх удзельнікаў далёка выйшла за межы беларускіх навуковых канфэрэнцыяў і мела характар агульнаславістычнай канфэрэнцыі. У ёй прыймалі ўдзел лепшыя моваэнаўцы Інбелкульту й Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, як праф. П.Бузук, Я.Лёсік, С.Некрашэвіч, дац. Воўк-Левановіч, А.Баргдановіч, Л.Цьвяткоў, выкладчыкі беларускае мовы ў Пэдтэхнікумах і прадстаўнікі навукі ад рэспублік СССР, а таксама й заграніцы.

Ад РСФСР на Канфэрэнцыі былі: праф. П.Растаргуеў /Маскоўскі Унівэрсытэт/, праф. Гарчынскі /Ленінградзкі Унівэрсытэт/ і А. Сяржпутоўскі, ад УССР - дац. Німчынаў /Харкаўскі Інстытут Народнае Асьветы/, ад Нямеччыны - праф. славісты Фасмэр /Бэрлінскі Унівэрсытэт/, ад Польшчы - праф. Голомбэк /дац. Варшаўскага Унівэрсытэту/, ад Летувы - праф. Біржышка /рэктар Ковенскага Унівэрсытэту/, ад Лацьвіі - дац. Блесэ /Унівэрсытэт у Рызе/ і народны паэта Ян Райніс.

Прыяжджалі на Канфэрэнцыю й прадстаўнікі беларускай нацыянальнай меншасьці Летувы /дасьледчык беларускай мовы В.Ластоўскі рэд. час. "Крывіч" і старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Коўні А.Галавінскі, Латвіі - рэдактар газ. "Голас Беларуса" ў Рызе - К.Езавітаў і дырэктар беларускай гімназіі ў Люцыне В.Пігулеўскі, Чэха-Славаччыны - паэта Ул.Жылка, рэдактар час.

 



"Прамень" у Празе. Большасьць тых асобаў, што былі запрошаны на Канфэрэнцыю, але з розных прычынаў не маглі на яе прыехаць, прыслалі былі свае прывітаньні і заўвагі да беларускага правапісу, прыкладам: прафэсары Адольф Чэрны, Гуер і Ляцкі /Чэха-Славаччына/, праф. Бодуэн дэ-Куртэнэ /Польшча/, праф. Сьвянціцкі /Галіцыя/, акад. Ляпунаў /РСФСР/, прафэсары Е.Тымчанка й А.Курыла /УССР/ і інш.

Не маглі прыехаць на Канфэрэнцыю ведамыя беларускія мовавэды й першыя творцы беларускага правапісу Бр.Тарашкевіч і А.Луцкевіч, а таксама д-р Я.Станкевіч і д-р М.Дварчанін /польскія тагачасныя ўлады адмовілі ім выдаць загранічныя пашпарты/.

Праца Канфэрэнцыі адбывалася на пленарных пасяджэньнях і ў камісіях: графічнай, правапіснай і літаратурнай. За тыдзень працы Канфэрэнцыя разглядзела галоўныя пытаньні правапісу й графікі, а таксама выслухала некалькі рэфэратаў зь беларускай мовы й літаратуры.

З галіны мовы ў праграму Канфэрэнцыі былі ўключаны рэфэраты: "Сучасны стан вывучэньня беларускае мовы" - С.Некрашэвіча,"Беларуская мова сярод іншых славянскіх моваў" - П.Бузука, "Беларускія элемэнты ў польскай мове" - Л.Цьвяткова, гэты рэфэрат зь недахопу часу на Канфэрэнцыі ня чытаўся.

Цэнтральнымі пунктамі працы Канфэрэнцыі былі пытаньні рэформы беларускага правапісу й абэцэды. На тэму рэформы абэцэды былі 2 рэфэраты: Я.Лёсіка й праф.П.Растаргуева; у пытаньнях рэформы правапісу былі таксама 2 рэфэраты: Я.Лёсіка й С.Некрашэвіча.

Зь беларускай літаратуры Канфэрэнцыя выслухала наступныя рэфэраты: "Асноўныя этапы разьвіцьця новай беларускай літаратуры" - праф. М.Піотуховіча; "Нашаніўскі пэрыяд у беларускай літаратуры" - дац. М.Гарэцкага; "Дасьледваньне беларускай літаратуры XIX ст. да 1863 г." - праф. Варшаўскага Унівэрсытэту Голомбэка; "Паэтычнае мастацтва навейшае беларускае літаратуры" - дац. Вазьнясенскага.

### 6. Рэформа Інбелкульту 1927 году

Ад 1926/27 акадэмічнага году Інбелкульт яшчэ больш паглыбіў сваю працу. Якасьць працы ўсіх сэкцыяў і камісіяў палепшылася. Узмоцнілася праца над вывучэньнем прыроды Беларусі /дагэтуль прыродаведныя дасьледваньні адставалі ад гуманітарных/, пашырылася



геалёгічнае вывучэньне Беларусі.

Інбелкульт у пачатку 1927 г. меў 224 сяброў, зь якіх 83 праўдзейных сяброў, 74 сяброў супрацоўнікаў і 67 сяброў-карэспандэнтаў.

Па сваёй арганізацыйнай структуры, зьместу працы й новымі жыцьцёвымі запатрабаваньнямі, Інбелкульт далей ужо ня мог укладацца ў рамкі старога статуту 1924 году. Патрэба ягонай зьмены адчувалася ўжо ў 1926 г., але тады яшчэ Інбелкульт аставаўся "ня толькі навукова-дасьледчай установай, а й культурна-грамадзкім асяродкам, наваколл якога групаваліся ўсе лепшыя культурныя й грамадзкія сілы БССР"[32].

Дасюлешнюю ролю й значэньне Інбелкульту добра вызначыў А. Цьвікевіч:

> "... Галоўная сутнасьць Інбелкульту... зьмяшчалася ў тым, што ён быў актыўнай баявой адзінкай, якая... прабіла шлях да прызнаньня ідэі беларускай сярод таўшчы забабонаў, недаверу, скэптычнай крытыкі, а то й проста адкрытай варожасьці, якой сустракала ідэю беларускага культурнага адраджэньня абруселая ці спольшчаная маса абывацельства, мяшчанства й чорнай сотні..." 33

Цяпер-жа:

> ранейшы лёзунг - зьбіраньня навакол Інбелкульту культурных сілаў, незалежна ад іхнай навуковай кваліфікацыі, адыходзіць у гісторыю. На чаргу дня выступае новы лёзунг - даць высокакваліфікаванага навуковага работніка й забясьпечыць ягоную працу адпаведнымі тэхнічнымі варункамі..." 34

Неабходна было Інбелкульту із установы навукова-практычнага ўхілуператварыцца на ўстанову навукова-акадэмічнага характару дзейнасьці, а дзеля гэтага й зьмяніць статут. Прэзыдыюм Інбелкульту 27.I.1927 г. утварае дзеля апрацаваньня новага статуту адмысловую камісію ў складзе: У.Ігнатоўскага, Я.Каранеўскага й М.Бялугі. Увесь цяжар гэтае працы пераймае на сябе У.Ігнатоўскі.

10.IУ.1927 г. Навуковая Рада Інбелкульту на сваім пасяджэньні з удзелам прадстаўнікоў ад усіх сэкцыяў і навуковых камісіяў, разгледзіўшы праект новага статуту Інбелкульту, прыняла пастанову аб рэарганізацыі ІБК у Беларускую Акадэмію Навук, а камісіі ў складзе Пятровіча, Смоліча й Некрашэвіча даручыла апрацаваць на імя СНК БССР дакладную запіску[35].

Канчальнае ператварэньне Інбелкульту ў Акадэмію Навук уск-

 

ладнялася наступнымі акалічнасьцямі: перадусім, да гэтае справы па рознаму ставіліся кіраўнічы сьведамы беларускі нацыянальны актыў разам із нацыянал-камуністымі, згрупаванымі ў Інбелкульце ды аб'яднанымі галоўнай ідэяй усяе працы - нацыянальнага адраджэньня, разьвіцьця й далейшага паглыбленьня беларускае народнае культуры, і беларускія нацыянал-бальшавікі /Я.Адамовіч, З. Жылуновіч, А.Чарвякоў/, што, не адкідаючы падтрымкі адраджэнцкае нацыянальнае дзейнасьці, былі падатлівымі на русыфікацыйна-бальшавіцкі ціск і ўплывы.

І тыя й другія, у прынцыпе ня былі супраць прэстыжовай вартасьці ператварэньня Інбелкульту ў Акадэмію, адно першыя, прадбачваючы пагрозу страты нацыянальнае самастойнасьці інстытуцыі, бо з мамэнтам таго ператварэньня пачнецца інтэнсыўнейшае апанoўваньне Інстытуту-Акадэміі бальшавіцкімі элемэнтамі, з насаджаньнем бальшавіцка-русыфікацыйнага зьместу ўва ўсе галіны дзейнасьці ўстановы, - стараліся адцягнуць тую часіну ператварэньня.

Дзеля нацыянал-бальшавікоў, згрупаваных пераважна ўва ўрадавых колах БССР, важнейшы быў сам прынцып прэстыжу, і яны справу ператварэньня стараліся прысьпешыць. Аднак, будучы сябрамі "самастойнага" ўраду БССР, беларускія нацыянал-бальшавікі не маглі так хутка, як ім хацелася, зьдзейсьніць свае жаданьні. Панад урадамі стаяла бальшавіцкая камуністычная партыя - запраўдны гаспадар усяго жыцьця, што:

> "...на ўсім працягу існаваньня Інбелкульту ўважна сачыла за ягоным ростам, выпраўляла ягоныя недахопы й падтрымлівала сваім кіраўніцтвам".36

Як толькі ЦВК і СНК БССР пачалі фарсаваць справу ператварэньня Інбелкульту ў Акадэмію Навук, гэтым адразу-ж занялася ўспомненая "апякунка" Інбелкульту. 24.XII.1926 г. бюро ЦК КП/б/Б ставіць на сваім пасяджэньні справаздачу пра становішча й дзейнасьць Інбелкульту. У.Ігнатоўскаму, як аўтарытэтнаму тады яшчэ сябру ЦК, удаецца ў сваёй справаздачы пераканаць бюро ў несвоечасовасьці яшчэ ператварэньня Інбелкульту ў Акадэмію ды гэтым самым адкіліць на нейкі час ад Інбелкульту галоўную небясьпеку. Пасьля справаздачы, бюро вылучае спэцыяльную камісію дзеля апрацаваньня ў гэтай справе рэзалюцыі. Рэзалюцыя, прынятая 31.XII. 1926 г., ня ў прыклад рэзалюцыяў ЦВК і СНК БССР, знаходзіць цэлы шэраг "недахопаў" у працы Інбелкульту, паміж якімі фігуруюць:



"недастатковае яшчэ ўцягненьне ў краязнаўчыя арганізацыі рабочых і сялян і частковую нявыстарчальнасьць кваліфікацыі навуковых працаўнікоў Інбелкульту, працу Інстытуту ў дрэнным будынку".

Другі Усебеларускі Краязнаўчы Зьезд, што адбыўся ў лютым 1927 году, меў 187 дэлегатаў, зь якіх было: ад раёнаў - 82, ад акруговых краязнаўчых арганізацыяў - 34, ад ВНУ і тэхнікумаў - 21, ад цэнтральных установаў - 50. Усе тыя дэлегаты прадстаўлялі каля 9.000 сяброў краязнаўчых арганізацыяў.

Першы-ж Краязнаўчы Зьезд у лютым 1926 году меў 147 дэлегатаў, што прадстаўлялі ІБК, ЦБК, музэі і 87 краязнаўчых арганізацыяў, абыймаючых 5.000 сяброў.

Гэтыя лікі былі запярэчаньнем "Недахопаў" у краязнаўчай працы, выстаўленых рэзалюцыяй ЦК КП/б/Б у сьнежні 1926 г. Тады, 15.I.1927 г., бюро ЦК КП/б/Б вымушана было яшчэ раз вярнуцца да справы Інбелкульту й прыняць дадатковую рэзалюцыю, што ўважала:

> "... 1. Лічыць у даны момант несваячасовым рэарганізацыю Інбелкульту ў Акадэмію Навук.
> 2. Узяць курс на ўтварэньне Акадэміі Навук у БССР шляхам разьвіцьця й паглыбленьня навуковай працы Інбелкульту.
> 3. Прызнаць неабходным рэарганізацыю Навуковай Рады Інбелкульту ў Акадэмічную Раду, якая павінна сканцэнтраваць навуковую працу, аб'ядноўваючы працаўнікоў найбольш блізкіх па навуковых заслугах да годнасьці акадэмікаў..." 37

СНК БССР 2-га чэрвеня 1927 году адно зацьвердзіў новы статут Інбелкульту, падобны да статутаў Усесаюзнай і Украінскай Акадэміі Навук, але ўжо нічога не казаў у пастанове аб ператварэньні Інстытуту ў Акадэмію, бо гэтую справу ЦК КП/б/Б прызнаў "несваячасовай".

Паводля новага статуту Інстытут Беларускае Культуры быў вышэйшай навуковай дзяржаўнай установай у БССР і знаходзіўся пры СНК БССР.

Параграф 2-гі статуту ўстанаўляў, што: "Інстытут Беларускае Культуры мае наступныя заданьні:

а/ пашырэньне й паглыбленьне навуковых дысцыплін, якія знаходзяцца ў яго кампэтэнцыі, узбагачаючы іх новымі выкрыцьцямі й мэтадамі дасьледваньня;

б/ плянавае дасьледваньне Беларусі з боку яе прыродных выт-

ворчых сіл, вывучэньне й дапамога іхнаму выкарыстаньню, народнай гаспадаркі, права, грамадзкага руху, мовы, літаратуры, гісторыі, этнаграфіі і іншыя;

в/ аб'яднаньне ў гэтых галінах усяе навуковае працы, якая вядзецца навуковымі ўстановамі БССР і паасобнымі вучонымі;

г/ прыстасаваньне навуковых прац і вынікаў навуковых досьледаў да практычнага выкарыстаньня ў прамысловасьці й культурна-эканамічным будаўніцтве БССР...".

Статут прадугледжваў 2 асноўныя аддзелы - гуманітарных навук, прыроды й гаспадаркі ды ЦБ Краязнаўства, як аўтаномную інстытуцыю. Заміж нацыянальных аддзелаў былі нац. сэктары, катэдры й камісіі, якія плянавалі сваю працу з асноўнымі аддзеламі.

> "... Ранейшая арганізацыйная структура Інбелкульту, пры якой ён складаўся із сэкцыяў больш падобных да навуковых аўдыторыяў, чым да навукова-дасьледавальных габінэтаў, канчаткова ліквідавалася. Месца сэкцыяў занялі катэдры, як цэнтры навукова-дасьледавальнай дзейнасьці із срога азначанымі заданьнямі, пад кіраўніцтвам адказных спэцыялістых ды забясьпечаньня неабходным абсталяваньнем. Камісія, як рабочы ворган Інстытуту, захоўваецца, але з больш вузкім спэцыяльным прызначэньнем, як дапаможны калегіяльны ворган пры катэдры, што распрацоўвае пэўныя канкрэтныя заданьні катэдры. У склад камісіі ўваходзіць акрэсьлены лік штатных працаўнікоў зь цьвёрда азначанымі функцыямі.
> ... Комплекс блізкіх па аб'екту дасьледваньня катэдраў, разам з належнымі да яго дапаможнымі ўстановамі, стварае адпаведны інстытут". 38

Таму, што ў працягу першых 5-ці гадоў існаваньня Інбелкультуня меў магчымасьці стварыць зьмены новых маладых кадраў дасьледавальнікаў, быў устаноўлены цяпер Інстытут асьпірантаў.

Пры канцы 1927 г. на аснове новага статуту быў зацьверджаны й новы Прэзыдыюм Інбелкульту ў наступным складзе: Прэзыдэнт Інбелкульту - У.Ігнатоўскі; Віцэ-прэзыдэнт Інбелкульту - М.Бялуга; Неадменны Сакратар - С.Некрашэвіч; Старшыня Аддзелу Гуманітарных Навук - С.Некрашэвіч; Старшыня Аддзелу Прыроды й Гаспадаркі - А.Смоліч; Загадчык Польскага сэктару - С.Гэльтман; Загадчык Жыдоўскага сэктару - Б.Аршанскі;

Гэтаксама СНК БССР зацьвердзіў і новы склад правадзейных сяброў Інбелкульту, прызначыўшы іх за кіраўнікоў паасобных катэдраў: Прафэсар У.Ігнатоўскі - катэдра гісторыі Беларусі; С. Некрашэвіч - катэдра жывой беларускай мовы; Я.Лёсік - катэдра



беларускай навуковай мовы; Праф. А.Смоліч - катэдра геаграфіі; Праф. І.Замоцін - катэдра беларускай літаратуры; Праф. А.Ясінскі - катэдра сусьветнай гісторыі; Заслужаны праф. У.Пічэта - катэдра гісторыі права й гаспадаркі Беларусі; Праф. М.Бліодухо - катэдра геалёгіі; Праф. Я.Афанасьеў - катэдра глебазнаўства; Вацлаў Ластоўскі - катэдра этнаграфіі; Народны паэта Ів.Луцэвіч /Янка Купала/ - кляса прыгожага пісьменства; Народны паэта К. Міцкевіч /Якуб Колас/ - кляса прыгожага пісьменства; Зьмітра Жылуновіч - кляса прыгожага пісьменства; Праф. Ст.Матулайціс - катэдра гісторыі Летувы ў сувязі зь гісторыяй Беларусі.[29]

**Галоўныя мамэнты дзейнасьці рэфармаванага ІБК. у 1926/27 ак.годзе**

Яшчэ задаўга да рэформы Інбелкульту, бо ў кастрычніку 1925 году, была надрукаваная інструкцыя да зьбіраньня слоўнікавага матар'ялу, а ў пачатку 1926 году разаслана ў ліку 7.500 экз. пабеларуску й 800 экз. у перакладзе на расейскую мову. Яна была перадрукавана ў 1926 г. ў Рызе і ў Віленскіх газэтах. Тэрмін збору словаў мэтадам суцэльнага запісу /усе беларускія словы, што ўжываюцца ў данай мясцовасьці/ вызначаўся інструкцыяй да І-га студзеня 1927 г. У працягу студзеня 1927 г. слоўнікавая камісія атрымала 26.432 картак словаў, із Заходняй Беларусі 756 картак словаў. Да І-га лютага ў камісіі было зарэгістравана да 240 тыс. картак-словаў[40].

У працягу 1926/27 акадэмічнага году адбыліся чатыры этнаграфічныя экспэдыцыі:

1/ пад кіраўніцтвам А.Сержпутоўскага экспэдыцыя ахапіла паўночную частку краю па Себескаму, Невельскаму й Вяліскаму павету б. Віцебшчыны, а тады Пскоўскай губ. У папярэднім годзе гэтую частку, ад лацьвійскай мяжы да Вяліжа прарэзала этнаграфічная экспэдыцыя пад кіраўніцтвам этнаграфа І.Сэрбава, а таму А.Сяржпутоўскі ўзяўся правесьці тут некаторыя этналёгічныя назіраньні й зьбіраньне фальклёрнага матар'ялу, пераважна казак і пагаворак;

2/ экспэдыцыя ў складзе этнаграфа І.Сэрбава й навуковага супрацоўніка А.Шлюбскага прарэзала паўночна-ўсходнюю частку Беларусі па маршруту: Смаленск - Парэчча - Вяліж - Шчучэйскае возера - Белы - Ржэў Цьвярскоў губ. Мэта экспэдыцыі: правесьці агульна-этнаграфічныя назіраньні краю, - з боку жывой мовы, народна-

га быту й матар'яльнай ды духовай культуры, а таксама зьбіраньне этнаграфічных матар'ялаў спосабам запісаў і фатаграфаваньня.

3/ пад кіраўніцтвам лінгвістага П.Бузука ахапіла паўдзённа-ўсходнюю мяжу Беларусі па маршруту: Рослаў - Бранск - Гомель - Гародня - Чарнігаў - Лоеў - Рэчыца - Мазыр і Тураў да Князьвозерскага раёну.

4/ экспэдыцыя Інбелкульту й Дзяржаўнага Музэю пад кіраўніцтвам В.Ластоўскага. Экспэдыцыя наведала шмат паселішчаў Случчыны й Мазыршчыны й сабрала шмат рэчаў матар'яльнай культуры й народнага мастацтва. Мастак-фатаграф Гальмачан зрабіў да 300 здымкаў тыпаў, арнамэнтаў і інш.

Летам 1927 году паасобныя аддзелы й сэкцыі Інбелкульту ладзілі таксама свае экспэдыцыі. Гэтак:

Аддзел мовы й літаратуры ладзіў экспэдыцыі:

а/ Па старажытнаму шляху Смаленск - Парэчча - Вяліж дзеля вывучэньня дыялектычных асаблівасьцяў і этнаграфічных матар'ялаў гэтых абшараў. Пры супынках Смаленск - Парэчча - Вяліж чыталіся рэфэраты зь беларусазнаўства.

б/ Па маршруту Унеча - Сураж - Мглін - Трубчэўск - Старадуб па грунтавых дарогах - з тымі-ж мэтамі.

Мастацкая сэкцыя ладзіла экспэдыцыі:

а/ У Слуцак - для дасьледваньня й частковай рэстаўрацыі ды каляровых зарысовак архітэктурных помнікаў 16-18 стагодзьдзяў.

б/ У верхняе Наддзьвіньне й Наддняпроўе для зьбіраньня народных сьпеваў і мэлёдыяў;

в/ У Лепельшчыну для вывучэньня народных скокаў.

Мэдычная сэкцыя правяла:

а/ дасьледваньне вальлёвых /зоб/ хваробаў у Аршаншчыне,

б/ гельманталёгічнае дасьледваньне працаўнікоў менскіх разьніцоў і

в/ дасьледваньне скляромы /хвароба/ ў Менскай акрузе.

Сельска-гаспадарская экспэдыцыя дасьледвала сельска-гаспадарскую тэхніку сялянскага ралейніцтва. Экспэдыцыя арганізоўвалася супольна з навуковым таварыствам вывучэньня Беларусі пры Сельска-Гаспадарскай Акадэміі ў Горках, а таксама 2 экспэдыцыі вывучэньня беларускага сялянскага ткацтва /Віцебская й Полацкая акругі/ і ганчарства /Барысаўская і Аршанская акругі/.







Гістарычна-археалёгічныя экспэдыцыі на р. Сож каля в. Бэрдыж, Гомельскай акругі, праводзілі буйныя раскопкі па дасьледваньню першай у Беларусі стаянкі чалавека ляднікова га пэрыяду, якую ў 1926 г. выкрыў археолёг К.Палікарповіч.

ЦБ краязнаўства ладзіла ўзорна-мэтадалёгічную экспэдыцыю для дасьледваньня фауны й флёры Асіпавіцкага раёну.

Жыдоўскі Аддзел правёў:

а/ сацыяльна-эканамічнае дасьледваньне мястэчкаў Мазырскага Палесься й Рэчыцкай акругі,

б/ экспэдыцыі зьбіраньня жыдоўскага фальклёру ў мястэчках Грозава, Цімкавічы й Пагост Слуцкай акругі.

Польскі Аддзел ладзіў экспэдыцыі для зьбіраньня польскага сьпеўнага матар'ялу й фальклёру ў польскіх сельскіх саветах Слуцкай, Бабруйскай і Мазырскай акругаў.

Камісія вывучаньня вытворчых сілаў БССР праводзіла досьледы шэрагу галінаў прыроды пад кіраўніцтвам: у глебазнаўчых досьледах: - праф. Афанасьева, геалёгічных - праф. Бліодухо, геа-батанічных - Палянскай, геа-магнэсавых здымкаў - праф. Сіроціна, досьледах мінэральных угнаеньняў - праф. Скандракова, вывучэньнем курортных мясцовасьцяў /крыніц і г.д./ - др-а Трамповіча.

Інбелкульт прыймаў удзел у міжнароднай музычнай выстаўцы ў Франкфурце на Майне, дзе былі выстаўлены беларускія музычныя інструмэнты: пастухова труба, дуда, лера й цымбалы, якія карысталіся асаблівым посьпехам. Накіраваныя туды Інбелкультам цымбалісты Жывіцкі й сьпявачка Александроўская выступалі на 10 канцэртах.

Гэтак, як і ў папярэднім годзе, было вызначана колькі замежных камандыровак прадстаўнікоў розных галінаў навукі. Былі камандараваны ў Фінляндыю, Лацьвію й Летуву Касьпяровіч дзеля вывучэньня там краязнаўчай справы, праф. Скандракоў - у Польшчу й Чэха-Славаччыну дзеля вывучэньня тэхнікі сялянскай гаспадаркі, Аршанскі - у Нямеччыну й Амэрыку дзеля вывучэньня старэйшых дакумантаў жыдоўскай літаратуры.

На працу ў Інбелкульце былі запрошаны новыя спэцыялістыя: з Масквы, на катэдру сусьветнае гісторыі - праф. д-р Ясінскі; з Кіева, на катэдру батанікі - праф. Малюшыцкі; зь Ленінграду, на катэдру гісторыі Летувы - праф. Матулайціс. Апрача гэтага,

Прэзыдыюм Інбелкульту пастанавіў запрасіць зь Нямеччыны для вядзеньня палеолетычных раскопак у Беларусі праф. археалёгіі Эбэрта. Палеолетычныя знаходкі былі выкрыты ў 1926 г. у в. Бердыж Чачэрскага раёну і мелі сусьветнае значэньне.

Ад другой паловы 1927 г., пасьля зацьверджаньня новага статуту, Інбелкульт пачаў перабудоўваць сваю арганізацыйную структуру. У гуманітарным аддзеле да канца году ўжо былі зарганізаваныя катэдры: жывой беларускай мовы, беларускай літаратуры, сусьветнай гісторыі, дзьве катэдры гісторыі Беларусі, катэдра гісторыі Летувы ў сувязі зь гісторыяй Беларусі, Інстытут мастацтва, Інстытут навуковай мовы й камісіі: этнаграфічная, археалёгічная, вывучэньня гісторыі асьветы й вывучэньня латвійскай культуры.

У ваддзеле прыроды й гаспадаркі былі наладжаны: геалёгічны інстытут, катэдра глебазнаўства, батанікі з батанічным садам у Вялікіх Летцах Віцебскай акругі, заалёгічны музэй, катэдра геаграфіі Беларусі й катэдра антрапалёгіі. Аддзел меў добра абсталяваную лябараторыю.

Навуковае Таварыства пры Сельска-Гаспадарскай Акадэміі ў Горках ад гэтага часу працуе на правох філіі Інбелкульту. Непасрэдна пад кіраўніцтвам Прэзыдыюму Інбелкульту працавалі: ЦБ Краязнаўства, бібліятэка, выдавецкае бюро, камісія вывучэньня вытворчых сілаў краю й бібліяграфічная камісія.

Рэфармаваньне Інбелкульту па Аддзелу Гуманітарных Навук ня было вельмі трудным, больш складаным было гэта ў галіне прыродазнаўчых і гаспадарскіх навук, дзе вымагалася заснаваньне новых дасьледавальных інстытуцыяў із забясьпячэньнем іх патрэбным абсталяваньнем. Тут былі таксама й спрэчныя пытаньні. Прыкладам – па клясе прыроды Інбелкульт праектаваў 2 дасьледавальных інстытуты: геалёгічны й глебазнаўчы, але на пасяджэньні 19 ліпеня 1927 г. ў Дзяржпляне пастаноўлена стварыць адзін Геалёгічны інстытут з глебазнаўчым аддзяленьнем.

Інбелкульт ад пачатку свайго існаваньня да рэформы 1927 году наладзіў шырокія сувязі з важнейшымі навуковымі ўстановамі СССР і замежжа. Былі сувязі з Акадэміяй Навук СССР, Украінскай Акадэміяй Навук, Дагестанскім Інстытутам Культуры, Камуністычнай Акадэміяй, Інстытутам Народнай Асьветы ў Кіеве, Кніжнай палатай Грузіі, Таварыствам вывучэньня Манджурскага краю; за мяжой – з Пруская Акадэміяй Навук, Праскай Акадэміяй Навук, з Бэрлінскім, Праскім, Варшаўскім, Летувіскім, Латыскім і іншымі ўнівэрсытэтамі. Агулам Інбелкульт наладзіў сувязь із 55 вышэйшымі навуковымі інстытуцыямі СССР і 20 інстытуцыямі за межамі СССР[41].



## 7. ІБК на шляху да БАК /дзейнасьць 1927/28 г./

У 1927/28 акадэмічным годзе Інбелкульт працаваў ужо цалкам у рамах новага акадэмічнага статуту й праводзіў далейшую перабудову арганізацыйнай структуры, сьціраванай да ператварэньня Інстытуту ў Беларускую Акадэмію Навук. Адчыняліся новыя катэдры й камісіі, запрашаліся новыя навуковыя сілы й канчальна ўкамплектоўваліся ўсе інстытуцыі Інбелкульту.

У пачатку 1928 году Прэзыдыюм Інбелкульту зацьвердзіў склад Рады Аддзелу Гуманітарных навук, Рады Аддзелу прыроды й гаспадаркі, кіраўніцтвы прамысловай камісіі й камісіі вывучэньня хатніх рамёслаў у наступным выглядзе:

Рада Аддзелу Гуманітарных навук –

Старшыня – С.Некрашэвіч, намесьнік старшыні – праф. Ясінскі й сябры: праф. Ігнатоўскі, Я.Лёсік, праф. Замоцін, праф. Пічэта, В.Ластоўскі, Міцкевіч /Я.Колас/, Луцэвіч /Я.Купала/, Жылуновіч /Цішка Гартны/, праф. Матулайціс, праф. Эпімах-Шыпіла, праф. Бузук, праф. Дружчыц, А.Цьвікевіч і Дыла.

Рада аддзелу прыроды й гаспадаркі –

Старшыня – праф. А.Смоліч, намесьнік старшыні – д-р Трамповіч, сябры: праф. Бліодухо, праф. Афанасьеў і часова праф. Адамаў, Вяршук, праф. Ленц і дацэнт Кісьлякоў. Для сувязі ў раду аддзелу ўведзены ад ЦБ Краязнаўства Казак і ад Беларускага дасьледавальнага інстытуту – Серада.

Прамысловая камісія –

Старшыня – Стракоўскі, намесьнік старшыні – Галавінскі, сакратар – Ярмашэвіч. Старшынёй камісіі вывучэньня хатніх раместваў зацьверджаны – Трафімаў, намесьнікам старшыні – Хэйфец, сакратаром – Рак[42].

У Менск быў прыехаў з Чэха-Славаччыны ведамы дыялекталёг, сябра-карэспандэнт Саюзнай Акадэміі Навук – праф. М.Дурнаво,

якога Інбелкульт абраў сваім правадзейным сябрам. У Празе праф. Дурнаво быў у навуковай камандыроўцы ад Акадэміі Навук СССР, а ў Менск пераехаў для сталай працы ў Інбелкульце на пасаду загадчыка катэдры гісторыі беларускае мовы. Разам із праф. Дурнаво ў склад Акадэмічнае Рады Інбелкульту былі даабраны прафэсары Фядзюшын і Сосіс. Такім парадкам Акадэмічная Рада Інбелкульту павялічылася да 27 асобаў.

Структурная пабудова Інбелкульту ў 1927/28 акадэмічным годзе агульна бяручы выглядала гэтак: Прэзыдыюм Інбелкульту, Акадэмічная Рада, установы пры Прэзыдыюме ІБК, Аддзел Гуманітарных Навук, што складаўся з 7-мі катэдраў, 2-х інстытутаў, 18 камісіяў і 1-го музэю; Аддзел прыродазнаўчых і гаспадарскіх навук, што складаўся зь 7-мі катэдраў, 1-го Інстытуту, 5-ці камісіяў, 1-го навуковага таварыства, 4-х лябараторыяў; нацыянальныя сэктары /жыдоўскі й польскі/; катэдра гісторыі Летувы й камісія вывучэньня культуры Латышоў.

У 1927/28 акадэмічным годзе ў Інбелкульце працавала 47 навуковых працаўнікоў 1-ай катэгорыі й 23 - другой катэгорыі. Інбелкульт абменьваўся сваімі выданьнямі ў гэтым годзе з 96 навуковымі ўстановамі СССР і 32 навуковымі ўстановамі за мяжой.

У сувязі з пашырэньнем Інбелкульту СНК БССР прызнаў патрэбным пабудаваць новы будынак для Інбелкульту. Праектавалася пабудаваць 3 корпусы з агульнай плошчай 24.791 кв.м. коштам у 2.508. тысяч руб. Будынак Інстытуту /пазьней БАН/ пачаткова мяркавалася распачаць будаваць на Савецкай вул. насупраць Унівэрсытэцкага гарадка /пазьней, калі ўжо паўстала Акадэмія, гэты праект быў зьменены й будынак Акадэміі паўстаў у раёне Камароўкі/. Да часу-ж пабудовы СНК БССР зацьвердзіў быў пастанову Менскага гарсавету аб перадачы дадаткова Інбелкульту старога памяшканьня Дому Селяніна, дзе меў разьмясьціцца ўвесь Аддзел прыроды й гаспадаркі.

Вялікая рэарганізацыйная праца, аднак, ня стрымала навукова-дасьледавальнай дзейнасьці Інстытуту.

За 1927/28 акадэмічны год выяжджала 12 навуковых экспэдыцыяў. Археалёгічная экспэдыцыя за лета 1928 году раскапала 50 стаянак, 7 селішчаў, 42 гарадзішчы і 128 курганоў[43]. Паміж рознымі знаходкамі вялікай гістарычнай вартасьці былі знайдзены косьці



розных жывёлаў, як чэрап аўцабыка /Лошыца пад Менскам/, зубы насарога /в. Паўзухі Горацкага раёну/, зубы дагістарычнага каня /с. Баўчас Чэрыкаўскага раёну/, і ў розных мясцох косьці маманта.

Этнаграфічная экспэдыцыя пад кіраўніцтвам В.Ластоўскага сабрала каштоўныя экспанаты беларускай народнай разьбы па дрэве /70 штук/, беларускага мастацкага ткацтва да 500 штук, куды ўваходзілі ўзорныя тканіны, вопратка й часткі вопраткі, апрача гэтага каля 100 штук тканых паясоў[44].

Дыялекталёгічная камісія ладзіла экспэдыцыі: у Парыцкі раён Бабруйскае акругі /С.Некрашэвіч і Ягораў/, у Гомельскую й Магілеўскую акругі /Я.Лёсік і М.Аладаў/. У вабедзьвюх экспэдыцыях прыймаў удзел праф. П.Бузук.

Заснаваная ў 1921 г. Тэрміналёгічная Камісія /5.X.1926 г. была рэарганізаваная ў "Галоўную Тэрміналёгічную Камісію"/, а паводля новага акадэмічнага статуту - "Інстытут Навуковай Мовы" /Дырэктар Інстытуту - Я.Лёсік, сакратар - Л.Цьвяткоў/, за час свае дзейнасьці канчаткова апрацавала 35.663 тэрмінаў-словаў, зь якіх 27.316 тэрмінаў надрукавана ў 15 выпусках навуковай тэрміналёгіі, а 8.357 тэрмінаў было ў друку.

Слоўнікавая Камісія зрабіла справаздачу Прэзыдыюму ІБК аб сваёй навуковай дзейнасьці за апошнія 3 гады. У працягу гэтых гадоў камісія сабрала 375 тысяч картак-словаў і надрукавала краёвы слоўнік Віцебшчыны.

12.II.1928 г. Правапісная камісія на паседжаньні з удзелам Прэзыдэнта ІБК Ігнатоўскага, Наркамасьветы Баліцкага й сакратара ЦК КП/б/Б Васілевіча абмяркоўвала справу рэформы беларускага правапісу. У выніку гэтае нарады Камісія была прыступіла да апрацоўваньня праекту зьменаў у правапісе.

Вучоны спэцыялісты Інбелкульту Гагавы закончыў апрацоўку глебавай карты Мазыршчыны ў 3-х вярстовым маштабе. Здымкі гэтае карты рабіліся летам 1927 г. Да гэтага часу былі зроблены здымкі ў 4-х акругах - Менскай, Барысаўскай, Аршанскай і Мазырскай.

Бібліяграфічная камісія ІБК разам зь Дзяржаўнай Бібліятэкай рабіла бібліяграфікацыю друку ўсяе Беларусі і ў 1927 г. выдала IV т. "Матар'ялаў да беларускае бібліяграфіі".

Археалёгічная камісія здала ў друк археалёгічны зборнік /20 аркушаў/ з артыкуламі аб розных археалёгічных экспэдыцыях Інбелкульту, а таксама матар'ялы аб палеалетычнай стаянцы ў Бэрдышы, Банцыраўскім гарадзішчы, археалёгічных выведах каля м.Турава. Асобнай кніжкай быў выданы адбітак з археалёгічных матар'ялаў аб досьледах старажытнага Заслаўя пад заг. "Заслаўе на Меншчыне". Нарыс старога Заслаўя, зроблены Ляўданскім, Даўгяллам і Сьмірновам на падставе раскопак ды іншых матар'ялаў, сьветчыць аб тым, што Заслаўе ёсьць найбольш старажытным паселішчам Беларусі з чыста славянскімі адзнакамі.

У дасьледавальным інстытуце мастацтва, што склаўся заміж мастацкай сэкцыі, найбольшую прадукцыйнасьць мела камісія гісторыі мастацтва. Да І-га студзеня 1928 г. камісія здала ў друк зборнік прац, прысьвечаных вывучэньню каменнага й драўлянага будаўніцтва ў Беларусі, пачынаючы ад 12 і канчаючы 18 векам.

Інстытут атрымаў праз СНК БССР з Масквы 3.000 рублёў на дасьледаваньне беларускіх музычных інструмэнтаў. Гэта было зьвязана з тым, што на выстаўцы музычных інструмантаў у Франкфурце выявілася арыгінальнасьць і каштоўнасьць для навукі беларускіх народных музычных інструмантаў. Апрача гэтага Інстытут мастацтва здаў у друк вялікую працу М.Шчакаціхіна "Гісторыя беларускага мастацтва", што ахоплівала гісторыю мастацтва ад Х веку.

Праф. Салаўеў вёў досьледы фауны Горацкага р-ну. Некаторыя вынікі ягоных досьледаў былі апублікаваны ў саюзным і замежным друку.

Гістарычная кляса здала ў друк ІІ том "Беларускага архіву".

Камісія аховы помнікаў рыхтавала да друку апісаньне Менску і ягоных ваколіцаў. У вапісаньне мелі ўвайсьці наступныя аддзелы: прырода й помнікі прыроды; Менск у пэрыяды - дагістарычны, каменнага веку; гарадзішчаў і курганнай культуры, а таксама ў пэрыяд летапісны XI-XII веку; Менск ад XIII в. да апошняга часу з помнікамі архітэктуры, мастацтва, экономікі, прамысловасьці й бібліяграфіі. Выданьне мела быць ілюстраванае рысункамі, малюнкамі й здымкамі.

Варта прыгадаць тутака важнейшыя працы Інбелкульту, што апрача ўжо ўспамінаных, былі выйшлі ў сьвет у тыя гады:

у выніку дыялекталёгічных экспэдыцыяў:







П.Расторгуев - Северско-белорусский говор. Исследование в области диалектологии и истории белорусских говоров, Ленинград, 1927 г., 224 бач. з мапай;

П.Расторгуев - Говоры восточных уездов Гомельской губернии в их современном состоянии, Минск, 1927, бач.24.

А.Полевой - О языке населения Ново-Зыбковского уезда Гомельской губ., Минск, 1926г., бач. 47.

А.Сержпутовский - Отчет о поездке в Гомельскую губ., Минск, 1926, бач. 16.

П.Бузук - Да характэрыстыкі беларускіх дыялектаў. Гутаркі Невельскага й Вяліскага паветаў, Менск, 1926, бач. 15.

Э.Раманаў - Гаворкі Магілеўскай губ. Працы клясы філёлёгіі, т.І, бач. 121-146 з мапай.

Галоўным заданьнем Дыялекталёгічнай камісіі было падрыхтаваньне лінгвістычнай геаграфіі Беларусі. Рэалізуючы гэтае заданьне, Камісія ў 1928 годзе выдала І-ую частку працы праф. П. Бузука п.н. "Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі", т.І, фанэтыка й марфалёгія, ч.І. Гаворкі Цэнтральнае й Усходняе Беларусі і ў суседніх мясцовасьцях Украіны й Вялікарасеі ў першай чвэрці XX в."

Катэдра этнаграфіі ў 1927 г. пачала публікаваць шэраг спэцыяльных манаграфіяў і нарысаў у сэрыі: "Беларуская этнографія ў досьледах і матарыялах". Важнейшыя выданьні гэтае сэкцыі:

А.Шлюбскі - "Матар'ялы вывучэньня фальклёру й мовы Віцебшчыны" ч. І, Менск, 1927 г., бач.198;

"Матар'ялы да беларускае бібліяграфіі. Этнаграфія" - Менск, 1927, бач,104.

М.Гарэцкі і А. Ягораў - "Народныя песьні з мэлёдыямі" - Менск, 1928;

А.Шлюбскі - "Матар'ялы да вывучэньня фольклёру й мовы Віцебшчыны" ч.ІІ, Менск, 1928, бач 259 - і

А.Сержпутоўскі - "Прымхі й забабоны беларусаў - палешукоў", Менск, 1927 г., бач.269.

Сацыяльна-гістарычная сэкцыя разам зь Гістарычна-археалёгічнай камісіяй у 1927 г. выдала "Гістарычна-археалёгічны зборнік №І" /бач. 406/ і шмат гістарычных працаў у выданьні "Зборнік артыкулаў" /бачынаў 307/ у 1928 г.

Вельмі салідным выданьнем быў "Беларускі Архіў" т.I, што выйшаў пад рэд. Даўгяллы ў 1927 г. /бач.300/. Том зьмяшчаў цэлы шэраг дакумэнтаў першараднага значэньня для вывучэньня сацыяльна-эканамічнай і палітычнай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Гэта былі копіі дакумэнтаў, захаваных у архівах Кракава, Варшавы, Ленінграду й Масквы, а таксама Магілеўскага архіву. Дакумэнты сабраў М.Даўнар-Запольскі й Д.Даўгялла, т.II "Архіву" /1928 г., бач. 89/ абыймаў матар'ялы з XУI-XУIII в.; том III /Менскія акты ад XУ да XУIII в./ выйшаў ў 1930 г.;

Сэкцыя мастацтва выдала ў 1927 г. працу М.Шчакаціхіна п.н. "Васіль Вашчанка - Магілёўскі гравёр канца XУII і пач. XУIIIв.", а ў 1928 г. першы том манаграфіі "Нарысы зь гісторыі беларускага мастацтва" /бач. 370/. Аўтар разглядаў там беларускую царкоўную архітэктуру XI-XII в., замкі XII-XIУ в. і беларускую готыку XУ-XУI в. У 1928 г. у "Запісках Аддзелу Гуманітарных Навук" зьявіўся адзін том, прысьвечаны гісторыі мастацтва, як "Працы камісіі гісторыі мастацтва" /бач. 216/ пад рэд. Шчакаціхіна.

Археалёгічныя працы й артыкулы беларускіх археалёгаў І.Сэрбава, К.Палікарповіча, А.Ляўданскага, С.Дубінскага зьявіліся ў зборных выданьнях, як: "Працы першага зьезду дасьледчыкаў беларускай археалёгіі і археаграфіі ў 1926 г." /Менск, 1926 г., бач. 88/, "Гістарычна-археалёгічны зборнік №I" /Менск, 1927 г., бач. 397/ і ў "Працах катэдры археалёгіі" т.I /Менск, 1928 г.,бач. 298/.

Прыродазнаўча-гаспадарскі аддзел вынікі свае працы абвесьціў у сэрыйным выданьні "Запіскі Аддзелу Прыроды й Гаспадаркі" /т.I 1928 г.,бач. 308/, т.II /бач. 288/ выйшаў у 1930 г. Спэцыяльнае выданьне ад 1927 г. "Матар'ялы да вывучаньня флёры й фаўны Беларусі" /т.I, 1927 г. бач. 159; том II, 1928 г. бач. 180, том III выйшаў у 1929 г., а IУ - у 1930 г./; А.Фядзюшын - "Сьпіс назваў птушак і некаторых рыб", 1927 г. /бач.284/.

Геаграфічная камісія ад 1928 г. мела сэрыйнае выданьне: "Матар'ялы да геаграфіі й статыстыкі" /1928 г. т.I, бач. 224/, том II /176 бач./ выйшаў у 1930 г.

"Працы Навуковага Таварыства па вывучэньню Беларусі пры Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскай Гаспадаркі ў Горках" зьяўляліся сэрыйна: том I - 1926 г., бач. 204, том II - 1927 г., бач. 247, том III - 1927 г., бач. 292, том IУ - 1927 г., бач. 207, том У - 1928 г., бач. 245, том УI - 1929 г., бач. 221.



Польскі сэктар выдаў "Rok 1863 na Mińszczyźnie" /Materjały archiwum III wydziału Kancelarji carskiej/. Zebrał i opracował J.Witkowski, Janiewicz i L.Lech. Mińsk, 1929.

Творы М.Багдановіча, пад рэд. праф. Замоціна /Акадэмічная бібліятэка беларускіх пісьменьнікаў т.I/, Менск 1927, бач.517; Практычны беларускі вайсковы слоўнік, часьць 1-ая /расейска-беларуская/, Менск, 1927 г., бач. 251.

Вельмі важнай пазыцыяй апублікаваных прац Інбелкульту быў зборнік "Чатырохсотлецьце беларускага друку 1525-1925", Менск, 1926 г.Зборнік падрыхтаваны да друку Рэдакцыйнай Камісіяй у складзе: старшыні - Уладзімера Пічэты, сакратара - Васіля Дружчыца і членаў - Язэпа Дылы, Зьмітры Жылуновіча, Язэпа Лёсіка, Міколы Шчакаціхіна. У прадмове да зборніка гаворыцца:

> "Інстытут Беларускае Культуры, у выкананьне пастановы СНК БССР ад 4 лістапада 1925 году, і маючы на ўвазе тую вялізную ролю, якую адыграла дзейнасьць Францішка Скарыны ў справе нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі, ухваліў адзначыць гэты вялікі момант у гісторыі беларускае культуры выданьнем прысьвечанага часом Скарыны Зборніка".

Зьмест зборніка:

У.Перцаў - Гуманізм у Італіі, З.Егораў - Падуанскі Ун-т у XУ-XУI ст., А.Ясінскі - З культурнае гісторыі Чэхіі пачатку XУI ст., М.Любаўскі - Літ.-Бел. дзяржава ў пачатку XУI ст., У.Пічэта - Полацкая зямля ў пачатку XУI ст., В.Дружчыц - Места Вільня ў першай палове XУI ст., У.Пічэта - Беларускае адраджэньне ў XУI ст., М.Піотуховіч - Францішак Скарына і яго літ. дзейнасьць, М.Шчакаціхін - Гравюры й кніжныя аздобы ў выданьнях Фр. Скарыны, У.Пічэта - Друк на Беларусі ў XУI і XУII ст., Я.Воўк-Левановіч - Мова выданьняў Фр. Скарыны, У.Пічэта - Scoriniana/1776-1926/.

Заканчэньне рэарганізацыі ІБК у 1928/29 ак.годзе й новая рэформа

Распачатая ў 1927 г. рэарганізацыя Інбелкульту на аснове акадэмічнага статуту канчальна завяршылася ў пачатку 1928/29 акадэмічнага году. 1-га кастрычніка 1928 году адчынілася яшчэ адна катэдра - Катэдра беларускага права пад кіраўніцтвам праф. Грэдзінгера. Зьліквідава-

ліся: катэдры гістарычнай геаграфіі, гісторыі народнае гаспадаркі і Інстытут мастацтва. Этнаграфічная камісія перайменавалася ў катэдру з трымя камісіямі - вывучэньня беларускага народнага мастацтва, беларускай народнай музыкі й песьні й камісія вывучэньня беларускага народнага тэатру. Археолёгічная камісія рэарганізавалася ў катэдру з 2-мя камісіямі - вывучэньня старога й нова-каменнага веку й камісія вывучэньня зялезнага веку. Пры Інстытуце Навуковае мовы ўтварыліся сэкцыі - гуманітарных навук і сэкцыя прыродазнаўчых навук. Цяпер Аддзел гуманітарных навук складаўся з 10 катэдраў, 1-го інстытуту, 19 камісіяў сталых, 2-х часовых, 1-го музэю. Аддзел Прыроды й гаспадаркі - з 8 катэдраў, 5 камісіяў, 1-го інстытуту /геалёгічны/ з 2 аддзеламі, 1-го батанічнага саду, 2 музэяў, 4-х лябараторыяў, 1-го навуковага таварыства. Польскі сэктар меў 1 катэдру, катэдра гісторыі Летувы перайменавалася ў катэдру летувіскае культуры. Увесь Інбелкульт у пачатку 1928/29 акадэмічнага году меў 18 катэдраў, 24 сталых і 2 часовых камісіі, 3 музэі, 2 інстытуты, 4 лябараторыі й 1 таварыства[45].

Гэтакім парадкам Інстытут Беларускае Культуры за пяць гадоў свайго існаваньня перажыў 2 вялікіх рэформы сваей структурнай арганізацыі ды ўстабілізаваўся, як паважная самастойная навукова-дасьледавальная ўстанова, што здабыла аўтарытэт і прызнаньне ня толькі ўнутры краю, але й за межамі.

Пацьвярджэньнем апошняга быў удзел выдатных навукоўцаў Захаду ў Акадэмічнай Канфэрэнцыі ў Менску ў канцы 1926 году й запрашэньне гісторыкаў Інбелкульту на сусьветны кангрэс гісторыкаў у г. Ослё /Нарвэгія/, куды ў другой палове жніўня 1928 году выяжджалі праф. У.Ігнатоўскі і праф. У.Пічэта.

Адцягваць ператварэньне Інбелкульту ў Беларускую Акадэмію Навук далей было нельга, а сыгналу з боку гаспадара акупаванага краю - ЦК КП/б/Б, яшчэ ня было таму, што:

> "...КП/б/Б, якая на X зьезьдзе выкінула лёзунг "КП/б/Б на чале культурнага будаўніцтва", усё больш і больш узмацняе й пашырае свой уплыў на чыннасьць усіх нашых культурных установаў... выкладаньне грамадзкіх дысцыплін усё больш пераходзіць да камуністычных прафэсараў й настаўнікаў, што значна павялічвае партыйны, бальшавіцкі ўплыў на выхаваньне вучняў і студэнтаў. Але барацьба з нашай лініяй будзе весьціся яшчэ доўгі час, бо мы з-за недахвату сіл яшчэ ня можам узяць усе пазыцыі культурнага фронту ў свае рукі... Якую вялікую барацьбу прыходзіцца весьці нашым органам і працаўнікам пры разглядзе навучальных пляноў, праграмаў школ, унівэрсытэтаў, акадэміі, Інбелкульту, каб адстаяць у іх пралетарскі зьмест..."[46]



Прэзыдэнт Інбелкульту, праф. У.Ігнатоўскі, будучы сябрам камуністычнае партыі і ягонага ЦК, лепш за іншых працаўнікоў Інбелкульту арыентаваўся й вычуваў значэньне небясьпекі пераходу "ўсіх пазыцыяў культурнага фронту" ў рукі бальшавікоў.

Яму даводзілася вытрымоўваць найбольшы ціск з боку тых "марксыцкіх сілаў", што імкнуліся прасачыцца ў сьцены Інбелкульту, каб там насаджваць гэны "пралетарскі" /бальшавіцкі/ зьмест. Таму ён сам вымушаны быў склікаць арганізацыйны сход навуковых працаўнікоў "марксыстых", на якім удзельнічала 23 асобы ад БДзУ, Інбелкульту, Камвузу ды іншых установаў. Сход пастанавіў ствараць "Таварыства марксыстых БССР" із сэкцыямі: філёзофскай, эканамічнай, гістарычнай і літаратурнай. Выбрана была Управа Таварыства ў складзе: старшыня - У.Ігнатоўскі, намесьнік старшыні - Панкевіч, сябры - Кнорын /сакратар ЦК КП/б/Б/, Абрамчук, Сянкевіч, Гэльтман, С.Вольфсон, Рылін; кіраўнікамі сэкцыяў былі выбраны: філёзофічнай - С.Вольфсон, эканамічнай - рэктар Камвузу, С.Гэльтман, літаратурнай - дац. Б.Дз.У. Сянкевіч.

У працы сэкцыяў пастаноўлена было зварочваць асаблівую ўвагу на высьвятленьне нацыянальнае праблемы ды ўстанавіць сувязь з навуковымі сэкцыямі Інбелкульту й навуковымі таварыствамі БДзУ[47].

Цяпер ЦК КП/б/Б было ўпэўнена, што марксыцка-бальшавіцкае апаноўваньне навуковай працы Інбелкульту можа йсьці барджэй, і неўзабаве бюро ЦК КП/б/Б пастанаўляе, што пара рэарганізацыі Інбелкульту ў Акадэмію наступіла. Тады-ж, адразу ЦВК і СНК БССР 13.10.1928 г. прыймае наступную пастанову:

> "... Рэарганізаваць Інбелкульт у Беларускую Акадэмію Навук:
> 2. Рэарганізацыю закончыць да 1.1.1929 году.
> 3. Утварыць Урадавую Камісію ў складзе Хацкевіча /старшыня/, Ігнатоўскага, Баліцкага, Некрашэвіча й Аршанскага, якой даручыць да 15.XI.1928 г. падаць у СНК на зацьверджаньне сталы склад Прэзыдыюму і асабовы склад правадзейных сяброў Беларускай Акадэміі Навук, а таксама тыя зьмены ў статуце Акадэміі, якія патрэбны й вынікаюць із гэтай пастановы.

Старшыня ЦВК БССР - А.Чарвякоў
Старшыня СНК БССР - Галадзед
Сакратар ЦВК БССР - Хацкевіч".[48]

Ад гэтага часу Інбелкульт закончыў сваё існаваньне ды перайшоў у пару новых рэарганізацыйных турботаў.

Неабходна яшчэ адцеміць, што галоўную ролю ў заснаваньні й разьвіцьці Інбелкульту адыйгралі Сьцяпан Некрашэвіч і Усевалад Ігнатоўскі, а ў першы чарод - С.Некрашэвіч, зь ініцыятывы якога фактычна й паўстаў быў зародак Інбелкульту - Навукова-Тэрміналёгічная Камісія пры НКА БССР, а пазьней і сам Інбелкульт.

Вялікае значэньне дзеля паглыбленьня й пашырэньня нацыянальна-адраджэнцкае працы ў Інбелкульце мела ўключэньне ў гэтую працу, пасьля свайго пераезду ў БССР, групы беларускіх нацыянальных дзеячоў - эмігрантаў із Захаду, як А.Цьвікевіч, Вацлаў Ластоўскі ды іншыя.



## ЧАСТКА II

## БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК

## Б А Н

## I. Пачатковая дзейнасьць БАН

Час ад паловы кастрычніка 1928 г. да 1.1.1929 году прайшоў пад знакам новай рэарганізацыйнай працы Інбелкульту ў Акадэмію. Фактычным пачаткам дзейнасьці Інбелкульту ўжо, як Беларускай Акадэміі Навук, можна лічыць студзень 1929 году, калі былі зацьверджаныя ўрадам БССР акадэмікі й кіраўніцтва Акадэміі - Прэзыдыюм.

Савет Народных Камісараў БССР у пачатку студзеня 1929 году зацьвердзіў акадэмікамі БАН наступныя асобы:

1. У.Ігнатоўскі, 2. Зьм.Жылуновіч, 3. С.Матулайціс, 4. Я. Колас /Міцкевіч/, 5. Я.Купала /Луцэвіч/, 6. С.Некрашэвіч, 7. Я. Лёсік, 8. Г.Гарэцкі, 9. В.Ластоўскі, 10. М.Дурнаво, 11. У.Пічэта, 12. Я.Афанасьеў, 13. М.Бліодухо, 14. М.Ясінскі, 15. Ів.Замоцін, 16. М.Грэдынгер, 17. Б.Тарашкевіч, 18. М.Малюшыцкі, 19. А. Дубах, 20. С.Вышаўлеўскі, 21. І.Пятровіч, 22. С.Вольфсон.

Дзеля сувязі з БАН ад Акадэміі Навук СССР былі выбраныя акадэмікі Карпінскі, Ольдэнбург, Маар, Пакроўскі і Вільямс; ад Украінскай Акадэміі - акадэмікі: Забалотны, Туркоўскі, Скрыпнік і Яворскі.

Прэзыдыюм Акадэміі быў зацьверджаны СНК БССР ў наступным складзе: Прэзыдэнт Акадэміі Навук - акадэмік У.Ігнатоўскі, віцэпрэзыдэнты Акадэміі Навук - акад. С.Некрашэвіч і М.Бялуга, неадменны сакратар - акад. В.Ластоўскі. Сябры Прэзыдыюму - акад. М.Малюшыцкі, Народны Камісар Асьветы БССР - А.Баліцкі і Аршанскі.

У невялікую колькасьць правадзейных сяброў Акадэміі Навук /22 асобы/ пачаткова ўвайшлі толькі больш выдатныя навуковыя сілы, выдатнейшыя пісьменьнікі і, зразумела, найбольш ведамы тады прадстаўнік "марксыцкіх сілаў" праф. С.Вольфсон.

Акадэмічная Рада БАН на адным із сваіх паседжаньняў зацьвердзіла праект арганізацыі катэдраў: хіміі, фізыкі, марксізму, клясы прыгожага пісьменства й камісіі вывучэньня фізыялёгіі[49].

Да часу пабудовы спэцыяльнага будынку, Акадэмія пераехала ў большае памешканьня на рагу Ленінскай /б. Губарнатарскай/ і Унівэрсытэцкай /б. Магазыннай/ вуліцаў у Менску.

Прэзыдыюм БАН правёў наступныя зьмены ў структуры Акадэміі: аб'яднаньне ўсіх гістарычных навук у вадну ўстанову - Інстытут Гісторыі з катэдрамі: агульнай гісторыі, гісторыі Беларусі, беларускага права й катэдра гісторыі народнай гаспадаркі Беларусі; аб'яднаньне камплексу навук зь беларускае літаратуры й прыгожага пісьменства ў Інстытут Літаратуры. Катэдра этнаграфічных навук рэарганізавалася ў катэдру матар'яльнай культуры й этнаграфіі із сталымі камісіямі: вывучэньня матар'яльнай культуры, народнага мастацтва, народных песьняў і фальклёру.

У першай палове 1929 г. пачала працаваць і новая катэдра "марксізму й ленінізму" /загадчык катэдры - акад. С.Вольфсон, навуковы сакратар - Валобрынскі/ із 3 камісіямі - дыялектычнага матар'ялізму, ленінізму й гістарычнага матар'ялізму.

Прыцягваюцца да працы й новыя навуковыя сілы. У другой палове чырвеня 1929 г. Акадэмічная Рада БАН выбрала 2-х новых акадэмікаў - праф. Шкацелава на катэдру хіміі, што мела адчыніцца ад 1929/30 акадэмічнага году, і праф. Васількова на катэдру батанікі. Праф. Шкацелаў меў 60 друкаваных навуковых працаў /адну ў францускай мове/; праф. Язэп Васількоў займаў катэдру батанікі ў Беларускай Сельска-Гаспадарскай Акадэміі і арганізаваў у Горках батанічны сад, адзін зь лепшых у БССР. Там была сабраная флёра з усяе Беларусі й вялася вялікая навукова-дасьледавальная праца.

Інтэнсыўныя студыі, распачатыя катэдрай этнаграфіі, ад часу як яе ачоліў В.Ластоўскі, пад рэдакцыяй якога выйшаў I том "Працаў катэдры этнаграфіі ў 1928 г.", працягвалася і ў 1929 г. Сам В.Ластоўскі, цяпер як Неадменны Сакратар БАН, разам з навуковым працаўніком Сэрбавам і сакратаром ЦБ Краязнаўства Касьпяровічам, выяжджалі ў этнаграфічную экспэдыцыю ў Мазыршчыну /дэльта Дняпра й Прыпяці/. Былі абсьледаваныя раёны Юравіцкі, Хойніцкі, Брагінскі, Лоеўскі, Рэчыцкі. Да гэтага часу была пашыраная думка,



што ў гэтых мясцовасьцях вельмі мяшанае насельніцтва /Расейцы, Беларусы, Украінцы/. Вывучаючы матар'яльную й духовую культуру гэтых раёнаў, асабліва фальклёр, дасьледавальнікі пераканаліся, што там жывуць пераважна Беларусы. З помнікаў старажытнасьці была выяўленая стаянка нэалітычнага пэрыяду - каля в.Клёвы, на сядзібе Загальскага лясьніцтва, знойдзены каменныя прылады: малаток, тапары, крамнёвыя нажы.

Этнаграфічная камісія Польскага сэктару зьбірала матар'ялы аб паходжаньні польскага насельніцтва ў Беларусі.

Акадэмічная Рада БАН разгледзіла й прыняла ў асноўным праект рэформы беларускага правапісу, што прадугледжваў некаторыя спрашчэньні правілаў у галіне фанэтыкі й марфалёгіі ды ўсталяў правілы правапісу чужаземных словаў і собскіх імёнаў. Далейшы разгляд праекту быў перанесены ў калегію Наркамасьветы БССР.

Латыская камісія БАН рыхтавала гістарычны нарыс на тэму: "Перасяленьне Латышоў у БССР і сумежныя зь ёю губэрні". Мелі быць высьветленыя прычыны перасяленьня Латышоў і працэс утварэньня Лацьвійскіх калёніяў.

Камісія мовы й літаратуры Польскага сэктару БАН укладала польска-беларускі слоўнік, слоўнік польскіх правінцыяналізмаў ды распрацоўвала польскія песьні ў Беларусі.

Дзеля вывучэньня асаблівасьцяў беларускай мовы беларускага насельніцтва Лацьвіі быў камандыраваны БАН у Латвію праф. П.Бузук.

Узбагаціласся бібліятэка БАН, куды быў перадаў свой саракагадовы збор у ліку 5.000 кніг розных назоваў праф. Бр.Эпімах-Шыпіла.

## 2. Бальшавіцкі пагром БАН-у

Ад другой паловы 1928 г. штораз выразьней адчувалася, што курс бальшавіцкай нацыянальнай палітыкі пачынае новы паварот. Зьмены курсу тады яшчэ балюча й непасрэдна самога Інбелкульту-БАН-у не кранялі. Толькі пад канец 1929 году стала відавочным, што пачатая кампанія нішчэньня нацыянальна-сьведамых элемэнтаў у паасобных нацыянальных рэспубліках, як патэнцыяльных, у разуменьні бальшавізму, ідэйных і практычных кіраўнікоў супраціву сялянства калектывізацыі, ня можа абмінуць БАН.

БАН у гэтым часе была не адно навукова-дасьледавальнай установай, а й запраўдным цэнтрам нацыянальнага адраджэньня Беларусі. Бальшавікі не маглі далей мірыцца з гэтым і наважылі скрышыць хрыбет усяму нацыянальна-адраджэнскаму руху ў Беларусі, а ў першую чаргу НКАсьветы, НК земляробства й БАН.

Пачалося быццам ад нявінных пэрсанальных зьменаў. Гэтак, пастановай бюро ЦК КП/б/Б з 31.VIII.1929 г. звальняецца Народны Камісар Асьветы БССР Ант.Баліцкі, ён-жа сябра Прэзыдыюму БАН, а на ягонае месца прызначаецца сябра ЦК А.Платун; 14.IX.1929 г. звальняецца ад абавязкаў Камісара Земляробства З.Прышчэпаў /ранейшы супрацоўнік Інбелкульту/; 17.IX.1929 г. адсоўваецца ад уплываў у нацыянальнай працы Зьмітра Жылуновіч /акадэмік/; 16.X. 1929 г. звальняецца ад абавязкаў Неадменнага Сакратара БАН В. Ластоўскі ды ад абавязкаў Віцэ-прэзыдэнта БАН - С.Некрашэвіч.

Зьмены ў кіраўніцтве БАН фармальна адбываюцца быццам-бы з волі самое Акадэміі. Так, прынамся, выглядае з прэсы, бо ў вадздзеле "Хроніка" часапіс "Полымя", бязь ніякіх камэнтараў, "скромна" падаваў: "26.X.1929 г. на паседжаньні Акадэмічнае Рады БАН адбыліся давыбары Віцэ-прэзыдэнта Акадэміі, Неадменнага Сакратара й новых сяброў Прэзыдыюму. СНК БССР ухваліў зацьвердзіць наступныя, паданыя БАН, кандыдатуры: акадэміка Якуба Коласа на пасадзе Віцэ-прэзыдэнта й сябры Прэзыдыюму БАН, акад. Ів.Пятровіча /Я.Нёманскага/ - Неадменным Сакратаром БАН і сябрам Прэзыдыюму БАН, за ім пакінута пасада намесьніка старшыні Дзяржпляну БССР.

Дадаткова зацьверджаны сябрамі Прэзыдыюму БАН акадэмікі: С. Матуляйціс, А.Платун і І.Ошэровіч.

СНК прыняў да ведама, што канчатковы склад Прэзыдыюму БАН, у сувязі з праведзенымі дадатковымі выбарамі, складаецца з наступных асобаў: Прэзыдэнт БАН - У.Ігнатоўскі, Віцэ-Прэзыдэнты - М.Бялуга і Я.Колас, Неадменны Сакратар - І.Пятровіч, Сябры Прэзыдыюму - акадэмікі: Матулайціс, Некрашэвіч і тав. А.Платун і І. Ошэровіч".[50]

Месца А.Баліцкага ня толькі ў НКА БССР, а і ў Прэзыдыюме БАН заняў новы "акадэмік" А.Платун, хоць ён ня меў ні пэдагагічнай ні, навет, сярэдняй асьветы. Скончыў толькі г.зв. "высшее начальное училище" і, ведама, ня меў ніякіх навуковых працаў ды нідзе ня чытаў ніякіх лекцыяў, затое быў сябрам партыі ад 1920 году,



ды самае галоўнае, - сябрам ЦК КП/б/Б, з даручэньнем партыі "ачышчаць" апарат НКА і сачыць БАН.

Гэтыя зьмены пачаткова былі ўспрынятыя, як адно ўзмацненьне саветызацыі й камуністычных уплываў на дзейнасьць Акадэміі. Ніхто яшчэ тады дакладна не ўяўляў, як трагічна мае закончыцца распачатая акцыя.

Адсунутыя ад кіраўніцтва асобы працягвалі й далей сваю навуковую працу, хоць у значна горшых, больш нэрвовых абставінах. Акадэмія рыхтавалася выпусьціць з друку праект новага беларускага правапісу ды разаслаць яго ўсім культурна-асьветным установам на абмеркаваньне. Катэдру глебазнаўства Прэзыдыюм БАН рэарганізаваў у Інстытут глебазнаўства ды ўздымаў пытаньне перад тагачасным "Постпрэдствам БССР" /сталае прадстаўніцтва/ у Маскве, каб яно старалася перад Народным Камісарыятам працы СССР і ВСНГ СССР аб замацаваньні за БАН пэўнага ліку спэцыялістых геалёгаў, хімікаў і эканамістых.

Мяркавалася навет накіраваць у Сібір навуковую экспэдыцыю дзеля азнаямленьня з жыцьцём і бытам Беларусаў-пераселенцаў.

1929/30 акадэмічны год супадаў з пачаткам генэральнага наступу бальшавізму на сялянства з распальваньнем ува ўсім і ўсюды г.зв. "клясавай барацьбы", з тарнаваньнем "сацыялістычных мэтадаў працы". Модным тады станавілася "сацыялістычнае спаборніцтва", якое не магло абмінуць і навуковай дзейнасьці.

У Менск прыяжджае дэлегацыя ад Усеўкраінскай Акадэміі Навук для падпісаньня "сацыялістычнае ўмовы". 19.I.1930 г. адбываецца "урачысты" агульны сход супрацоўнікаў БАН з удзелам дэлегатаў ад УАН, дзе й адбылося падпісаньне тае ўмовы. Ад імя БАН падпісалі ўмову - сакратар мясцовага камітэту БАН - Казак, сябра Прэзыдыюму БАН - Бялуга й акад. Некрашэвіч. Усяго ўмова мела 19 пунктаў і падзялялася на 4 часткі. Першая прысьвячалася пытаньням рацыяналізацыі структуры УАН і БАН, другая - арганізацыі плянавасьці навукова-дасьледавальнай працы, трэйцяя - удзелу Акадэміі ў "сацыялістычнай перабудове народнае гаспадаркі БССР і УССР" і чацьвертая - працы ў галіне культурнай рэвалюцыі і сувязі з масамі. Пасьля гэтага прадстаўнікі БАН і УАН выяжджалі ў Ленінград для канчатковага падпісаньня ўмовы аб спаборніцтве паміж Акадэміямі навук СССР, Беларускай і Украінскай.

 



На запраўды творчую навуковую працу не аставалася часу, бо трэба было ўсьцяж "спаборнічаць" - адбываць паседжаньні, плянаваць, перапляноўваць, уключацца ў "сацыялістычную перабудову" краю й пад.

Гэтак, у сувязі з калектывізацыяй вёскі, катэдра беларускае літаратуры БАН рыхтавала хрэстаматыі "мастацкіх" твораў, прысьвечаных тэмам "клясавай барацьбы й сацыялістычнага будаўніцтва", у прадпрыемствах і работніцкіх клюбах рабіла даклады аб "беларускай пралетарскай літаратуры", супрацоўнікі катэдры вымушаны былі "кансультаваць ды інструктаваць" літаратурныя гурткі пры работніцкіх клюбах і дапамагаць ім "у практычнай рабоце".

Аднак, камуністычна-бальшавіцкі наступ на БАН гэтым не абмежаваўся. Увесну, асабліва ўлетку 1930 г., пачаліся масавыя арышты. Адзін па адным трапляюць у падвалы ГПУ акадэмікі й супрацоўнікі БАН - А.Цьвікевіч, В.Ластоўскі, А.Смоліч, Красноўскі, Я.Лёсік, С.Некрашэвіч, праф. Бр.Эпімах-Шыпіла, Г.Гарэцкі, праф. У.Пічэта, М.Байкоў, А.Баліцкі, С.Дубінскі, Я.Дыла, а зь імі й шмат пісьменьнікаў, пэдагогаў, працаўнікоў краязнаўства, студэнтаў, агулам бяручы каля 300 асобаў.

Усе арыштаваныя абвінавачваліся ў стварэньні "кантррэвалюцыйнай арганізацыі" "Саюзу Вызваленьня Беларусі", што мела заданьне быццам-бы "адарваць БССР ад СССР і ўтварыць буржуазна-памешчыцкую рэспубліку" ды з гэтай мэтай мела сувязь із "Саюзам Вызваленьня Украіны", спрэпараваны ворганамі ДПУ "паказовы" працэс якога адбываўся на Украіне.

Пасьля таго, як у выніку ведамых сьвету мэтадаў допытаў, удалося ГПУ змусіць свае ахвяры да "прызнаньня" у сваёй "кантррэвалюцыйнай дзейнасьці", у газ. "Савецкая Беларусь" 8.XII.1930 абвяшчаецца наступная пастанова СНК БССР:

> "... У сувязі з выяўленьнем шкоднай кантррэвалюцыйнай дзейнасьці групы акадэмікаў БАН, дзейнасьць якіх была ськіравана супраць дыктатуры пралетарыяту і на зрыў пасьпяховага сацыялістычнага будаўніцтва, СНК БССР пастанаўляе выключыць із складу БАН акадэмікаў В.Ластоўскага, У.Пічэту, Я.Лёсіка, С.Некрашэвіча, Гаўрылу Гарэцкага, Аляксандру Дубаха, пазбавіўшы іх годнасьці акадэмікаў, як ворагаў пралетарскай дыктатуры".

Бальшавікі плянавалі зрабіць такі самы "паказальны працэс" і "Саюзу Вызваленьня Беларусі", як гэта было зроблена з г.зв.



"СВУ" на Украіне, а мо' навет і ў шырэйшым памеры. Паводля "байкі" ГПУ, арыштаванаму рэктару БДУ праф. У.Пічэта прызначалася роля "зьвязнога" паміж СВБ і твораным тады ГПУ СССР "Союзом освобождения России", на чале якога мяркавалася паставіць акадэміка Платонава, гэтак як і Пічэта, гісторыка,[51] "зьвязным-жа" із СВУ меў быць С.Некрашэвіч. З гэтай мэтай пачалося апрацоўваньне грамадзкае думкі праз апаганьваньне арыштаваных на розных сходах, мітынгах ды ў друку.

Гэтак, А.Сянкевіч у артыкуле "За ленінскую лінію ў нацпалітыцы" даводзіў:

> "Выкрытая органамі ГПУ кантррэвалюцыйная група на чале з былымі міністрамі й дзеячамі Беларускай Рады - Ластоўскім, Цьвікевічам, Лёсікам, Некрашэвічам і іншымі, акапаўшыся ў Беларускай Акадэміі Навук, прасунула адтуль свае шчупальцы на рад вучасткаў эканамічнага й культурнага фронту, Наркамзем, Накамасьветы, Белдзяржвыдавецтва і інш. ..."
>
> "... На беларускай акадэмічнай Канфэрэнцыі, што адбылася ў Менску ў 1927 г., быў заключаны блёк паміж цэнтрамі беларускай кантррэвалюцыі па гэты й па той бок мяжы ..."
>
> "... Кантррэвалюцыйная група беларускіх нац.-дэмакратаў падтрымлівала сувязь зь яфрэмаўшчынай або т.зв. Саюзам вызваленьня Украіны і разам з апошнім брала арыентацыю на адну і тую-ж імпэрыялістычную дзяржаву..."
>
> "Захапіўшы ў свае рукі рад навукова-дасьледавальных установаў /БАН,НДІ/ і рад катэдраў у ВНУ кантррэвалюцыйныя нацыянал-дэмакраты імкнуліся падрыхтаваць сабе навуковую зьмену..."
>
> "... актыўна праводзілася работа па ідэалізацыі мінулага Беларусі - сьвяткаваньне 400-годзьдзя беларускае прэсы й юбілей Скарыны, ідэалізацыя шляхэцкага рэвалюцыянэра Кастуся Каліноўскага, ідэалізацыя сярэднявечнага пісьменства праз падручнікі гісторыі беларускае літаратуры, пісаныя М.Гарэцкім, Чаржынскім, Піотуховічам..." 52

Прэзыдэнту БАН У.Ігнатоўскаму і Зьм.Жылуновічу, як камуністым, закідаецца "апартунізм", дзякуючы якому "ворагі" апанавалі важнейшыя становішчы ў БАН і НКА БССР. Першага змушаюць "дабраахвотна" зрачыся становішча Прэзыдэнта БАН і абавязкаў сябры Прэзыдыюму ЦВК БССР. І тую й другую "асабістую просьбу" Ігнатоўскага ў палове студзеня 1931 г. "ласкава" задаваляюць ЦВК і СНК БССР[53], а другі ўжо быў адсунуты ад уплываў раней.

Неўзабаве ўся прэса й перыядычныя выданьні запаўняюцца сэнсацыйнымі публічнымі асьветчаньнямі З.Жылуновіча, У.Ігнатоўска-

 

га, Якуба Коласа, дзе яны ўсе "каюцца" у сваіх "нацдэмаўскіх грахох". Ігнатоўскага змушаюць пісаць, а праўдападобней адно падпісаць, загадзя адрэдагаванае ў ГПУ асьветчаньне, дзе гаварылася, што: арыштаваныя: "...для сваіх агідных контррэвалюцыйных мэтаў выкарысталі рад савецкіх установаў, у тым ліку НКА, ІБК, а потым БАН, у часы, калі я там стаяў на чале кіраўніцтва. Гэтае выкарыстаньне зрабілася магчымым, дзякуючы майму нацыянал-апартунізму ў тэорыі й на практыцы".

Падобная заява аднаго з найбліжэйшых сяброў арыштаваных выдатных і адданых нацыянальнай беларускай справе дзеячоў мела, паводля бальшавіцкіх разьлікаў, дапамагчы ў большай пераканальнасьці распачатай акцыі дыскваліфікаваньня ўсяго беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, з канчальным прызнаньнем яго за "антынародны", ськіраваны на разрыў "братніх" сувязяў з расейскім народам.

Далейшым падмацаваньнем гэтага меў быць і арышт самога "каяльніка" У.Ігнатоўскага, з адпаведнай "падрыхтовай" яго ўжо ў падвалах ГПУ на кіраўніка прэпараванага "кантррэвалюцыйнага Саюзу Вызваленьня Беларусі".

Хадзілі тады чуткі, што акадэміка Ігнатоўскага, у працэсе выведна-інфармацыйных допытаў у справе арыштаваных, працаўнікі ГПУ імкнуліся сьхіліць да гэтага, і ён, каб пераццы такую магчымасьць, пасьля аднаго з падобных выведаў, ня вытрываў, і 20. II.1931 г. скончыў самагубствам. Найбольш аднак праўдападобнай была чутка, што Ігнатоўскага пра маючы наступіць ягоны арышт з успомненай мэтай папярэдзілі ягоныя сымпатыкі з ГПУ.

Так ці гэтак, адно трагічны канец У.Ігнатоўскага яшчэ мацней пераканаў народ у высокай ідэйнасьці і салідарнасьці Ігнатоўскага з паглядамі і дзейнасьцю тых людзей, якім не ўдалося ўсьцерагчыся арыштаў. Гэты крок перачырківаў вымушаныя каяньні не адно Ігнатоўскага, а і ўсіх іншых ды шмат у чым ускладняў бальшавіцкія пляны.

### 3. "Чыстка" БАН і "выбары" новых акадэмікаў

У працягу цэлага месяца месца Прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук заставалася вакантным. Бальшавіком цяжка было на гэткае выдатнае становішча падабраць у Беларусі адпаведную, выгадную ім ды нескампрамітаваную сувязямі з "нацдэмамі", асобу.



> "... Можна было прызначыць акадэмікаў з пачатковай асьветай, - кажа навочны і аўтарытэтны сьветка тагачасных падзеяў у Беларусі С.Крушынскі - але ў Прэзыдэнты патрэбна была "фігура".[54]
> 23.I.1931 г. адбылося паседжаньне Акадэмічнае Рады БАН "... у пераможны мамэнт, калі АН пераключалася на новыя рэйкі работы, якая павінна ператварыць БАН з пляцдарму нац. дэмакратаў у Акадэмію пралетарскую, будуючую сацыялістычную культуру, пралетарскую навуку",[55]

дзе й пастаноўлена давыбраць новых II акадэмікаў, абвясьціўшы вакантнымі пасады ў інстытутах: гісторыі, хіміі, мовазнаўства, а таксама ў катэдрах: марксізму-ленінізму, у аграрным пытаньні, этнаграфіі, матэматыцы, эканамічнай геаграфіі, фізыцы, жыдоўскім і польскім сэктарах. Пастаноўлена кампаніі надаць "шырокі грамадзкі характар", прыцягнуўшы да яе "працоўныя масы, навукоўцаў і ВНУ". Дзеля правядзеньня выбарнай кампаніі Акадэмічная Рада БАН выбрала камісію ў складзе: Хацкевіча, Платуна, Вольфсона, Шчарбакова, Рыўліна, Пятровіча, Агульніка й Сэрафімава.

"Давыбарная" кампанія зьбеглася такім чынам зь іншай кампаніяй - "ператварэньня БАН у пралетарскую акадэмію", як пампатычна называла "Савецкая краіна" крывавую "чыстку" працаўнікоў БАН, што тады праводзіла адмысловая камісія НКРСІ /Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі/ і ЦК КП/б/Б. Вынікам гэтага "ператварэньня" былі новыя звальненьні навуковых супрацоўнікаў, а сьледам за імі і арышты іх.

Яшчэ перад заканчэньнем кампаніі давыбараў акадэмікаў Масква знайшла патрэбную фігуру на становішча Прэзыдэнта БАН у асобе нейкага Горына, з нацыянальнасьці Беларуса, выхадца із Зах. Беларусі, што ўжо беларускай мовай не карыстаўся ды й сваё беларускае прозьвішча Каляда замяніў на Горын. 13.II.1931 г. СНК БССР зацьвярджае яго правадзейным сябрам і Прэзыдэнтам БАН[56].

Новапрызначаны Прэзыдэнт БАН - П.О.Горын /Каляда/ нар. у 1900 г. і, як падавала "Савецкая краіна", уступіў у партыю ў 1918 годзе, служыў дабраахвотнікам у чырвонай арміі. У студзені 1920 г. быў камандыраваны ў Сьвярдлоўскі Унівэрсытэт, па сканчэньні якога працаваў у лектарскай групе Унівэрсытэту. Ад 1923 да 1925 вучыўся ў Інстытуце чырвонай прафэсуры на гістарычным аддзяленьні. Ад 1925 г. быў сябрам прэзыдыюму Т-ва гіс-

торыкаў-марксістых, ад 1930 г. правадзейны сябра Камуністычнай Акадэміі. Працаваў намесьнікам дырэктара Інстытуту гісторыі Кам. акадэміі, намесьнікам рэдактара часапісу "Пралетарская рэвалюцыя" і быў сябрам рэдакцыйнай калегіі часапісаў "Гісторык-марксіст" ды "Гісторыя пралетарыяту СССР". Адначасна выкладаў у 2-ім Маскоўскім Дзяржаўным Ун-це і ў Інстытуце Чырвонае Прафэсуры. Паводля тэй-жа зацемкі ў "Сав. краіне" - "тав. Горын меў шэраг навуковых працаў зь гісторыі рэвалюцыйнага руху СССР і гісторыі УсеКП/б/ і інш."

Інакш кажучы - чалавек душой і целам адданы камуністычнай партыі. Бальшавікі ведалі добра, каго накіраваць для "расчысткі" Беларускае Акадэміі. Горын прыступіў да гэтага "заданьня" зь вялікай павагай і верай у "пачэснасьць" свае місіі, моцна ганарыўся тым, што ён вучань і пасьлядоўнік, расканаанізаванага пасьля сьмерці, а тады яшчэ найвялікшага стаўпа расейскай марксіцка-клясавай гісторыі Пакроўскага і вёў сябе, як сьцьвярджае цытаваны вышэй Крушынскі, моцна зачэпна - патрабуючы адусюль дапамогі ў ягонай цяжкай працы "перабудовы" Акадэміі ды абвінавачваў усіх у няспрыяньні яму ў гэтым. Ужо ў пачатку свае "дзейнасьці" Горын аўтарытэтна асьветчыў:

> "... Ад БАН патрабуецца самы актыўны ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве БССР... Перш за ўсё трэба зразумець, што навука не апалітычна... Цьвёрдае ўсьведамленьне, што навука клясавая, што Беларуская Акадэмія Навук павінна ўключыцца ў бурнае сацыялістычнае будаўніцтва БССР, такая вось першая канечна патрэбная ўмова павароту Беларускае Акадэміі Навук да тых задач, якія стаяць перад ею..." 57

Ягоныя-ж падгалоскі ў БАН - Л.Бабровіч і Ів.Шпілеўскі, колькімі бачынамі далей таго-ж часапісу, пастараліся ўслужліва расшыфраваць тыя "задачы" правадыра:

> "... Неадкладнымі задачамі павінны стаць задачы: дабіць клясавага ворага - нацдэмаў, ачысьціць ад іх усю Акадэмію Навук і катэдру Этнаграфіі БАН, узмоцніць навуковы фронт наагул і фронт этнаграфіі маладымі марсіцкімі кадрамі..." 58

У падобным-жа дусе "апрацоўвалася"й грамадзкая думка на: 10 рабочых сходах, 7 сходах марксіцкіх таварystваў, 8 сходах навукова-дасьледчых установаў, 9 сходах навуковых прадстаўнікоў і студэнтаў ВНУ, 4 сходах сэкцыі навуковых працаўнікоў"[59], прысьвечаных справам Акадэміі і выбару новых акадэмікаў.



Пры агульным тады тэроры й страху ня цяжка было выпэжысараваць і наступныя "наказы" гэных сходаў, якімі моцна захапляўся "новаабраны" акадэмік В.Шчарбакоў:

> "... 1/ Ператварыць Акадэмію ў запраўдны адзіны савецкі цэнтр навукова-дасьледчай працы, аўтарытэтнейшую марксіцка-ленінскую ўстанову БССР.
> 2/ Высоўваць у новыя акадэмікі лепшых барацьбітоў на марксіцка-ленінскім навуковым фронце, адданых справе рабочае клясы.
> 3/ Зрабіць Акадэмію Навук вастрэйшай зброяй камуністычнай партыі й савецкай улады.
> 4/ Падначаліць усю працу Акадэміі задачам сацыялістычнага будаўніцтва й будаўніцтва беларускай пралетарскай культуры, шчыльна зьвязаўшы работы ўсяе Акадэміі й кажнага навуковага працаўніка з прадпрыемствамі, з рабочай і савецкай грамадзкасьцю.
> 5/ Шырэй разгарнуць работу па падрыхтоўцы новых маладых навуковых кадраў з рабочых, калгасьнікаў і адданай справе пралетарыяту інтэлігенцыі.
> 6/ Канчаткова выкрыць і ліквідаваць нацдэмаўскую контррэвалюцыю на навуковым фронце й рашуча весьці барацьбу з усялякага роду буржуазнымі й дробна-буржуазнымі плынямі ў навуцы..." 60

Усім тым сходам было падказана "вылучыць" 21-го кандыдата ў новыя акадэмікі, а зь іх 18 сяброў КП/б/Б і толькі 3-х беспартыйных. З гэтых кандыдатаў Акадэмічная Рада БАН выбрала 10 акадэмікаў, хоць вакантных месцаў было 11, таму што адзінаццатае месца ўжо быў заняў і бяз гэтай выбарнай цыганіны прызначаны Масквой сам Прэзыдэнт БАН - Горын.

### 4. Рэарганізацыя БАН і ейная дзейнасьць пасьля камунізацыі

На падставе праведзеных "выбараў" 19.III.1931 г. СНК БССР пастанавіў:

> "...1/ Зацьвердзіць правадзейнымі сябрамі БАН наступных таварышоў: 1.П.Бурстына, 2.Аскара Кедрава-Зіхмана, 3.Міх. Кроля, 4.В.Лубяка, 5.М.Нікольскага, 6.П.Панкевіча, 7. А.Платуна, 8.Іезакіеля Рыўліна, 9.Віт.Сэрбэнта, 10. Васіля Шчарбакова.
> 2/ Зацьвердзіць тав. Шчарбакова Васіля Віцэ-Прэзыдэнтам БАН".61

У дапамогу С.Вольфсону па апаганьваньню "нацдэмаў" найбольш заядла ўключыўся быў новаабраны акадэмік В.Шчарбакоў, які, стаўшы Віцэ-Прэзыдэнтам БАН, сваю энэргію ў гэтым кірунку падвоіў. У сваіх стараньнях выслужыцца перад рэжымам яны не заўважалі,

што пачынаюць перабіраць усталеную афіцыйную мерку.

Ня ўсім, навет партыйным, было ведама, што старанна прэпараваны паказовы працэс г.зв. "Саюзу Вызваленьня Беларусі" ніяк ня клеіцца. Самагубства У.Ігнатоўскага й спроба самагубства папулярнага народнага паэты, акадэміка Янкі Купалы, у вадказ на намаганьні ГПУ прышпіліць іх да гэтага працэсу, шмат у чым пакрыжавалі пачатковыя пляны.

Іраноў-жа, безагляднае "разьвенчваньне" арыштаваных акадэмікаў і пісьменьнікаў зь бязупынным вытыканьнем іхнага патрыятызму, служэньня ідэі адраджэньня Беларусі, як галоўных правінаў, - рабіла іх у ваччу насельніцтва яшчэ большымі гэроямі-мучанікамі. Не дапамагалі тутака й нацягваньні накшталт "сувязяў зь інтэрвэнтамі" ды штампаваныя прыкладкі - буржуазныя выродкі й пад. Таму, адкінуўшы пачатковы плян публічнага працэсу, бальшавікі ціха, бязь ніякіх судовых працэсаў, высылалі іх па адным у розныя далёкія месцы поўначы й канцэнтрацыйныя лягеры.

Галоўная ўвага цяпер была зьвернута на замацаваньне камуністычнага верхаводзтва ў БАН ды пашырэньня празь яе сваіх уплываў на ўсю навукова-дасьледавальную працу ў БССР, з падпарадкаваньнем навуковых установаў БАН.

З гэтай мэтай СНК БССР выносіць 13 траўня 1931 г. наступную пастанову:

"1. Устанавіць, што БАН павінна быць адзіным навуковым рэспубліканскім цэнтрам, у якім канцэнтруецца агульнае кіраваньне ўсёй навукова-дасьледчай працай БССР, для чаго даць БАН права:
а/ плянаваньня працы ўсіх навукова-дасьледчых установаў, якія працуюць на тэрыторыі БССР, незалежна ад таго, пад чыім ведамам знаходзяцца гэтыя навукова-дасьледчыя ўстановы;
б/ устанаўленьня марксысцкай мэтадалёгіі ў працы ўсіх навукова-дасьледчых установаў;
в/ устанаўленьня тэматыкі і
г/ сыстэматычна кантраляваць усе навукова-дасьледчыя ўстановы ў галіне выкананьня імі ўсталеных пляноў і мэтадаў працы.
2. Абавязаць усе народныя камісарыяты й рэспубліканскія ўстановы, пад ведамам якіх знаходзяцца навукова-дасьледчыя ўстановы, а таксама філіялы ўсесаюзных інстытутаў, якія працуюць у БССР, своечасова падаваць пляны працы навукова-дасьледчых інстытутаў, станцыяў і інш. у Прэзыдыюм БАН.
3. Навукова-дасьледчыя інстытуты й установы, якія знаходзяцца пад ведамам наркаматаў і арганізацыяў, працуюць па заданьнях гэтых наркаматаў, установаў і арганізацыяў пад кантролем БАН.
Прапанаваць наркаматам, цэнтральным установам і арганізацыям узмацніць апэрацыйнае кіраваньне навукова-дасьледчай работай сваіх інстытутаў.
4. Ухваліць пастанову Прэзыдыюму БАН аб зьмене нутраной структуры БАН - пераход ад сыстэмы катэдраў на сыстэму спэцыяльных інстытутаў, прыняўшы да ведама лік арганізаваных інстытутаў і намечаных да арганізацыі.
5. Прапанаваць Прэзыдыюму Беларускай Акадэміі Навук не пазьней, як празъ месяц падаць у СНК праект адпаведных зьменаў у статуце БАН". 62



Робячы агляд працы БАН у першым паўгодзьдзі 1931 г., ейны новы Прэзыдэнт П.Горын сьцьвярджаў, што "пад кутом пагляду актыўнага ўдзелу Акадэміі ў сацыялістычным будаўніцтве была праведзена й рэарганізацыя Акадэміі"[63]. Рэарганізацыя палягала ў пераглядзе тэматыкі працаў і нутраное структуры Акадэміі, скіраванага на "цясьнейшае ўвязаньне з савецкімі й гаспадарчымі ўстановамі".

У нутранай структуры зроблены гэткія зьмены: замест ранейшых шматлікіх камісіяў, катэдраў і сэкцыяў былі створаны навукова-дасьледчыя інстытуты - філязофіі, эканомікі, гісторыі, савецкага будаўніцтва й права, мовазнаўства, літаратуры й мастацтва, геалёгічны, біялёгічных навук, фізыка-тэхналёгічны, хіміка-тэхнічны, агра-глебавы ды інстытут вышэйшай нэрвовай дзейнасьці. Апрача інстытутаў пры Акадэміі, былі пакінуты й сэктары: жыдоўскі, польскі, летувіскі й латыскі, камісія вывучэньня Заходняе Беларусі й ЦБ Краязнаўства.

23.VI.1931 г. СНК БССР зацьвердзіў Прэзыдыюм БАН у наступным складзе: Прэзыдэнт БАН - П.Горын /Каляда/, Віцэ-Прэзыдэнт - В.Шчарбакоў і Я.Колас /К.Міцкевіч/, сябры Прэзыдыюму - Ільля Ошэровіч, С.Вольфсон, Міх. Кроль, П.Панкевіч, А.Платун, І.Пятровіч, І.Рыўлін і В.Сэрбэнта[64].

"Увага акадэміі, - казаў Горын, - перш за ўсё была прыкута да выкрыцьця анты-марксысцкай мэтадалёгіі работ, што выйшлі спад пяра прадстаўнікоў вялікадзяржаўнага й нац.дэмакратычнага шавінізму..."[65]

З гэтага выглядае, што запраўднай свабоднай навукова-творчай работы, перадусім у дзялянцы гуманітарных навук, у гэтым часе ня было. Пацьвярджаюць гэта й тыя Горынаўскія прыклады "ўвязкі навукі з практыкай", як вывучэньне Інстытутам вышэйшай нэрво-

вай дзейнасьці "пытаньняў ударніцтва, стомленасьці і ейнай ліквідацыі", ці вывучэньне інстытутам філязофіі, "клясавай барацьбы ў рэканструкцыйны пэрыяд", "сучасных рэлігійных настрояў у БССР" ды распрацоўваньне праблемаў нацыянальнага пытаньня ў рэканструкцыйны пэрыяд".

Інстытут біялёгіі быў запрэжаны ў правядзеньне досьледаў над "культываваньнем соі", што тады, падобна цяперашняй Хрушчоўскай кукурузе, мела ратаваць бальшавікоў ад недахопу асноўных харчоў, асабліва тлушчаў, у выніку сельскагаспадарскага крызысу выкліканага безагляднай калектывізацыяй.

> "У мінулым паўгодзьдзі, - хваліўся Горын, - Акадэмія Навук зрабіла першыя крокі па сувязі з масамі. Было арганізавана звыш 100 дакладаў на навуковыя тэмы ў клюбах і на заводах і зроблены першыя крокі па выданьню папулярнай літаратуры..."66

Усе тыя хваленыя мерапрыемствы паказалі адно: апустошаная арыштамі й чысткамі ды апанаваная камуністычнымі элемэнтамі акадэмія не магла яшчэ ў тую пару ўзьняцца на вышыню хоць-бы пазьнейшай псэўда-навукі, а замянілася ў прапагандавы дадатак да партыйных ворганаў.

Камуністычная партыя яшчэ сама была не замацавала канчальна здабытых пазыцыяў у краі, ня мела патрэбнага ліку сваіх навукова-падкаваных кадраў, бо, як казаў той-жа Горын:

> "... нам цяпер, літаральна, патрэбна тысячы навуковых работнікаў... пры Акадэміі Навук быў арганізаваны інстытут асьпірантуры, што ставіў сваёй задачай падрыхтоўку пралетарскіх навуковых сілаў. У бягучым 1931 г. намечаны набор 180 асьпірантаў, а таксама арганізавана падрыхтоўчае аддзяленьне для рабочых і калгасьнікаў..." 67

Тыя-ж навукоўцы, што так-сяк захаваліся яшчэ, былі на гэтулькі запалоханыя, што не адважваліся моцна высоўвацца, тым больш, што й самі артадаксальныя марксістыя мала паказваліся паасобку, больш брыгадамі, ды й то часта падпадалі пад абстрэл зьменлівай палітыкі камуністычнай партыі.

У той час на ідэялягічным фронце камуністычнага алімпу СССР было зацятае змаганьне прыхільнікаў умацаваньня сталінскае дыктатуры зь ягонымі канкурэнтамі. Кажны дзень прыносіў нешта новае, больш жудаснае.

Побач з усялякімі ўхіламі ад "генэральнай лініі партыі", па-







чаў разьдзьмухоўвацца новы пухір - "меншавізуючы ідэялізм", што ігнараваў "навуковы" аўтарытэт самага непамыльнага - Сталіна. Ходаньне за самаўладзтва на вярхох пачынае крыху спозьненым рэхам адбівацца і ў пэрыфэрыі, у нацыянальных рэспубліках. У прыватнасьці ў Беларусі, акадэмікі Вольфсоны, Шчарбаковы ды іншыя так былі загаляпаваліся ў чарненьні "нацдэмаў", што перагнулі абавязваючую лінію. Скарысталі з гэтага пранырлівыя ў "Таварыстве ваяўнічых матар'ялістаў дыялектыкаў Беларусі", дзе дагэтуль Вольфсон і Шчарбакоў былі на чале. Адбываецца своеасаблівая "рэвалюцыя". 1.VI.1931 г. склікаецца сход таварыства, дзе прымаецца войстрая рэзалюцыя, важнейшымі мамэнтамі якой былі:

> "Пасьпяховае ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі немагчыма без рашучай барацьбы з рэакцыйнымі буржуазнымі й дробна-буржуазнымі ідэалёгіямі ўва ўсіх галінах тэорыі, ідэалёгіі, якія імкнуцца рэвізаваць марксізм-ленінізм, прыкрываючыся марксіцкай фразэалёгіяй.
>
> У галіне філёзофіі рэвізія марксізму знайшла свой выраз, з аднаго боку ў мэханістычнай канцэпцыі, якая ў асноўным ёсьць мэтадалёгіяй правага ўхілу і таму на даным этапе ёсьць найбольш небясьпечнай, з другога боку - у форме меншавіцтвуючага ідэалізму.
>
> Меншавіцтвуючы ідэалізм адмаўляў партыйнасьць у філёзофіі й наагул у навуцы, не падпарадкоўваў тэорыю справе сацыялістычнага будаўніцтва й рэвалюцыйнай барацьбы пралетарыяту... Меншавіцтвуючы ідэалізм адмаўляў ленінскі этап у разьвіцьці тэорыі марксізму-ленінізму, замазваў тэарытычныя памылкі Плеханава і іхную сувязь зь яговым меншавізмам, рэвізаваў Леніна... ігнараваў тэарэтычную ролю партыі, яе ЦК і тав. Сталіна... Сход ТБМДБ асуджае апартуністычную лінію кіраўніцтва ТБМДБ і лічыць неабходным зьмяніць кіруючы склад яго, узмацніўшы яго маладымі філёзофскімі кадрамі..." 68

Пасьля гэтага, у чырвені-ж, у БАН была створана брыгада, што, ўжо гэтым разам мела заняцца вывучэньнем усіх асноўных філязофскіх твораў у БССР /Вольфсона, Быхаўскага, Выдры і інш./. Успомненая бура, аднак, ня здымае з парадку дня справы "нацдэмаў". І цяпер, каб не дапусьціць да паслабленьня "клясавае пільнасьці" ў дачыненьні да яшчэ "недабітых нацдэмаў", вышукоўваюцца прыклады "прасяканьня варожае ідэялёгіі" ў працы Акадэміі. Такім прыкладам сталася зусім нявінная "інструкцыя аб вывучэньні быту й культуры лесарубаў і плытагонаў", апрацаваная этнаграфам І.Сэрбавам, які хоць і працаваў у Інбелкульце пры "нацдэмах", як спэ-

цыялісты, але ніколі ня быў іхнім прыхільнікам, таму й прайшоў праз усе праверкі й "ачысткі" апарату БАН.

Інструкцыя была надрукаваная ў №8 "Савецкай краіны", а ў 10-ым нумары ўжо была пастанова рэдакцыйнае калегіі часапісу:

> "1. Зьмяшчэньне інструкцыі, паданай навуковым супрацоўнікам сэкцыі этнаграфіі Інстытуту гісторыі І. Сэрбавам нібы ад сэкцыі этнаграфіі прызнаць грубейшай палітычнай памылкай.
> 2. Інструкцыя адбівае нац. дэмакратычныя ўстаноўкі ў этнаграфіі, а ігнаруе клясавую ўстаноўку.
> 3. Рэдактар часапісу Садоўскі ня выявіў належнай клясавай пільнасьці, справу якога разгледзець пасьля ягонага павароту з водпуску..." 69

Пад канец 1931 г. утвараецца пры БАН адмысловы "масавы сэктар", што разам із ЦБ Краязнаўства імкнецца перадусім "прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні ўсіх важнейшых гаспадарча-палітычных кампаніяў: пасеўнай, уборачнай, лесасплаўнай, хлебанарыхтоўчай і г.д.". Аднак, каб гэткая "ўвязка з масамі" вышэйшай дзяржаўнай навукова-дасьледавальнай установы выглядала не адно чыста палітычнай прапагандавай мякінай, краязнаўчым арганізацыям даручаецца яшчэ й "навукова-дасьледчая" работа:

> "1. Манаграфічнае вывучэньне 9 заводаў, выходзячы із дырэктываў ЦК УсеКП/б/,
> 2. Манаграфіі сельска-гаспадарчых камунаў, арцеляў, МТС і саўгасаў.
> 3. Вывучэньне клясавае барацьбы ў вёсцы /формы й мэтады супраціўленьня кулацтва ў калгасным будаўніцтве/". 70

Цяпер гэтакую справу можна было сьмела даручаць і краязнаўчым арганізацыям, бо яны таксама, як і БАН, "самаачысьціліся ад чужых і варожых элемэнтаў, што выконвалі нацдэмаўскія сацыяльныя заказы".

З артыкулу "Год працы інстытуту мовазнаўства БАН", напісанага брыгадай у складзе праф. Пётры Бузука, Яз.Мацюкевіча і П.Юргілевіча, можна пераканацца, чым стаў займацца гэты інстытут у 1931 годзе.

Ужо ў самым пачатку артыкулу брыгада засьцераглася, што "барацьба за марксіцка-ленінскае мовазнаўства была асноўнай задачай лінгвістаў БССР", а далей паясьнялася, што практычна бяручы, тое заданьне выглядала ў правядзеньні

> "моўнае палітыкі пад кіраўніцтвам партыі ў кірунку, указаным т. Сталінам на ХУІ зьезьдзе УсеКП/б/: "Трэба даць нацыянальным культурам разьвіцца й разгарнуцца, выявіўшы ўсе свае патэнцыі, каб стварыць умовы для зьліцьця іх у агульную культуру, з аднэй агульнай мовай..." 71





Тут, кажа брыгада, давялося ізноў весьці барацьбу на 2 фронты: зь вялікадзяржаўным шавінізмам і беларускім контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам, дзе першы разглядаў беларускую мову, як "наречие единого неделимого русского языка" і лічыў яе няпрыгоднай для навуковых і культурных мэтаў, а другія - "засьмечвалі беларускую мову архаізмамі ды старанна выганялі із слоўніка саветызмы".

Пазьнейшая рэформа беларускае граматыкі й правапісу давяла, што пачынаецца "набліжаньне беларускае мовы" да "аднэй агульнай мовы", дзе пад агульнай мовай разумелася мова расейская. З гэтага гледзішча зразумелым становіцца, чаму ў "барацьбе на 2 фронты" падалі ахвярамі арыштаў адно тыя, што толькі "засьмечвалі" беларускую мову, тымчасам як "вялікадзяржаўныя шавіністыя" ня толькі ня высылаліся, калі пакаяліся ў перадчасным заскоку, а маглі й далей нападаць на гэных засьмечвальнікаў беларускае мовы - нацдэмаў.

Гэтак і тут, пасьля прызнаньня, што "выкрываючы нацдэмаўшчыну ў галіне мовы, Бабровіч, Шпілеўскі, Бандарэнка, Вольфсон і Мацкевіч у сваім артыкуле "Навука" на службе нацдэмаўскае контррэвалюцыі" "дапусьцілі рад перагібаў і памылак вялікадзяржаўніцкага характару" ... той самы Мацюкевіч, але ўжо супольна з Бузуком і Юргілевічам мог давадзіць, што:

> "... інстытут мовазнаўства БАН вывучаючы жывыя гаворкі, у працілегласьць нацдэмам, падыходзіў да іх з выразнай клясава-сацыяльнай дыфэрэнцыяцыяй, выяўляючы паасобна асаблівасьці гаворак рабочых, бядняцка-серадняцкіх мас, кулацка-шляхоцкіх груп, інтэлігенцыі і г.д." 72

Каб мець хоць аднаго запраўднага моваведа ў БАН, праф. Бузук быў пакінуты да пары на свабодзе ды змушаны ў брыгадзе разам з Мацюкевічамі "вывучаць літаратурную мову ў шырокім сэнсе, г.зн. мову пісьменьнікаў, газэтаў, дзяржаўнага апарату... у першую чаргу выкарыстоўваючы мову пралетарскіх пісьменьнікаў, а ў газэтах мову рабселькораў..."73. Трывала гэта, аднак ня доўга. Бальшавікі не забыліся пра ягоную працу ў тых дыялекталёгічных экспэдыцыях, што ладзілі арыштаваныя нацдэмы, пра ягоныя выезды

за граніцу, дзякуючы тым-жа нацдэмам. Увосень 1933 году ён быў арыштаваны, але зь незразумелых прычынаў неўзабаве выпушчаны. Толькі ўжо праф. Бузук быў ня тым чалавекам. Адна зь ягоных былых вучаніц, А.Саковіч, у сваіх успамінах гаворыць, што:

> "ён адсоўваўся ад людзей. Часта яго бачылі на могілках. Ён хадзіў паміж магілак, гутарачы сам з сабой, ці гадзінамі сядзеў на лавачцы, ахапіўшы галаву рукамі. Што яго мучала? Разьвязка надыйшла неўзабаве. Праф. Бузук абліўся газай і падпаліў сябе." 74

5. Далейшая камунізацыя БАН

На І.І.1932 г. БАН складалася з 12 інстытутаў, 4-х нацыянальных сэктараў, камісіі вывучэньня Заходняе Беларусі, сэктару масавае работы й краязнаўства ды інстытуту асьпірантуры. Акадэмія мела сваю друкарню, выдавецтва, навуковую бібліятэку й цэнтральны батанічны сад.

Навуковых працаўнікоў было 138 асобаў, зь іх: акадэмікаў - 22, вучоных спэцыялістых - 60, навуковых працаўнікоў - 56. Партыйцаў было 58 - 42%. Паводля сацыяльнага паходжаньня: з работнікаў 13%, зь сялянаў - 37%, службоўцаў - 27%, саматужнікаў - 9%, іншых - 9%. Нацыянальны склад: Беларусаў - 53%, Жыдоў - 26%, Палякаў - 4%, Расейцаў - 11%, Латышоў - 2%, Летувісаў - 2%, Немцаў - 2%. Інстытут асьпірантуры меў 273 асьпірантаў, зь іх: партыйцаў - 66,3%, камсамольцаў - 15%[75].

У васнову распрацоўкі плянаў навукова-дасьледавальнай працы БАН на 1932 г. былі пакладзены "ўказаньні, дадзеныя ў вапошнім лісьце тав. Сталіна аб неабходнасьці рашучай барацьбы за чысьціню й далейшае разьвіцьцё маркса-ленінскай мэтадалёгіі..."[76].

Вынікі першага году працы скамунізаванай Беларускай Акадэміі Навук не задаволілі кіраўніцтва камуністычнай партыі БССР. У пачатку 1932 г. ЦК КП/б/Б прыняў спэцыяльную пастанову аб працы БАН. Пастанова ў сваёй уступнай частцы, прысьвечанай ацэне працы БАН, вызначалася шматслоўем пра заданьні БАН у "сацыялістычнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, як цэнтру беларускай сацыялістычнай культуры", пра неабходнасьць выкрываньня "памылак у працах Вольфсона, Выдры, Шчарбакова і інш." ды пра "бязьлітасную барацьбу з клясава-варожымі ўстаноўкамі" ў навуцы, пры захаваньні прынцыпу "партыйнасьці навукі".



Буйныя недахопы ў працы БАН пастанова прызнавала ў нізкай якасьці дасюлешняй папулярнасьці ў масах навукі й тэхнікі ды ў нерэалізаваньні пастановы СНК БССР з 13.У.1931 г. аб плянаваньні навукова-дасьледавальнай працы ў БССР.

На падставе гэтага ЦК КП/б/Б вызначыла шэраг "практычных мерапрыемстваў". Важнейшымі зь іх былі:

> "... Даручыць Культпропу ЦК у месячны тэрмін укамплектаваць Акадэмію навуковымі кадрамі, зрабіўшы іхнюю працу ў ёй асноўнай...
> ... Даручыць Культпропу ЦК і Камісіі СНК БССР прасачыць выкананьне пастановы СНК з 13.У.1931 г. і прыцягнуць да суровай адказнасьці нявыконваючых у практыцы гэтае рашэньне..." 77

Цяпер ужо ня толькі ў выбар акадэмікаў умешвалася партыя, а навет, абмінаючы Прэзыдыюм БАН, што тварыўся не на акадэмічных падставах, а дзеля кантролю, мела камплектаваць і кадры навуковых супрацаўнікоў. Поўная камунізацыя БАН была вельмі важнай праблемай для ЦК КП/б/Б, таму што партыя пастанавіла зрабіць зь яе свой кантрольны цэнтр, сваё "вуха й вока" ўва ўсёй навукова-дасьледавальнай працы ў рэспубліцы. Таму гэтак войстра націскала на выкананьне пастановы СНК з 13.У.1931 г.

Тады яшчэ не хапала сваіх верных гадунцоў на апанаваньне поўнасьцю навуковай працы ўсюды, ува ўсіх навукова- дасьледавальных установах і ВНУ. Недахоп гэты цяжка было адразу залатаць, навет такімі драстычнымі захадамі, як "датэрміновы выпуск асьпірантаў" зь Інстытуту асьпірантуры БАН, адкуль з агульнай колькасьці 273 асьпірантаў выпушчана ўсяго "10 таварышоў дастаткова падрыхтаваных лепшых ударнікаў, што перайшлі на самастойную навуковую работу"[78].

Тымчасам, калі да свайго пагрому ў 1930/31 годзе Інбелкульт і БАН цешыліся вялікім навуковым аўтарытэтам праз свае практычныя, глыбокія дасьледавальныя працы, выданьне якіх з году ў год павялічвалася /за адзін толькі 1925/26 г. Інбелкульт выдаў навуковых працаў на 160 друк. аркушаў ды падрыхтаваў да друку 400 аркушаў[79], то перабудаваная Акадэмія

> "... з гнязда контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратаў у Акадэмію Савецкую, у цэнтр пралетарскай навукі й нацыянальнай пралетарскай культуры..." 80

не магла яшчэ пахваліцца аніводнай паважнай пазыцыяй, ды й не адно акадэмія.

"...42% усяго складу навуковых працаўнікоў не далі ніякай прадукцыі, ня маюць ні кніг, ні часапісных артыкулаў"

Прычына гэтага ў тым, што:

"... частка навуковых працаўнікоў не дае прадукцыі ад страху: як-бы не зрабіць вялікіх мэтадалягічных і гістарычных памылак. Гэта акалічнасьць вядзе да таго, што цэлы шэраг працаўнікоў імкнецца, каб іхныя працы былі прагледжаныя абавязкова марксістымі-камуністымі і толькі ў гэтым выпадку яны згаджаюцца аддаваць свае працы ў друк..." 81

Ізноў-жа і марксістыя-камуністыя баючыся апячыся гэтак, як Вольфсон, Шчарбакоў ды іншыя, ня надта квапіліся з апублікаваньнем сваіх ці рэдагаваньнем іншых працаў, маючы наўвеце новае папярэджаньне аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП/б/Б у пастанове "Аб культурным будаўніцтве", дзе прапанавалася:

"завайстрыць увагу ўсёй партарганізацыі на задачах узмацненьня палітычнай пільнасьці да ўсякіх варожых праяўленьняў у навуковых работах, артыкулах і г.д."[82]

Праўда, паводле вытворчага пляну БАН на 1932 г., трэба было апрацаваць 273 навуковыя тэмы, а зь іх з галіны сацыяльных навук - 168 тэмаў, прыродазнаўчых - 105. Плян аднак заставаўся плянам, і калі нешта рабілася больш-менш навуковага характару, то пераважна ў галіне прырадаведных навук і то з дапасаваньнем да вымогаў "сацыялістычнае рэканструкцыі сельскае гаспадаркі".

Галоўная ўвага зьвярталася на паказовы ды прапагандавы бок справы. Зь вялікай помпай былі праведзеныя г.зв. "дэкаднікі БАН" у Віцебску, Гомелі ды Койданаўскім раёне, што 15.III.1932 г. з прапагандпай мэтай быў пэратвораны ў "нацыянальны польскі раён"[83]. У сувязі з гэтым Прэзыдыюм БАН пастанавіў быў выдаць спэцыяльны зборнік аб Койданаўшчыне, скарыстаўшы ў ім матар'ялы г.зв. комплекснай экспэдыцыі БАН улетку 1931 году. Адказнасьць за выданьне зборніка ўскладалася на Польскі сэктар БАН. Зборнік гэны так і не пабачыў сьвету, бо новыя зыгзагі ў нацыянальнай палітыцы партыі зьмялі пазьней ня толькі ўвесь польскі нацыянальны раён, а й сам польскі ды іншыя нацыянальныя сэктары БАН.

Дэкаднікі БАН палягалі ў тым, што на нейкі час выяжджалі ў месцы, дзе адбываўся дэкаднік, працаўнікі БАН ды рабілі рэфэраты ў работніцкіх клюбах і непасрэдна на прадпрыемствах, на такія прыкладна тэмы, як: праца БАН, клясавыя ворагі на гістарыч-



ным фронце БССР, Ленінскі этап у філязофіі, клясавая барацьба й дыктатура пралетарыяту ў 2-ой пяцігодцы й пад.

У той час у вялікай модзе быў "заклік ударнікаў у літаратуру", а па аналёгіі быў прышпілены й "заклік ударнікаў у навуку". Зразумела, што ні той, ні другі, апрача пустаслоўства ды непрадукцыйнай траты часу, нічога не далі. Яшчэ ніколі не ўдалося зрабіць такога цуду, каб, навет найлепшы "Ударнік" вытворчасьці, бяз таленту да гэтага, адпаведнай падрыхтовы ды мінімальнай культурнай эрудыцыі мог стацца пісьменьнікам ці вучоным на адзін толькі "заклік". Тымчасам на дэкадніках БАН гэнае "кліканьне" ўважалася за "практычнае мерапрыемства" акадэміі. Панчошная хвабрыка "КІМ" у Віцебску на сходзе сваіх работнікаў, дзе іх працаўнікі БАН "заклікалі ў навуку", вылучыла цэлую брыгаду з 15 асобаў для "вывучэньня гісторыі хвабрыкі і сталай сувязі з БАН", а на заводзе "Чырвоны мэталіст" вылучана 2-х работнікаў на падрыхтоўчае аддзяленьне Інстытуту асьпірантуры[83].

Які эфэкт дзеля "пралетарскай навукі" падобныя "практычныя мерапрыемствы" Акадэміі Навук мелі, ня важна, важна тое, што партыя выгнала акадэмікаў із "замкнутых навуковых габінэтаў" у "працоўныя масы".

Выганяньне ў масы не абмяжоўвалася адно дэкаднікамі. Новаствораны ў канцы 1931 г. масавы сэктар БАН распарцэляваў усіх супрацоўнікаў па адмысловых брыгадах /42 асобы/, што былі "прымацаваныя да буйнейшых заводаў Менску", апрача гэтага, вылучана 30 чал. /акадэмікаў, прафэсараў, вучоных спэцыялістых/ і прымацавана: да раёнаў - 19 асобаў, да саўгасаў - 16 асобаў, да калгасаў - 28 асобаў, МТС - 4 асобы, хвабрык і заводаў - 13 асобаў.[84]

Апрача гэтага, масавы сэктар яшчэ арганізоўваў спэцыяльныя нарады, прысьвечаныя ўдзелу інстытутаў БАН у пасеўнай ды ўборачнай кампаніях.

Вось чаму, у дадатку да страху перад небясьпекай недатрыманьня тону, цярпела навуковая прадукцыя супрацоўнікаў БАН.

## 6. Рэалізаваньне "практычных мерапрыемстваў" ЦК КП/б/Б у дачыненьні БАН

Як было адцемлена вышэй, ЦК КП/б/Б даручыў быў свайму Культпропу "ўкамплектаваць БАН навуковымі кадрамі". Пачалося яно

зьверху з дапамогаю Масквы. Там ад 1924-га году знаходзіўся "беспрацоўны" даволі выдатны польскі камуністы Тамаш Домбаль, былы камуністычны пасол польскага сойму, што за сваю антыдзяржаўную дзейнасьць быў трапіў у турму, а пазьней быў выменены бальшавікамі на арыштаваных у Менску каталіцкіх ксяндзоў.

Домбаля пачаткова Крэмль выкарыстаў на становішчы старшыні г.зв. "Крэстінтэрну" /Сялянскага Інтэрнацыяналу/, што побач із Камінтэрнам і пад яго загадамі меў заданьне інфільтрацыйнай дзейнасьці за межамі ў "капіталістычных краёх".

Пасьля няўдачы з гэтай імпрэзай, Крэмль паслаў Домбаля ў дапамогу Горыну камунізаваць БАН. Яго, ведама, "выбіраюць" гэтта за акадэміка і 29.VIII.1932 г. СНК БССР зацьвярджае яго на становішча "Першага Віцэ-Прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук"[85].

Зразумела, што Домбаль ня меў ніякай надзвычайнай вартасьці, як навукова-спэцыялісты ды й не прэтэндаваў на гэта. Ягонае прызначэньне мела зусім іншы, не навуковы характар, але й да яго ён ня выявіў такога энтузіязму, як Горын. Каму даводзілася сустракацца з Домбалем, той пацьвердзіць, што ў запраўднасьці ён быў чалавек даволі сымпатычны, што любіў добра пажыць, і не адзначаўся зацятасьцю камуністычнага фанатыка й дагматыка. Крушынскі ў цытаванай ужо гэтта працы кажа, што: "Домбаль цьвердзіў, што ён працуе над вялікай навуковай працай - апісаньнем рэчак Беларусі. У вагульнай атмасфэры савецкай насьцярожанасьці зьбіраньне матар'ялаў і вядзеньне картатэкі рэчак з паказаньнем глыбіні, шырыні, хуткасьці бегу ды берагоў паставілі працу Домбаля пад падазрэньне".

Крушынскі падае вельмі характэрны й можна сказаць анэкдатычны факт упадку Домбаля, факт, трагікамічнасьць якога дае ўяўленьне аб тым, як мала трэба было ў тыя часы, каб трапіць за краты. Калі будавалі новыя будынкі для Акадэміі Навук, кажа Крушынскі, паводля жаданьня Домбаля і ягоных вызначэньняў, недалёка ад Акадэміі, крыху ў баку ад гарадзкога руху, быў пабудаваны дамок на кватэру, з архітэктуры нагадваючы Захад, а самае галоўнае - пры дамку была пабудаваная галубятня. У часе Яжоўскай чысткі Домбаля арыштавалі, ягоную працу вывучэньня рэчак Беларусі прызналі шпіёнскай, а галубятню - станцыяй паштовых галубоў!

Абсаджваньне навуковых становішчаў камуністычнымі элемэнтамі адбывалася не адно ў БАН, а, у меру магчымасьцяў, і ў іншых навукова-дасьледавальных і вышэйшых навучальных установах. Дзеля наданьня большай павагі ды аўтарытэту гэным новым кадрам "Палажэньне аб навуковых працаўнікох ВНУ і навукова-дасьледавальных установаў" у 1932 г. устанавіла наступныя катэгорыі:



а/ у ВНУ - прафэсар, дацэнт, старшы асыстэнт, асыстэнт,

б/ у навукова-дасьледавальных установах - акадэмік, вучоны спэцыялісты, старшы навуковы супрацоўнік, навуковы супрацоўнік, асыстэнт.

Адпаведнасьць катэгорыяў:

Вучоны спэцыялісты - прафэсар, ст. навуковы супрацоўнік - дацэнт, навуковы супрацоўнік - ст. асыстэнт, асыстэнт - асыстэнт. Акадэмік, прафэсар і дацэнт - навуковыя годнасьці, рэшта - навуковыя пасады[86].

Укамплектаваная БАН новымі камуністычнымі сіламі ў пачатку 1932 году пашырыла й сваю арганізацыйную структуру на 3 новых інстытуты: інстытут торфу, інстытут польскай пралетарскай культуры ды інстытут жыдоўскай пралетарскай культуры, летувіскі й латыскі надалей засталіся нацыянальнымі сэктарамі.

Із прадмовы Горына да "Вытворчага пляну БАН на 1932 г." вынікала, што:

> "... у навукова-дасьледчай працы БАН у 1933 годзе асаблівая ўвага будзе прызначана вывучэньню наступных пытаньняў: ажыцьцяўленьню ў нашым будаўніцтве "шасьці ўмоваў т. Сталіна", 86/ спэцыялізацыі БССР у сыстэме СССР, вывучэньню пытаньняў, зьвязаных з завяршэньнем 4-га году першай пяцігодкі ды распрацоўваньнем наступных пяцігодак, сучаснай клясавай барацьбы, ролі нацыянальнага пытаньня ў рэканструкцыйны пэрыяд, вывучэньню буржуазных тэндэнцыяў у сучаснай беларускай мастацкай літаратуры, клясавая барацьба ў сучаснай мовазнаўстве, падрыхтова нарысаў зь гісторыі Беларусі, манаграфічнае вывучэньне фабрык, заводаў і калгасаў, роля сельскіх саветаў у калгасным будаўніцтве і г.д.
>
> "Гэта сьветчыць, - казаў Горын, - аб рашучым павароце Акадэміі да заданьняў сучаснасьці. Цясьнейшая ўвязка навукі з сучасным сацыялістычным будаўніцтвам адно з галоўных заданьняў Акадэміі", бо раней "пад нацыянал-апартуністычным кіраўніцтвам Ігнатоўскага БАН займаўся больш за ўсё распрацоўкай праблемаў старажытнай і сярэднявяковай гісторыі ... праблемы сац. будаўніцтва яе амаль зусім ня цікавілі... мовазнаўства, літаратура, гісторыя, этнагра-

> фія, эканоміка, антрапалёгія, і іншыя галіны навукі распрацоўваліся нацыянал-дэмакратамі ў кірунку апраўданьня рэакцыйнай ідэі беларускага "адраджэнцтва" і контррэвалюцыйных спробаў рэстаўрацыі буржуазнай дзяржавы..." 87

З гэтага вынікала, што і ў 1933 годзе БАН вымушана была пад шыльдай навукі займацца чыста утылітарна-прапагандовай дзейнасьцю.

22-га жніўня 1933 г. СНК БССР зацьвердзіў новы статут БАН, на аснове якога, выходзячы з пастановы таго-ж СНК з 13.У.1931 г., БАН была вышэйшай навукова-дасьледавальнай установай БССР і "адзіным навуковым рэспубліканскім цэнтрам, у якім канцэнтруецца агульнае кіраваньне ўсёй навукова-дасьледчай працай у БССР".

Параграф 2-гі новага статуту забавязваў БАН: весьці

> "барацьбу за марксыцка-ленінскую мэтадалёгію ўва ўсіх галінах навукі, плянаваньне працы і ўстанаўленьне тэматыкі ўсіх навукова-дасьледчых установаў, што працуюць на тэрыторыі БССР, незалежна ад таго, пад чыім ведамам яны знаходзяцца, ды сыстэматычны кантроль над усімі навукова-дасьледчымі ўстановамі на тэрыторыі БССР у галіне выкананьня імі ўстаноўленых плянаў і мэтадаў працы".

Усё-ж, ня гледзячы на ўсе свае "практычныя мерапрыемствы", камуністычнай партыі было цяжка справіцца з нацыянальнай сілай адпору бальшавіцкаму наступу на свабоду навукі ў БАН.

Колькі разоў ачышчаны, камплектаваны, перакамплектоўваны склад навуковых супрацоўнікаў БАН ніяк ня мог задаволіць канчальна ўлады. Навет і пасьля ўрадавага вызнаньня БАН за "адзіны вышэйшы навуковы цэнтр" у рэспубліцы давялося бальшавіцкай марыёнэтцы - "ўраду БССР" - пад ціскам камуністычнай партыі абыйсьці гэты цэнтр у такой справе, як рэформа беларускага правапісу. Справа рэформы беларускага правапісу, пасьля Акадэмічнай канфэрэнцыі, як ужо гаварылася ў папярэдніх разьдзелах, падрыхтоўвалася вельмі паважна ў моваведных інстытуцыях БАН. Быў апрацаваны канчальны праект, што чакаў свайго зацьверджаньня. Праект гэны быў пахаваны у сувязі з паходам бальшавізму на БАН у 1930 годзе, пасьлейшай чысткай БАН ды закваліфікаваньнем акадэмічнае канфэрэнцыі, як замаскаванай "зборкі беларускай нацыянал-дэмакратычнай контррэвалюцыі".

Ужо "ачышчаны" ад "варожных элемэнтаў", а ў запраўднасьці ад моваведаў-спэцыялістых, Інстытут моваведы БАН быў улажыў новы праект правапісу й практычнае граматыкі ў 1932 г., а дзеля



ягонага разгляду праектавалася скліканьне ў Менску моўнае канфэрэнцыі. Да яе, аднак, не дайшло, бо той праект не задаваляў вярхоў. Тады давялося Інстытуту моваведы сьпешна яго перагледзець і ўжо ў новай рэдакцыі абвесьціць 26 чырвеня 1933 году ў воргане ЦК КП/б/Б "Зьвязьдзе". Урад-жа БССР /СНК/ у сваім дэкрэце 28. УІІІ.1933 г., уводзячым зьмены практычнае граматыкі й правапісу беларускае мовы, можна сказаць цалкам зьігнараваў і той апошні праект свайго "адзінага вышэйшага навуковага цэнтру", бо дэкрэт "далей чымся ў 2/3 розьніцца ад праекту Інстытуту моваведы з 28.УІ.1933 г." 88 .

Гэтае ігнараваньне было ня простым адно прыпадкам, а знарок, бо 16 верасьня 1933 г. "Зьвязда" пісала:

> "Новы правапіс ёсьць адной із канкрэтных праяваў тае барацьбы, каторую вядзе партыя за будаўніцтва культуры нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьместу. Нажаль гэтае праўды яшчэ не разумеюць некаторыя таварышы. Наадварот, у вапонім часе заўважана тэндэнцыя сярод асобных працаўнікоў, сьціраваная на тушаваньне абмылак і скажэньняў, што былі і ёсьць у Беларускай Акадэміі Навук, асабліва ў Інстытуце Моваведзнаўства, дзе астачы нацдэмаў прабавалі й прабуюць пад рознымі прыклёпамі далей шырыць свае ідэі.
>
> "Партыя тры гады назад разьбіла й выгнала з Акадэміі Навук Лёсікаў, Ластоўскіх, Некрашэвічаў, Цьвікевічаў. Дык хто-ж даў права людзям, седзячым у Інстытуце Мовазнаўства, так начэпна сьцерагчы гэтую спадчыну? Як магло стацца, каб ані Прэзыдыюм Акадэміі Навук, ані партыйная ячэйка не заўважылі гэтага і ня ўжылі сяродкаў дзеля ачышчэньня Інстытуту Мовазнаўства ад клясава-чужых элемэнтаў і іхнае спадчыны?" 88а/

Пасьля такое "праборкі", зразумела, былі "ўжыты" адпаведныя сяродкі. Пачалося новае пераварочваньне дзеля апраўданьня "выкрыцьця" ворганамі ГПУ яшчэ адной "контррэвалюцыйнай" арганізацыі - "Беларускага Нацыянальнага Цэнтру", што быццам-бы меў сувязі з украінскай арганізацыяй і польскім штабам ды намераваўся ўвосені 1933 г. або ўвесну 1934 г. выклікаць паўстаньне ў БССР.

Гэтым разам бальшавікі ў першую чаргу арыштавалі ўсіх былых беларускіх паслоў у польскі сойм, што ўцяклі з Заходняй Беларусі ў БССР або былі вымененыя як вязьні, а сьледам за імі і шмат іншых людзей, а ў тым ліку і супрацоўнікаў БАН /Праф. Бузук і

інш./. Былі знойдзены тады "контррэвалюцыйныя польскія нацыяналістыя" ў польскім сэктары БАН /Віткоўскі, Мястоўская і інш./, бо ў жыдоўскім сэктары яшчэ ў 1931-32 г. "партыя выкрыла нац. апартуністычныя ўстаноўкі з боку навуковых работнікаў, якія рабілі націск на клясавы мір у жыдоўскай нацыянальнай рабоце". Там "дзякуючы крытыцы й самакрытыцы з боку рабочых і працоўных мас, пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі", ужо тады ўдалося ачысьціцца ад "нацдэмаўскіх апартуністычных навуковых працаўнікоў". Былі зьняты з работы "навуковы работнік Раўрэбэ, якога газ. "Акцябр" назвала "дацэнтам у ярмолцы", і нацдэмаўскі "навуковы працаўнік" І.Гольдбэрг ды нац. апартуністы І.Сосіс."[89].

Чародны паход супраць "рэштак недабітых" нацыяналістычных элементаў у Беларусі і Украіне выклікаў на паверхню ізноў праблему падрыхтовы сваіх "пралетарскіх" кадраў у гэтых рэспубліках.

СНК СССР выслухаўшы справаздачы БАН і ВУ АН, прыняў у гэтай справе адпаведную пастанову, адзначыўшы, што хоць за пэрыяд 1931-34 г. Інстытут асьпірантуры пры БАН і выпусьціў 109 асобаў новых навуковых працаўнікоў, якія былі скарыстаныя ў БАН ды іншых навукова-дасьледавальных установах і ВНУ, то набор кандыдатаў у Інстытут асьпірантуры быў неадпаведны, бо быў значны адсеў - за апошні год 50 асобаў[90].

Пераказваючы гэную пастанову, СНК БССР 7.Х.1934 г. вынес сваю пастанову "Аб парадку падрыхтоўкі асьпірантаў і кантынгентаў прыйма на 1934/35 нав. год", дзе прапанаваў:

> "... У асьпірантуру БАН прыймаць асобы, якія актыўна ўдзельнічаюць у сацыялістычным будаўніцтве, пасьпяхова скончылі й абаранілі дысэртацыю на ступень кандыдата навук, а таксама асобы, якія хаця й ня маюць навуковай ступені кандыдата навук, але маюць навуковыя працы па спэцыяльнасьці і якія змогуць абараніць дысэртацыю на ступень кандыдата навук у працягу першага году работы ў асьпірантуры..." 91/

Тэрмін навучаньня ўстанаўляўся 3 гады, а кантынгент прыйма на 1934/35 нав. год у колькасьці 13 асобаў з наступным падзелам: па аддзелу філёзофіі - 2, гісторыі - 2, літаратуры - 2, лінгвістыкі - 2, права - 2, эканомікі - 2, матэматыкі - 1, біялёгіі - 1, геалёгіі - 1. Такім парадкам адбылося ціхае адмаўленьне ад няўдалай практыкі папярэдніх гадоў г.зв. "кліканьня ўдарнікаў" з утвараньнем дзеля іх адмысловых падрыхтавальных аддзяленьняў пры Інстытуце асьпірантуры.



7. Апошнія гады дзейнасьці Акадэміі, як Беларускай Акадэміі Навук

Пачатыя ад 1929 году бязупынныя чысткі й войстрыя асуджаньні найменшых адхіленьняў у навуковых працах, асабліва ў гуманітарных навуках, ад "марксіцка-ленінскай мэтадалёгіі", зь няўнікнёнай у такіх выпадках інтэрвэнцыяй органаў дзяржаўнай бясьпекі з пасьлейшым арыштам, высылкай у канцэнтрацыйныя лягеры або й фізычнай "ліквідацыяй", - даслоўна замарозілі, стэрарызавалі ўсялякія праявы самастойнага навуковага думаньня супярэчнага афіцыйна прызнанай рэжымам форме.

Хоць бальшавіцкая партыя ў працягу гэтых гадоў моцна абсадзіла Беларускую Акадэмію Навук камуністычнымі элементамі, яшчэ далёка ня ўсе супрацоўнікі Акадэміі былі арганічнымі камуністымі, камуністымі зь перакананьня, ня з формы. Частка іх, даволі значная, была, бязумоўна, заціятымі камуністычнымі фанатыкамі, або звычайнымі кар'ерыстымі ў навуцы, але былі там яшчэ й сумленныя людзі, людзі навукі, што ў імя навукі вымушаны былі апранаць маску лёяльнасьці, а навет насіць у кішані партыйны білет.

Тым ня менш, БАН ужо была моцна ўпрэжана ў ваглоблі "сацыялістычнага будаўніцтва". Акадэмія выдавала свой пэрыядычны часапіс "Запіскі Беларускай Акадэміі Навук", дзе друкаваліся працы акадэмікаў і навуковых супрацоўнікаў з розных галінаў веды, пераважна аднак у галіне прыродаведных і эканоміка-гаспадарскіх дасьледваньняў.

Праца паасобных Інстытутаў БАН у 1934 г., працякала наступна:

Інстытут філязофіі - займаўся трыма галоўнымі і актуальнымі для бальшавізму тае пары пытаньнямі:

1/ распрацоўкай ленінскай філязофскай спадчыны,

2/ выкрыцьцём рэакцыйнай шавіністычнай ідэялёгіі сучаснага фашызму ды

3/ выкрыцьцём "контррэвалюцыйнай-нацыяналістычнай ідэялёгіі й практыкі беларускага нац. дэмакратызму".

Канкрэтныя працы: С.Вольфсон - "Ідэалёгія загніваючага капіталізму", І.Ільюшын /старшы навуковы супрацоўнік/: "Ленінская кры-

тыка кантыянства й нэакантыянства"; С.Вольфсон і І.Ільюшын: "Марксыцка-ленінскае вучэньне аб пралетарскім інтэрнацыяналізьме".

Рыхтаваўся да друку Зборнік, прысьвечаны "выкрыцьцю нацыяналістычнай канцэпцыі беларускага нац. дэмакратызму ў галіне гісторыі, эканомікі, мовы, літаратуры і г.д."

Як выглядае зь пералічаных назоваў, гэныя "працы" былі вельмі далёкімі ад філязофіі й навукі наагул. Нічым яны не маглі ўзбагаціць беларускай навукі і нічога новага "выкрыць", бо былі ў псэўданавуковым сосе звычайным перапяваньнем партыйных установак і наказаў і без таго друкаваных у мільёнах экзэмпляраў макулятуры. Афіцыйна-ж тая "навуковая дзейнасьць Інстытуту філязофіі самым цесным чынам увязвалася з запатрабаваньнямі будаўніцтва сацыялізму ў БССР".[92]

Інстытут гісторыі - не адставаў ад Інстытуту філязофіі ў гэтым кірунку. Разам із Цэнтрархівам БССР прэпараваў дакумэнты аб "контррэвалюцыйнай дзейнасьці беларускіх нац.дэмакратаў у часы кастрычніцкай рэвалюцыі й грамадзянскай вайны", а ў "адказ на пастанову ЦК УсеКП/б/ аб гісторыі, разгарнуў работу па складаньню хрэстаматыі зь гісторыі Беларусі".[93]

Хрэстаматыя была разьлічана, як навучальны матар'ял для сэмінарскіх і прасэмінарскіх заняткаў студэнтаў і для выкладчыкаў сярэдніх школаў і ВНУ. Работа, як казаў часапіс, "праводзілася ўдарна" і I том, што ўключаў матар'ялы зь гісторыі Беларусі да XIX в., быў падрыхтаваны да друку разьмерам у 50 аркушаў.

З друку былі выйшлі наступныя працы: акад. П.Горына "Саветы ў 1905 г.", акад. В.Шчарбакова - "Клясавая барацьба й гістарычная навука ў БССР", а ў "Запісках Беларускай Акадэміі Навук" у нумарох 2 і 3-цім артыкулы В.Шчарбакова: "Крыніцы вывучэньня гісторыі Беларусі" і "Сялянскае паўстаньне Крычэўскага староства 1744 г."; апрача гэтага выйшла з друку кніжка: "Нарысы гісторыі Беларусі". Першая частка яе абыймала пэрыяд гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да канца XVIII в. Акадэмік В.Шчарбакоў працаваў над 2-ой часткай.

Інстытут літаратуры й мастацтва - вёў "масавую работу" - папулярныя даклады й лекцыі пра беларускую ды расейскую літаратуру й мастацтва /55 лекцыяў за I-ае паўгодзьдзе/, даваў крытычныя артыкулы ў газэты "Зьвязда" ды "Літаратура й мастацтва", выдаў



зборнікі твораў П.Труса й Цёткі. Пра "акадэмічнасьць" гэтых апошніх выданьняў сьветчыць прадмова да зборніка твораў А.Цёткі, дзе між іншым зазначаецца, што:

> "... у гэты зборнік твораў пісьменьніцы не ўвайшлі тыя вершы, апавяданьні і артыкулы, дзе асабліва выразна выяўлены буржуазна-нацыяналістычныя пагляды Цёткі, яе арыентацыя на кулацкую сялянскую гаспадарку, таксама, як і тыя, дзе яна ідэалізуе дробна-буржуазныя нацыяналістычныя партыі, асабліва БСГ /Беларускую Сацыялістычную Грамаду - Г.Н./

Камісія вывучэньня Заходняе Беларусі. "Пасьля ачысткі Камісіі ад клясава-варожых элементаў, работа ажывілася". Камісія была дапоўнена 5 новымі работнікамі. Фрышман падрыхтаваў і аддаў у друк працу "Промышленность Западной Белоруссии". Выйшла брашура "Абнішчаньне сялянства Заходняе Беларусі". Два разы ў месяц выдаваўся інфармацыйны бюлетэнь пра Заходнюю Беларусь.

Інстытут біялёгіі распрацоўваў актуальныя праблемы "сацыялістычнай сельскай гаспадаркі", як барацьба з пустазельлем, ахова расьлін /бульба/, агратэхнічныя меры барацьбы зь сельска-гаспадарскімі шкоднікамі, праблема звышраньняй сяўбы ільну.

Інстытут хіміі - павялічыў лік сваіх працаўнікоў /у 1933 годзе было 21, а 1.X.1934 г. - 43 асобы/ і асноўнымі аб'ектамі хімічнага дасьледваньня былі: торф, сапрапелі, фасфарыты, бурыя зялязьнякі.

Інстытут торфу - канцэнтраваў увагу на: вывучэньне тарфянога фонду БССР, якаснай і колькаснай характарыстыцы тарфяных месцараджэньняў, ацэне тарфяной сыравіны. У красавіку правёў БАН сэсію, спэцыяльна прысьвечаную праблемам торфу.

Інстытут псыхонэўралёгіі - рабіў дасьледваньні па вывучэньню: зьменаў думаньня пры мазговых захворваньнях, зьвязаных з нарушэньнем мовы, фізыялёгіі мазгоў паводля мэтаду ўмоўных рэфлексаў, працы аб біягенэтычным законе Гекселя.

Няма дакладных вестак, як і над чым працавалі нацыянальныя Інстытуты /польскі й жыдоўскі/ ды сэктары летувіскі й латыскі, але й бяз гэтага не памылімся, калі прыймем, што й яны ня выходзілі паза ўстаноўленыя партыйныя рамкі дзеля гуманітарнага цыклю БАН.

Беглы агляд навуковае дзейнасьці БАН' у 1934 годзе паказвае, што больш-менш спрыяльныя магчымасьці дзеля запраўднай навуковай

працы былі тады ў прыродаведнай галіне.

Гэткі стан быў і ў наступным 1935 годзе, вытворчы плян якога ня быў выкананы поўнасьцю. Гэта не азначае, што папярэднія пляны выконваліся заўсёды, бо ведама, што ўва ўсім бальшавіцкасавецкім "сацыялістычна-пляравым" жыцьці ўсялякія пляны маюць больш прапагандавае, чымся практычнае значэньне, хоць, заміж спакойнай і нармальнай працы, там вялася й вядзецца ўсьцяж "барацьба" за іхнае выконваньне.

З гэтага гледзішча вельмі характэрным якраз і ёсьць выкананьне вытворчага пляну БАН за 1935 год.

Плян прадугледжваў агулам у Акадэміі апрацаваць 258 тэмаў /81 тэма ў галіне грамадзкіх навук і 167 - у галіне прыродаведных/. Усяго ў працягу году скончана 117 тэмаў, заканчвалася із спазьненьнем у I кв. 1936 году 50 тэмаў, мяркавалася закончыць у 1935/36 годзе - 52 тэмы, зусім ня выканана 50 тэмаў[94].

Важнейшымі працамі БАН гэтага году былі:

Інстытут філёзофіі й права: Кірушын: "Клясавая барацьба ў 2-ой пяцігодцы; Карабан: "Літаратурная канцэпцыя контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму" I ч.; Вольфсон: "Супраць расавае тэорыі"; Вольфсон і Ільюшын: "Аб пралетарскім інтэрнацыяналізьме".

Інстытут гісторыі: Ак. В.Шчарбакоў: "Нарысы гісторыі Беларусі" ч.II; Лебовіч: "133 дні Вэнгерскай камуны"; ак. Нікольскі, Грынблят: "Зборнік фольклёру"; ак. Шчарбакоў, Кернажыцкі і Дудкоў: "Гісторыя Беларусі ў дакумантах" т.II; Кернажыцкі: "Гісторыя гаспадаркі прыгоньнікаў на Беларусі"; В.Шчарбакоў: "Сялянскі рух і казацтва на Беларусі"; Даўгяла: "Гісторыя мануфактуры на Беларусі", т.II, з прадмовай ак. Шчарбакова.

Інстытут эканомікі: Ракаў і брыгада: "Статыстычна-эканамічнае апісаньне раёнаў БССР"; Равун і інш.: "Разьмяркаваньне народнага даходу БССР за 1935 г."; Маргелаў і брыгада: "Эканамічная геаграфія БССР".

Інстытут літаратуры й мастацтва: Ламцёў: "Навуковая граматыка беларускае мовы", заканчэньне ўкладаньня "руска-беларускага практычнага слоўніка".

Камісія Заходняе Беларусі: брашура "Палітычныя партыі Польшчы, Зах.Беларусі й Украіны".

Назоваў і характару працаў рэшты Інстытутаў у справаздачы,







паданай у "Запісках Беларускай Акадэміі Навук" кн.5, 1936 г., няма, а толькі колькасныя паказальнікі выкананьня вытворчага пляну ў 1935 г.:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Інстытут геалёгіі й гідрагеалёгіі | - па пляну | 26 | тэмаў, | скончана | 10 |
| " хіміі | " | 22 | " | " | 8 |
| " торфу | " | 14 | " | " | 4 |
| " аграглебазнаўства | " | 22 | " | " | 4 |
| " біялёгіі | " | 34 | " | " | 16 |
| Інстытут нацыянальных меншасьцяў | " | 19 | " | " | 7 |
| Фізыка-матэматычны інстытут | " | 12 | " | " | 6. |

1935 год у жыцьці БАН, такім чынам, меў ужо значна большы адыход ад голай прапаганды папярэдніх гадоў у бок тэарэтычных досьледаў, не пазбаўленых, ведама, тае "марксіцкае заквaскі", безь якое больш ніякая навуковая праца ня толькі ў БССР, а і ў цэлым Савецкім Саюзе сталася немагчымай. Цяпер узьнікае штораз большае патрабаваньне запаўненьня тае тэарэтычнае пустэчы, вынікалае з адмаўленьня навуковае спадчыны "нацдэмаў" і "буржуазных вучоных".

Акадэмік В.Шчарбакоў, выконваючы наказ "зьверху", пачынае прабіраць Інстытут Літаратуры й мастацтва, што той "сур'ёзных тэарэтычных работ зь гісторыі літаратуры, калі ня лічыць 1-га тому "Гісторыі Беларускае Літаратуры", ня даў, а рад работнікаў гэтага інстытуту далёка яшчэ не аслабаніўся ад нацдэмаўскіх уплываў"; Інстытут гісторыі - за тое, што мае "адсталасьць работ па напісаньню стабільнага падручніка гісторыі Беларусі, а Інстытут эканомікі - што там "няма работ у галіне тэарэтычнай распрацоўкі праблемаў", а наагул-жа інстытут "надзвычай малую ролю адыгрывае ў пляніваньні народнае гаспадаркі БССР, не аказвае належнай дапамогі Дзяржпляну ў гэтым дачыненьні", а работы Інстытуту псыханэўралёгіі "не далі сур'ёзных рэзультатаў ні для разьвіцьця навукі наагул, ні для практычнай дзейнасьці. Супрацоўнікі Інстытуту пераладаваны вялікай работай паза Акадэміяй".[95]

БАН, апрача стратаў ў людзёх навукі ў выніку бальшавіцкага тэрору, мела зусім натуральныя страты. Старэйшае пакаленьне паступова адыходзіла, памірала. У 1935 г. адыйшоў выдатны геалёг, працаўнік ад 1925 г. ІБК-БАН акад. Мікола Бліодухо /нар. 25.XII.1877 г., памёр 13.I.1935 г./ і ў 1936 г. памёр ведамы

праўнік, акад. М.Грэдынгер /нар. у 1868 годзе у Саксоніі ў сям'і лекара. Да рэвалюцыі выкладаў у ВНУ Юр'ева й Рыгі, у Менск пераехаў у 1923 годзе/.

Тымчасам, як падаваў В.Шчарбакоў, інстытуты Акадэміі вельмі мала клапаціліся пра павышэньне кваліфікацыі сваіх навуковых работнікаў. Вельмі мала навуковыя работнікі дбалі пра падрыхтову дысэртацыяў. З разгледжаных кваліфікацыйнай камісіяй 79 спраў на прысуджэньне вучоных ступеняў і годнасьцяў працаўнікоў БАН у 1935 годзе, прысуджана: доктарскую ступень - 3 асобам, годнасьць запр. сяброў Інстытуту - 4 асобам, кандыдацкую ступень - 17 асобам, годнасьць старшага навуковага работніка - 7 асобам, годнасьць выконваючага абавязкі старшага навуковага работніка - 7 асобам, годнасьць малодшага навуковага работніка - 17 асобам, адмоўлена ў прысуджэньні навуковай ступені - 13 асобам. Із 17 асобаў, якім прысуджана вучоная ступень кандыдата навук, толькі 8 абаранялі дысэртацыю[96]. Ак.Шчарбакоў сьцьвярджаў, што новая навуковая зьмена прыбывае, бо за час 1931-1935 гады ў асьпіранты пры БАН было прынята 457 асобы, зь якіх закончыла тэарэтычны курс 154 асобы, а зь іх 84 асобы былі пакінуты на працу ў БАН, 59 накіравана ў іншыя навукова-дасьледавальныя ўстановы і ВНУ БССР.

Паводле спэцыяльнасьцяў яны разьмяркаваліся гэтак: філёзафы - 20, гісторыкі - 25, літаратары й моваведы - 26, эканамістыя - 27, фізыкі й матэматыкі - 12, хімікі - 7, глебазнаўцы - 4, геалёгі - 5, біялёгі - 13, мэдыкі - 5, праўнікі - 17.

Аднак, паводле самога-ж ак.Шчарбакова, пацехі ад гэтае новае зьмены было ня шмат, бо з тых 154 асобаў, што кончылі курс асьпірантуры,

> "... толькі 24 асобы абаранілі дысэртацыю, а 130 асобаў яе ня пісалі й не баранілі, а шмат хто значны час працуе ў навуковых установах, ня думаючы пра афармленьне сваёй навуковай кваліфікацыі".97

Усе навуковыя працаўнікі БАН паводле сваёй навуковай кваліфікацыі дзяліліся на наступныя групы:

1. Акадэмікаў, што стала працуюць у БАН - 14, 2. Дактароў навукі - 12, 3. Праўдзейных сяброў інстытуту - 26, 4. Кандыдатаў навукі - 34, 5. Старшых навуковых работнікаў - 74, 6. Малодшых навуковых работнікаў - 110.[98]

У сувязі з тым, што выэліміноўваньні непажаданых рэжыму лю-



дзей з БАН ня спынялася, а на іх месцы ўводзіліся новыя, студзенская сэсія БАН 1935 г. выбрала свой новы Прэзыдыюм, які 30. 1.1935 г. быў зацьверджаны СНК БССР у наступным складзе: Прэзыдэнт БАН - акад. П.Горын /Каляда/, Віцэ-Прэзыдэнт - акад. Я.Колас, Неадменны сакратар - праф. С.Чудзёнак, Сябры Прэзыдыюму - акад. Цэлестын Бурстын, праф. Ільля Ошэровіч, акад. Сымон Вольфсон, акад. Мік. Кулагін, акад. Паўла Панкевіч, акад. Вас.Шчарбакоў, праф. Барыс Шпэнцэр.[99]

Як вынікае з гэтага складу новага Прэзыдыюму БАН, ён статутова ня быў поўнасьцю ўвамплектаваны. Асталіся вакантным месца яшчэ аднаго Віцэ-Прэзыдэнта, што займаў яго дагэтуль ад 29.III. 1932 г. Т.Домбаль, які ўжо трапіў ў няласку, аднак, студзенская сэсія БАН, чамусьці нікога іншага на ягонае месца ня "выбрала". Няма сумлеву, што быў нейкі загад пакінуць тое месца вольным да пары, пакуль партыя ізноў не пашле свайго чалавека, бо цяжка згадзіцца з тым, што з агульнай колькасьці акадэмікаў не знайшлося адпаведнага кандыдата на тое становішча. Урэшце, якія статуты маглі абавязваць тых, што іх зацьвярджалі толькі ня дзеля сябе? Статутова Прэзыдэнт і Віцэ-Прэзыдэнты Беларускае Акадэміі Навук выбіраліся тэрмінам на 3 гады, тымчасам бальшавікі зусім з гэтым ня лічыліся і ў пачатку 1936 году адклікаюць свайго стаўленіка П.Горына назад у Маскву /іншая справа, што дзеля БАН гэтае адкліканьне ня было ніякай стратай/, а яшчэ перад гэтым, 7.X.1935 г. СНК БССР пастанаўляе:

> "... вывесьці С.Чудзёнка із складу Прэзыдыюму БАН і аслабаніць яго ад абавязкаў Неадменнага Сакратара БАН. Часовае выконваньне абавязкаў Неадменнага Сакратара БАН ускласьці на акадэміка В.Шчарбакова". 100

Гэта быў час набліжэньня новае хвалі бальшавіцка-камуністычнага тэрору - гады 1936-1938 г., гады Яжоўскага самавольства, тварэньня зьнівэляванага "савецкага народу" і "савецкае радзімы".

У новым паняцьці - савецкі народ - і такі назоў, як "Беларуская Акадэмія Навук", з камуністычнага гледзішча, гучэў дысанансам. Ён, усё-ж ня гледзячы на ўсе захады, напамінаў аб якойсь апрычонасьці беларускага народу і тэй ягонай, гэтак зьненавіджанай бальшавізмам, самабытнасьці, выклікаў пэўны нацыянальны сэнтымэнт, навет у беларускіх камуністычных рэнэгатаў. Неаб-

ходна было яго сьпешна зьняць, замяніць, а замяніць трэба было нейк так, каб і самая замена адбылася бязь непатрэбнага разгалосу, што выклікаў-бы прыкрыя праявы незадаваленьня, як гэта было з увядзеньнем зрусыфікаваных беларускага правапісу й граматыкі ў 1933 г. Бальшавікі ня доўга ламалі галаву над гэтым - трапілася вельмі зручная нагода: наданьне Беларускай Акадэміі новага статуту. І вось СНК БССР у сваёй пастанове з дня 9-га ліпеня 1936 г. гаворыць:

> "... І. Зацьвердзіць статут Акадэміі Навук БССР.
> 2. Статут Беларускай Акадэміі Навук, зацьверджаны СНК БССР 22-га жніўня 1933 г., лічыць страціўшым сілу". 101.

Такім парадкам назоў "Беларуская Акадэмія" адным росчыркам пяра ліквідаваўся, уводзілася новае паняцьце - Акадэмія Навук БССР, а гэта ўсё-ж не адно й тое самае. Праўда, ніякага тутака "абасноўваньня" ды падводжаньня "ідэялягічнае базы", як гэта амаль заўсёды практыкуецца бальшавікамі, ня было, і яшчэ нейкі час на выданьнях Акадэміі трапляліся ў перамешку назовы - "Беларуская Акадэмія Навук" і "Акадэмія Навук БССР".

Гэтак закончыла сваё падсавецкае ахвярнае існаваньне вышэйшая навукова-дасьледавальная нацыянальная беларуская ўстанова - Інстытут Беларускае Культуры - Беларуская Акадэмія Навук.



# ЧАСТКА III

## АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР

## I. Новы статут Акадэміі

Рэарганізаваная зь Інстытуту Беларускае Культуры Беларуская Акадэмія Навук, пасьля арышту ейных кіраўнікоў і "ачысткі ад нацдэмаў", мела ператварыцца ў сваеасаблівы ЦК навукова-дасьледавальных установаў БССР. Статут 1933 году зазначаў гэта выразна ў I-ым параграфе, гаворучы, што ў БАН "канцэнтруецца агульнае кіраваньне ўсёй навукова-дасьледавальнай працай у БССР", а ў пункце д 2-га параграфу ўскладаў на БАН абавязак "сыстэматычнага кантролю над усімі навукова-дасьледчымі ўстановамі на тэрыторыі БССР у галіне выкананьня імі ўстаноўленых плянаў і мэтадаў працы". Да гэтага забавязвалі БАН і ўспамінаныя ўжо пастанова СНК БССР з 13.У.1931 г. ды "практычныя мерапрыемствы" ЦК КП/б/Б з 1932 г.

Зразумела тады, што й новапрызначаны Масквою тагачасны Прэзыдэнт БАН – П.Горын, прыехаўшы ў Менск, стаў трымацца, як нейкі ўдзельны князь ці "генэральны сакратар ад навукі" ў БССР, накшталт генэральнага сакратара партыі – Сталіна[102].

Аднак, нечакана, у пачатку 1936 году ён быў адкліканы ў Маскву. Шмат прычынаў магло мець уплыў на тое адкліканьне, а важнейшымі зь іх, праўдападобна, самарэклямаваньне Горына, як вучня й пасьлядоўніка марксіцкага гісторыка М.Пакроўскага, што трапіў быў у той час, пасьля сваёй сьмерці, пад агонь бальшавіцкае крытыкі, а хіба што галоўнае – зьмена курсу партыі ў дачыненьні да БАН.

Узвышэньне Беларускае Акадэміі, хоць і збальшавізаванае, пры актыўным удзеле таго-ж Горына, панад усімі навуковымі ўстановамі ў БССР ды ейная слабая залежнасьць ад маскоўскага цэнтру "пралетарскай савецкай сацыялістычнай навукі" – Акадэміі Навук СССР былі не на месцы. Гэта шкодзіла правядзеньню тае нівэляцыі

грамадзянаў усіх г.зв. нацыянальных рэспублік пад агульным назоўнікам "савецкі народ", зь яўным прыматам, ведама, адзінага, цэмэнтуючага складніка таго новага масіва - расейскага народу.

Дасюлешні назоў Акадэміі пярэчыў пастаўленым мэтам, яго трэба было замяніць, а яшчэ перад зьменай назову - зьмяніць і кіраўніка Акадэміі, што й было зроблена. Горын выехаў, на ягонае месца 20-га лютага 1936 году быў прызначаны новы фігурант Масквы, нейкі Іван Захаравіч Сурта, што коратка да гэтага, пасьля пераезду ў Менск, быў за Народнага Камісара Аховы Здароўя БССР[103].

Выказаныя гэтта прыпушчэньні, падмацоўваюцца наступнымі акалічнасьцямі:

1/ Новы статут, бязь ніякай цяганіны, накшталт тварэньня камісіяў, колькіразовых абмяркоўваньняў у іх ды на Акадэмічнай Радзе БАН, борзда знайшоўся пасьля замены Горына на стале Старшыні СНК БССР, за подпісамі І.Сурты й Неадменнага Сакратара В. Шчарбакова.

2/ Статут ужо нічога не ўспамінаў пра тое, што Акадэмія Навук БССР ёсьць "адзіным навуковым кіруючым рэспубліканскім цэнтрам", а толькі што яна "яднае найбольш выдатных вучоных краю" і згодна з 2-ім параграфам: "асноўнай задачай Акадэміі Навук БССР ёсьць усямернае садзейнічаньне агульнаму ўздыму тэарэтычных, а таксама прыкладных навук у СССР, вывучэньне й разьвіцьцё дасягненьняў саюзнай і сусьветнай навуковай мысьлі і актыўны ўдзел у будаўніцтве беларускай сацыялістычнай культуры".

"У васнове сваёй работы Акадэмія Навук кладзе плянамернае скарыстаньне навуковых дасягненьняў дзеля садзейнічаньня будаўніцтву новага сацыялістычнага бяскласавага грамадзтва".

Гэтакім спосабам адкідаліся ўсялякія нацыянальныя спэцыфікі. Заданьні агульныя дзеля ўсіх у будаваньні "сацыялістычнае" культуры ды "бяскласавае" грамады. Нічога, што тая новабудаваная культура будзе яшчэ мець прыкладку "беларуская"; зьмест ейны й характар адзіны дзеля ўсяго СССР - "сацыялістычны".

Больш таго, замест ранейшага "кіраваньня", параграф 6 статуту вымагаў выразна "каардынацыі работы з работай важнейшых навукова-дасьледчых установаў Саюзу ССР і БССР". У перакладзе на нармальную, практычную мову, гэная "каардынацыя" была завуа-



ляваньнем фактычнага падпарадкаваньня асноўнай дзейнасьці Акадэміі Навук БССР навуковым цэнтрам бальшавізму ў Маскве.

У больш-менш адказьнейшых галінах навуковага дасьледваньня Акадэмія Навук БССР новым статутам пазбаўлялася навуковае аўтаноміі. Прыкладам:

> "Арганізацыяй вывучэньня прыродных багацьцяў і вытворчых сілаў краю ведае Савет па вывучэньню вытворчых сілаў пры Акадэміі Навук ... плян свае дзейнасьці Савет узгадняе з мясцовымі кіруючымі арганізацыямі й прадстаўляе яго на зацьвярджэньне Прэзыдыюму Акадэміі Навук. Аб сваёй рабоце Савет пэрыядычна дакладвае мясцовым кіруючым арганізацыям і робіць справаздачы перад Акадэміяй Навук" /параграф 46 статуту; падкрэсьленьні нашыя - Г.Н./.

Ня трэба шмат тлумачыць, што азначае "ўзгадняньне плянаў з кіруючымі арганізацыямі" і што гэта за арганізацыі, дарма што пазьней тыя пляны падаюцца на "зацьверджэньне" Прэзыдыюму Акадэміі. Зразумела, што Прэзыдыюм ня мог не зацьвердзіць пасьля "ўзгадненьня", тым больш, што Савет перш "дакладвае кіруючым арганізацыям" пра сваю работу, а ўжо пазьней, pro forma, робіць справаздачу перад Акадэміяй.

Новы статут Акадэміі Навук з адначаснай зьменай ейнага назову быў перадапошнім этапам на шляху канчальнае яе бальшавізацыі.

## 2. Акадэмія Навук БССР пад бальшавіцкім прыгонам

Апошнім этапам бальшавізацыі Акадэміі Навук былі гады 1936-1938, - пара ведамага ў гісторыі СССР яжоўскага тэрору.

Да ранейшых ахвяраў "нацдэмаўшчыны" тады стала масава далучацца новая катэгорыя - "ворагі народу". Сюды траплялі тыя, што выклікалі падазрэньне ў здольнасьці да якога-такога самастойнага думаньня, хоць крышку разьбежнага з агульнапрынятай "генэральнай" лініяй партыі, звычайныя ахвяры абсурдальных практык тае-ж самае "генэральнае лініі" /партыя і ейны ЦК непамыльныя!/. Зьнішчаліся ўсе, хто так ці інакш стаяў на дарозе да самаўзьвялічэньня й замацаваньня дэспатызму "бацькі народаў". Ніякай гарантыі захаваньня на паверхні не даваў і партыйны білет.

Пачалася найбольш жудасная хваля арыштаў не адно сярод беларускае нацыянальнае інтэлігенцыі, а й сярод беларускіх нацыянал-бальшавікоў. Былі арыштаваны З.Жылуновіч, беларускі паэта-

камуністы Міхась Чарот /Кудзелька/, акад. Шчарбакоў, што гэтак завіхаўся з Горынам ды іншымі ў вапаганьваньні нацдэмаў і шмат іншых. З урадавых партыйных і савецкіх установаў масава выкідаўся мясцовы беларускі элемэнт ды замяняўся чужым, насыланым з цэнтру. Паддаліся атацы навет такія тузы, як Гікала, сакратар ЦК КП/б/Б, Галадзед, старшыня СНК БССР /быў арыштаваны і скончыў самагубствам у турме/, Чарвякоў, старшыня ЦВК БССР /скончыў самагубствам/, Дзякаў, Народны Камісар Асьветы й шмат іншых.

Адным словам, у тыя часы ўжо не захавалася нікога з былых заснавальнікаў Інстытуту Беларускае Культуры - Беларускае Акадэміі Навук.

Адсутнасьць адпаведных матар'ялаў не дазваляе ўдакладніць усіх пературбацыяў, што перажывала тады Акадэмія Навук БССР. Пра тое, што яжоўскі паход не абмінуў Акадэміі, сьветчаць арышт акад. Шчарбакова, зьнікненьне з паверхні акад. С.Вольфсона[104] ды выступленьне на сьнежанскай сэсіі Акадэміі Навук БССР у 1938 г. навуковага супрацоўніка Інстытуту экономікі І.Чарняўскага, дзе той, паміж іншага, сказаў:

> "... ворагі народу, што арудавалі ў Акадэміі Навук, не давалі магчымасьці працаваць людзям, якія жадалі займацца вывучэньнем практыкі стаханаўцаў, яны адпіхалі гэтых людзей, усяляк гамавалі іхную работу, а самі займаліся шкодніцтвам у гэтай галіне..." 104

Адначасна з яжоўскім кровапусканьнем пачалося шпаркае мантаваньне "савецкага народу" на ўсім абшары СССР. "Беларусізацыя" у БССР была адкінута наагул, а беларуская мова адціснута на задні плян. Русыфікацыйная акцыя ўзмоцнілася. Пабеларуску друкавалася пераважна прапагандавая камуністычная літаратура, а штораз больш выходзіла кніжак, газэтаў і часапісаў у расейскай мове. Працы Акадэміі Навук друкаваліся таксама парасейску ў зборніках "Труды Академии Наук БССР" і былі прысьвечаны выключна праблемам зьвязаным з "сацыялістычным будаўніцтвам".

Уся Акадэмія была ўпрэжаная ў навуковае абгрунтоўваньне патрэбы, карыснасьці й пераваґі новага прыгону, на адшуканьне шляхоў выхаду зь бязупыннага сьлскагаспадарскага крызысу, выклікамага гэным прыгонам.

Сьнежанская сэсія Акадэміі Навук БССР 1938 году была цалкам прысьвечаная "пытаньням атрыманьня высокіх ураджаяў сельска-гаспадарчых культураў у 3-яй пяцігодцы".



У дапамогу партыйным прыганятым па выцісканьню апошніх сокаў з абяздоленага насельніцтва праз г.зв. стаханаўства вымагаецца ад Акадэміі "навуковага" падмацаваньня.

Успамінаны ўжо Чарняўскі на сэсіі наракаў, што:

> "... Акадэмія Навук асабліва мала зьвяртала й зьвяртае ўвагі стаханаўскаму руху. У тэматычных плянах АН за 1936-37 і навет 1938 вы ня знойдзеце тэмы, якая-б спэцыяльна была прысьвечана вывучэньню стаханаўскага руху..." 105.

Чарняўскі пайшоў далей, ён прапанаваў "арганізаваць даклады стаханаўцаў у Акадэміі Навук", што вельмі нагадвала ня гэтак даўнае "клікаедне ўдарнікаў у навуку". І тое й другое, як ведама, ніякага новага ўкладу, навет у "сацыялістычную" навуку не дало, і сельскай гаспадаркі зь камуністычнай бяды ня выцягнула, бо й цяпер, пасьля 18 гадоў ад таго часу, Акадэміі Навук БССР разам із сваімі гаспадарамі даводзіцца таўчыся вакол тых-жа пытаньняў.

Тым ня менш, страх за сваё існаваньне змушаў запрыгоненых вучоных і таго-ж Чарняўскага надрабляць павагай і займацца тым, што наказана зьверху.

Сам Чарняўскі завіхаецца найбольш. Спад ягонага пяра выходзяць аж дзьве адна за другой "навуковыя" працы на тэму стаханаўшчыны: 1. "Вопыт стаханаўцаў калгасных палёў", 1938 г. 2. "За сталинский урожай в колхозах БССР; из опыта борьбы колхозов и стахановцев за высокие урожаи", 1939 г.

Іншыя-ж, больш салідныя, пакідаючы стаханаўскую дзялянку "навукі" Чарняўскаму, самі, хоць і выконваюць "заказ" тых-жа вярхоў, аднак стараюцца, каб іхныя працы ўсё-ж мелі сякі-такі навуковы характар. Прыкладам, акад. В.Купрэвіч і Л.Ярошка пішуць "Распространение вирусных болезней картофеля в БССР и меры борьбы с ними"; А.Е. і Э.П.Сюбаравы - "Хозяйственно-биологическая оценка сортов И.В.Мичурина в условиях БССР" /данные за период 1926 - 1937 г.г./[106] Гэтакі характар дзейнасьці Акадэміі Навук БССР быў у галіне прыродаведных навук.

Пры тагачасным настаўленьні - набліжаць усё да "вялікага братняга" расейскага, небясьпека трапіць у "ворагі народу", калі яшчэ не для кажнага канчальна была выкрышталізавалася сутнасьць вымаганьняў рэжыму да гістарычнага й філязофскага фронту навукі, Акадэмія Навук БССР ніякіх арыгінальных, паважных

ды больш-менш аб'ектыўна-навуковых дасьледваньняў зь гісторыі Беларусі, этнаграфіі, літаратуры й моваведы не дала й даць не магла. Былі адно намаганьні паказаць, што і ў гэтай дзялянцы Акадэмія Навук "перабудоўваецца" ды не адстае ад агульнага курсу.

Гэныя намаганьні вельмі яскрава, як ніколі дагэтуль, паказвалі, да якой ступені нявольніцкае пакорнасьці ў спалучэньні із выхваляньнем сваіх прыгнятальнікаў можа давесьці свае ахвяры, навет у васяродзьдзі інтэлектуалістых, акупант, калі ім ёсьць накінуты звонку чужы бальшавізм. Прыкладам, Інстытут гісторыі АН, сэкцыя этнаграфіі й фальклёру, пад рэд. акадэміка Я.Коласа і ак. Н.Нікольскага, у 1938 годзе выдае зборнік п.н. "Дореволюцыйная і Совецкая Беларусь у народнай творчасці". У пачатку зборніка зазначаецца, што: "... зборнік фальклорных твораў прызначаецца для партыйных агітатараў і прапагандыстаў, для палітработнікаў і культработнікаў у прамысловасьці і калгаснай вёсцы..."

Ужо гэтая адна зацемка казала ўсё пра "акадэмічную" вартасьць выданьня, але найлепш яе раскрывала прадмова да зборніка, напісаная навуковым супрацоўнікам М.Грынблятам. Там гаворыцца, што:

> "... Вобраз Сталіна - цэнтральны вобраз сучаснага фальклора, імя яго - крыніца самага глыбокага паэтычнага натхненьня. Народ славіць Сталіна, як тварца чалавечага шчасьця, шчасьця вольнай і радаснай працы, шчасьця заможнага і культурнага жыцьця".106а/

Укладальнікі зборніка, той-жа М.Грынблят, Э.Галубок[106б], Н. Махнач і А.Калечыц, дзеля падмацаваньня гэтае тэзы "сумленна" спрэпаравалі моц прыкладаў, як "Сталіну дзякуй усюды чуваць", "Сталін даў нам мілае жыцьцё", "Жыцьцё ў красках і букетах толькі Сталін змог нам даць", "Песьня пра Сталіна", "Маё сэрцайка жадае Сталіна пабачыць" і пад., быццам-бы "запісаных у розных раёнах БССР".

Мала гэтага, паводля М.Грынблята:

> "... з асаблівай любоўю, з словамі падзякі народ зьвяртаецца да Сталінскага наркома - кіраўніка савецкай разьведкі, тав. Н.І.Ежова, які раскрыў козні каварных ворагаў і сьцёр іх з твару савецкай зямлі:
> Сарву кветачку прыгожу
> Ля крутога рову
> За харошую работу
> Дзякуем Ежову". /у - Г.Н./[106в]

Інстытут літаратуры Акадэміі Навук БССР у 1937 годзе ня здолеў нічога выдаць з нацыянальнай беларускай скарбніцы, затое выдаў працу І.Замоціна "А.С.Пушкин - Очерки жизни и творчества", а сэкцыя этнаграфіі й фальклёру і ў пасьлейшыя гады спэцыялізавалася ў "нацыянальнай форме сацыялістычнага зьместу", бо ў 1939 годзе выдала ізноў зборнік фальклёрных твораў, але гэтым разам пад рэд. Н.Нікольскага й пад назовам "Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі". Праўда, яшчэ да пачатку яжоўскага тэрору быў падрыхтаваны й тэндэнцыйна апрацаваны зборнік жаролаў п.н. "Гісторыя Беларусі ў дакумантах і матарыялах", т. I, што выйшаў у 1936 г.



Даволі цяжка цяпер, ня маючы дакладных матар'ялаў з таго часу датычных зьменаў кіраўніцтва, арганізацыйных формаў, нутраных узаемадачыненьняў ды вытворча-выдавецкіх пляноў, гаварыць больш падрабязна пра тагачасную дзейнасьць Акадэміі Навук БССР. Ад дня яе ўтварэньня ранейшыя непасрэдныя сувязі БАН з навуковым сьветам Захаду абрываюцца, нарушаецца сыстэматычнасьць вымены выданьнямі з навуковымі ўстановамі замежжа.

Ведама бясспрэчна адно, што гады яжоўшчыны /1936-1938/ былі гадамі застою навуковай дзейнасьці, асабліва ў галіне гуманітарнай, ведама таксама, што новапрызначаны Прэзыдэнт Акадэміі Ів.Сурта ўтрымаўся ня надта доўга, бо ў пачатку вайны гэтае становішча займаў Расеец - К.Горев.

Ведама таксама, што ў гэтым прыблізна часе /1936-1938/ нацыянальныя сэктары АН /Польскі, Жыдоўскі й Летувіскі Інстытуты "Пралетарскай Культуры", Латыскі сэктар/ былі зьліквідаваныя.

Зацьверджаны 9-га ліпеня 1936 г. статут Акадэміі ўжо нічога пра іх не ўспамінаў. Пра тое-ж, што яны не маглі больш існаваць, сьветчаць наступныя факты: якраз у гэтым часе адбылася ліквідацыя польскай сэкцыі Камінтэрну, з арыштам усіх ейных правадыроў і супрацоўнікаў, на ўсёй тэрыторыі СССР зачыняліся "нацменаўскія" /польскія, эстонскія, фінскія/ клюбы, школы, педагагічныя тэхнікумы, штучна створаны г.зв. Дзяржынскі /Койданаўскі/ польскі нацыянальны раён 31.VI.1937 г. быў зьліквідаваны[107], зьліквідаваны былі і ўсе г.зв. нац. саветы й судовыя камэры ў БССР.

Імёны былых працаўнікоў нац. сэктараў, як праф. Матулайціс, праф. Ч.Дамброўскі, І.Ошэровіч, Ян Клыс, Пятрова, Кукел-

ко і інш. /С.Гэльтман, І.Сосіс, Віткоўскі зьніклі раней/, пасьля перайменаваньня БАН у Акадэмію Навук БССР, ужо больш ніколі й нідзе ня сустракаюцца.

Паслабленьне русыфікацыйнай шрубы.

У выніку тайнае ўмовы бальшавікоў зь Гітлерам, апошні борзда разграміў Польшчу, а бальшавікі "ўзялі пад апеку адзінакроўных Беларусаў і Украінцаў былой Польскай рэспублікі", з тым, што гэныя адзінакроўныя "дабраахвотна прасіліся" далучыць Заходнія землі Беларусі й Украіны да БССР і УССР. Бальшавікі ласкава "просьбу" задаволілі і, каб не адстрашаць адразу насельніцтва, вымушаны былі аслабіць вонкава русыфікацыйны наступ.

Беларускія вучоныя маглі цяпер, хоць і на "аснове марксыцка-ленінскай мэтадалёгіі" ды "пановаму", а ўсё-ж асьвятляць гістарычнае разьвіцьцё "нашай нацыянальнай літаратуры"[108]. Мяркавалася, што да І.VІІІ.І94І г. вышэйшыя школы атрымаюць падручнік зь гісторыі беларускае літаратуры. Больш інтэнсыўна стала працягвацца праца над складаньнем расейска-беларускага слоўніка й была закончана ў І940 г., у І940 г. выйшаў з друку т.2 "Дакумантаў і матарыялаў па гісторыі Беларусі", пад рэдакцыяй Н.Нікольскага ды ўступным артыкулам Грынблята выйшаў у І940 г. Зборнік "Жанчына ў беларускай народнай творчасьці" /склалі З.Галубок, А.Калечыц, Н.Багдановіч/. У гэтым часе выйшаў таксама "Зборнік народных песьняў", апрацоўка якога пачалася яшчэ ў часы Інбелкульту. Ягоную вартасьць хоць там і пададзены народныя сьпевы з усяе Беларусі, навет Смаленшчыны, абніжае ўціснуты туды штучна створаны г.зв. савецкі фольклёр. Не абмінута было й "навуковае" абгрунтаваньне тых "дабрадзействаў", што атрымалі працоўныя масы Зах.Беларусі ў выніку іхнага "вызваленьня". /Выданьне І940 г. п. н. "Заходняя Беларусь пад панскім гнётам і яе вызваленьне" пад рэд. акад. Н.Нікольскага і І.Лочмеля/.

У цэнтры працы ўсіх інстытутаў Акадэміі згодна тэматычнага пляну на І94І г. былі пастаўлены гэтакія асноўныя пытаньні: "Гісторыя рэвалюцыйнага руху ў Беларусі", "Гісторыя беларускае літаратуры XIX і XX в.", "Вывучэньне прыродных багацьцяў БССР", "Разьмяшчэньне вытворчых сілаў БССР", "Асушэньне і асваеньне Палескай нізіны", "Газафікацыя, каксаваньне і хімічная перааправоўка торфу й тарфяной смалы", "Уздым ураджайнасьці й палепшаньне кок-сагызу", "Мэханізацыя й тэхналёгія працэсаў торфаздабываньня", "Стварэньне ўстойлівай кармавой базы БССР" і г.д.[109]



Акадэмія Навук БССР у часе вайны.

Напярэдадні вайны Акадэмія Навук БССР мела 28 праўдзейных сяброў, 2І асобу сяброў-карэспандэнтаў, І2 прафэсараў і больш за 300 старэйшых і малодшых навуковых супрацоўнікаў[110]. "Вераломны напад фашыстоўскай Нямеччыны на СССР у І94І г., - як гавора "Большая Советская Энциклопедия", т.І., выд. І949 г. на бач. 566, - прычыніў вялізарную шкоду Акадэміі Навук БССР і ейная дзейнасьць часова спынілася". Частка акадэмікаў і навуковых супрацоўнікаў, што не падлягалі мабілізацыі на фронт, апынулася была ў Казані. Там, пасьля 8-мі месяцаў вайны, калі ўжо было ведама, што Масква ўтрымаецца, з прапагандных меркаваньняў была склікана на І2-ае сакавіка І942 г. сэсія Акадэміі Навук БССР з наступнай праграмай:

І. Уступнае слова Прэзыдэнта АН БССР - К.Горева,

2. Аб працы АН за пэрыяд ад І.І.І94І да І.І.І942 г. - справаздача акад. Я.Коласа,

3. Аб пляне навукова-дасьледчай працы АН БССР у І942 г., - К. Горев,

4. Айчынная вайна й беларуская інтэлігенцыя - Я.Купала,

5. Фашызм і сярэднявечча - В.Перцаў,

6. Применение удобрения в СССР в условиях военного времени и в ближайшие годы после войны - Кедраў - Зіхман,

7. Содержание редких элементов - ванналия и лития - в горных породах Куйбышевской области - сябра-кар. АН БССР - Б.Ерофеев,

8. О нахождении редких элементов в горных породах Куйбышевской обл. - сябра-кар. АН БССР - А.Розин,

9. Ускоренные методы геодезического обоснования топографических и картографических работ, сообщение чл. карэсп. АН - В.Попова,

І0. Выступленьні чыста прапагандовага зьместу - сяброў карэсп. АН - М.Мелкіх, Б.Клімава,

ІІ. Прамовы Сакратара ЦК КП/б/Б - Т.Гарбунова і Намесьніка старшыні СНК БССР - І.Круцені,

І2. Адчытаньне прывітаньняў ад Прэзыдыюму АН СССР, беларускіх

"байцоў" з фронту і прыняцьце тэксту прывітаньня старшыні Рады Абароны - Сталіну.

Із справаздачы акад. Я.Коласа вынікала, што праца Акадэміі Навук БССР, якую ён колькі разоў, паводля старога прызвычаеньня, назваў "Беларускай Акадэміяй Навук", у 1941 г. дзялілася на 2 этапы: да пачатку вайны - пэрыяд нармальнай працы, і пасьля пачатку вайны - пэрыяд эвакуацыі.

За першы пэрыяд Акадэмія Навук БССР займалася наступным: Інстытут торфу правёў вялікую працу па вывучэньню тарфяных багацьцяў БССР; Інстытут хіміі распрацаваў тэхналёгію здабываньня карысных прадуктаў з дрэўнай смалы, неабходных дзеля абароннай прамысловасьці; акадэмік А.Жабрак працаваў над экспэрымэнтальным атрыманьнем новых тыпаў пшаніцы; акад. Аляксееў напісаў працу "Пэрспэктывы культуры цукровых буракоў у варунках і на глебах БССР", пад кіраўніцтвам акад. Кедрава-Зіхмана калектыў аграхімікаў Інстытуту сацыялістычнай сельскай гаспадаркі распрацаваў шэраг асноўных пытаньняў, зьвязаных зь хімізацыяй "сацыялістычнай сельскай гаспадаркі БССР". У Інстытуце гісторыі культуры "калектыў маладых навуковых супрацоўнікаў пад кіраўніцтвам акад. У.Пічэты закончыў капітальную працу І т. "Гісторыі Беларусі"[111].

Паводля пляну на 1942 год, зрэфэраванага Прэзыдэнтам Горавым, Акадэмія Навук БССР павінна была падпарадкаваць усю сваю дзейнасьць, згодна з вымаганьнем старшыні Рады Абароны Сталіна, патрэбам вайны. У выкананьне гэных вымогаў праектавалася ў 1942 г. працаваць над наступнымі праблемамі:

1. Пад кіраўніцтвам сябры карэспандэнта АН - Б.Ерафеева - "Атрыманьня матарыялаў неабходных для вайны, з ацэтылену".

2. Пад кіраўніцтвам сябры-карэсп. АН Б.Клімава - "Атрыманьне бэнзыны й катлавога паліва мэтадам тэрмічнага распушчэньня торфу".

3. Пад кіраўніцтвам акад. С.Ліпатова - "Досьледы над вывучэньнем структуры каўчука з кок-сагызу і павышэньню тэхналёгічных якасьцяў каўчуку".

4. Акад. Т.Горнеў меў вывучаць уплывы мікраэлемэнтаў на рост, разьвіцьцё й выхад каўчуку.

5. Пад кіраўніцтвам акад. В.Немчынава й В.Лубяко - "Аднаўленьне й шляхі далейшага разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР пасьля



ейнага вызваленьня ад нямецка-фашыстаўскіх акупантаў".

6. Пад кіраўніцтвам акад. А.Розіна - "Выкарыстаньне прыродных выкапняў Беларусі пры аднаўленьні зруйнаванае фашыстоўскімі войскамі народнай гаспадаркі БССР".

7. Акад. Кедраў-Зіхман меў распрацоўваць "Мерапрыемствы застасаваньня ўгнаеньняў у БССР і выкарыстаньне ўсіх наяўных мясцовых відаў угнаеньня".

> "... Нашы вучоныя павінны напісаць, - казаў Гораў, - цэлы шэраг працаў, якія паказваюць адвечную барацьбу беларускага народу разам з расейскім народам супраць немцаў, што неаднаразова прабавалі іх паняволіць, паказаць братнюю дружбу беларускага народу з расейскім і іншымі народамі СССР".112/

З гэтай мэтай былі вызначаны тэмы:

1. Роля беларускага народу ў айчыннай вайне супраць нямецка-фашыстоўскіх акупантаў - кіраўнік акад. Л.Панкратава.

2. Барацьба беларускага народу зь нямецкімі акупантамі - кіраўнік таксама акад. Л.Панкратава.

3. Абарона бацькаўшчыны ў беларускай народнай творчасьці - ст. нав. працаўнік М.Грынблят.

Вызначалася й тэма п.н. "Беларуская літаратура ў барацьбе з фашыстаўска-нямецкімі акупантамі".

Акад. Панкратава канчала працу "Барацьба беларускага народу зь нямецкімі акупантамі ў 1918 г.", а праф. У.Пічэта пісаў кнігу "Аб барацьбе беларускага народу зь нямецкімі захопнікамі пачынаючы ад XII ст. да нашых дзён" і адначасна працаваў над 2-ім томам гісторыі БССР ад 1861 г. да Кастрычніцкае рэвалюцыі.

"У сувязі з адбываючыміся цяпер падзеямі, яе /працу У.Пічэты - Г.Н./ неабходна будзе некалькі перарабіць", зацеміў Прэзыдэнт АН БССР - Гораў[113]. Праўдападобна ўласкаўлены праф. У.Пічэта ня здолеў у патрэбным кірунку "ў сувязі з тагачаснымі падзеямі", як гэта было патрэбна бальшавіком, сфальшаваць гістарычныя факты, бо ягоная праца не пабачыла сьвету, а пасьля вайны яшчэ доўгі час рабіліся намаганьні новае адпаведнае прэпарацыі гісторыі БССР.

Нямаведама як, і ці наагул, усе тыя пляны на 1942 год для Акадэміі Навук БССР былі выкананы, бо тая сакавіковая сэсія Акадэміі была першай і апошняй за час уцёкаў зь Беларусі перад гітлераўскай арміяй.

Склікана яна была, як відаць із самога зьместу ейнай "працы", адно дзеля паказу, што, навет тады, калі "радзіма ў небясьпецы", бальшавіцкія ўлады не забываюцца пра патрэбы "братніх нацыянальных рэспублік". З гэтае нагоды было нароблена шмат шуму праз радыё і ў прэсе, каб заахвоціць насельніцтва Беларусі да супраціву нямецкаму акупанту й дапамогі ранейшаму акупанту - бальшавіком.

Народны паэта акад. Я.Купала, зламаны духова й вымушаны на тэй сэсіі ганьбіць адных акупантаў, выхваляючы другіх, пры сьведамасьці, што ягоная бацькаўшчына крывавіцца дарэмна ды нямінуча трапіць ізноў у тую-ж самую няволю, ня вытрываў і неўзабаве пасьля гэтага, пры нявыясьненых дакладна акалічнасьцях, трагічна закончыў сваё жыцьцё. На гэтай сэсіі, яшчэ раз перад сьмерцю, яму давялося славаславіць ката беларускага народу Сталіна, прыймаючы прывітаньні ад Акадэміі Навук БССР, што канчалася наступным, неперасяжным у гісторыі навуковых установаў узорам халуйства:

> "Хай жыве вялікі палкаводца і найвялікшы вучоны нашай эпохі - наш любімы Сталін!"

### 3. Пасьляваенная дзейнасьць Акадэміі Навук БССР

Як падае I т. "Большой Советской Энциклопедии" з I949 г., Акадэмія Навук БССР узнавіла сваю дзейнасьць у другой палове I944 году ў зруйнаваным ваеннымі падзеямі Менску.

Зусім аб'ектыўна трэба згадзіцца, што ўзнаўленьне тае дзейнасьці адбывалася ў надзвычай цяжкіх умовах. Жыльлёвы фонд, лябараторыі, габінэты, друкарня, багатая бібліятэка, музэі, рукапісы - дасл оўна ўсё было зьнішчана вайною.

Пачалася цяжкая, галодная й халодная, а ў дадатку й прыгонная праца адбудовы руінаў усяго чыста. Зразумела, што ў такіх абставінах нельга было чакаць ад Акадэміі нейкіх надзвычайных навуковых адкрыцьцяў ці працаў, памінаючы ўжо тое, што ўстанова гэтая ня была вольнай карпарацыяй вучоных, а пакорным выканаўцам волі й загадаў акупанта. Бальшавізм-жа мала лічыўся, як у ягонай мове гаворыцца, з "аб'ектыўнымі прычынамі" - патрабаваў тэмпаў, тэарэтычнай распрацоўкі ягоных шалёных і супярэчных плянаў. Патрабаваньні, аднак, тыя заўсёды крыжаваліся й крыжуюцца нічым



іншым як няўхільнымі суровымі законамі жыцьця.

Можна сказаць, што Акадэмія здолела сяк-так акрыяць толькі дзесь каля I950 году.

І ўжо ўспамінаны вышэй I т. "Большой Советской Энциклопедии" мог хваліцца, што за час ад заканчэньня вайны працаўнікамі Акадэміі была складзена "зводная глебавая карта і апісаньне глебаў БССР, распрацаваны мерапрыемствы атрыманьня высокіх ураджаяў шматгадовых траваў, лубіну, кок-сагызу, грэчкі, ільну. Вывучаны натуральна-гістарычныя асаблівасьці ўтварэньня балотаў Палесься ды прычыны перакатаў у рэчках БССР. Выданы ў I949 г. I том ды падрыхтаваны да друку 2-гі й 3-ці томы капітальнае працы "Флёра БССР". Выданы арфаграфічны слоўнік беларускае мовы. Падрыхтавана й пададзена на публічнае абмеркаваньне "Гісторыя БССР" у 3-х частках"[II4].

У I949 г. Акадэмія Навук БССР складалася з 3-х аддзяленьняў: грамадзкіх навук з 4-ма інстытутамі /філязофіі й права; гісторыі; эканомікі; літаратуры, мовы й мастацтва/; біялёгічных, сельскагаспадарскіх і мэдычных навук зь інстытутамі /сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, з двумя дасьледавальнымі сельска-гаспадарскімі станцыямі й полем; біялёгіі з батанічным садам; мэльярацыі, воднай і балотнай гаспадаркі з 3-ма дасьледавальнымі балотнымі станцыямі і тэарэтычнай мэдыцыны/; аддзяленьне тэхнічных навук - 5 інстытутаў: хіміі, торфу, мэханізацыі сельскай гаспадаркі, геалёгічных навук, фізыка-тэхнічны й 2 сэктары - энэргетыкі й архітэктурна-будаўнічы. Акадэмія мела 27 правадзейных сяброў і 26 сяброў-карэспандэнтаў. За Прэзыдэнта Акадэміі быў сябра-карэспандэнт Акадэміі Навук СССР, правадзейны сябра АН БССР і Акадэміі Мэдычных Навук СССР - Н.Грашенков. Было адноўлена выдаваньне воргану Акадэміі "Весьці Акадэміі Навук БББР", што пачаў быў выходзіць у I940 г.

З гэтага вынікала, што да I950 году Акадэмія Навук БССР выйшла з пасьляваеннае стадыі адбудовы, аднавіла дзейнасьць сваіх установаў, а навет стварыла ў I947 годзе новую ўстанову - фізыка-тэхнічны інстытут і ўжо магла прыступаць да шырокай, паважнай навукова-дасьледавальнай працы ўва ўсіх галінах. Нармальна бяручы, яно так павінна было й быць, толькі ці-ж бальшавіцкае бязупыннае й штораз іншае падсьцёбваньне можа

стварыць нармальныя ўмовы якой-колечы дзейнасьці? Там - заместа спакойнае творчае працы, усьцяж "барацьба", калі ня зь "кім", ці "чым", то "за".

Ці мала гэтых "з чым" і "за" перажыла Акадэмія Навук БССР ад дня свайго нараджэньня, ад 1936 г., ня кажучы ўжо пра ейную папярэдніцу БАН!

Праўда, ня ўсе яны былі даўгавечныя, некаторыя-ж ускладняліся ды абрасталі новымі, іншыя ізноў выскаквалі, як надта пякучыя і яшчэ больш навейшыя. Адно адзінае толькі "за" перасьледвала ды перасьледуе ня толькі Акадэмію Навук БССР, а й не дае супакою бальшавіцкаму рэжыму - гэта сталая мітусьня, а пабальшавіцку - ізноў-такі "барацьба" за ўздым прадуктыўнасьці" сацыялістычнае сельскае гаспадаркі", што, ня гледзючы на ўсе ўрадавыя выпінаньні ды навукова-акадэмічныя выкладкі ўсялякіх інстытутаў, ад таго часу як яна стала "сацыялістычнай" /больш 25 гадоў таму/, вельмі-ж неахвотна й марудна пачала "ўздымацца", за тое часта падаць.

У такіх выпадках прычынаў і вінаватых шукаецца ўсюды, толькі не ў самай сыстэме.

Яшчэ нядаўна, бо ў 1954 годзе Прэзыдыюм і партыйны камітэт Акадэміі Навук БССР, падводзячы вынікі "абмяркаваньня ў пярвічных партыйных арганізацыях інстытутаў" артыкулу маскоўскай "Праўды" з 5.IУ.1954 г. п.н. "Супроць застою ў навуковай рабоце", адзначалі, што:

> "Работа АН БССР, асабліва ў галіне сельскай гаспадаркі, усё яшчэ адстае ад практычных задач, выцякаючых з рашэньняў верасьнёўскага і лютаўска-сакавіцкага Пленумаў ЦК КПСС ... Прэзыдыюм і Партком АН БССР зьвярнулі ўвагу кіраўнікоў інстытутаў і ўсіх навуковых супрацоўнікаў ... на ўзмацненьне работ па праблемах павышэньня ўраджайнасьці сельска-гаспадарскіх культур і прадуктыўнасьці жывёлагадоўлі, мэльярацыі і сельска-гаспадарскага асваеньня балот і забалочаных земляў ..." II5/

<u>Сучасная арганізацыйная структура Акадэміі Навук БССР</u>

Паводля тых скупых вестак, што прасочываюцца з паза зялезнай заслоны на Захад, можна ўстанавіць, што Акадэмія Навук БССР захавала перадваенны падзел на 3 аддзяленьні:

I. <u>Аддзяленьне грамадзкіх навук</u> /акадэмічны сакратар аддзяленьня, правадзейны сябра Акадэміі - В.Перцаў/.



Інстытуты аддзяленьня: I. Гісторыі - дырэктар І.Краўчанка, 2. Філязофіі й права - дырэктар В.Скачэляс, 3. Эканомікі - дырэктар Г.Кавалеўскі, 4. Літаратуры й мастацтва - дырэктар - В.Барысенка, 5. Моваведы - дырэктар К.Крапіва.

II. <u>Аддзяленьне фізыка-матэматычных і тэхнічных навук</u> /ак. сакратар, правадзейны сябра АН БССР - В.Папоў/.

Інстытуты: I. Мэханізацыі і электрафікацыі сельскай гаспадаркі - дыр. М.Мацэпура, 2. Фізыка-тэхнічны - дыр. С.Губкін, 3. Геалёгічных навук - А.Аўксеньцеў, 4. Хіміі - ?, 5. Торфу - дыр. або П.Белькевіч або Н.Турбін /у "Весьцях" Акадэміі Навук успамінаюцца абодвы, як дырэктары, каторы зь іх застаўся, нявядома. Магчыма, што й ня той і ня другі, а хтось іншы/II6, 6. Энэргетыкі - намесьнік дыр. М.Мурашка, 7. Фізыкі й матэматыкі - дыр. А.Сеўчанка /фізыка-тэхнічны інстытут быў створаны ў 1947 г., а гэты апошні, праўдападобна заміж таго, у 1955 г. Як падавалі "Весці АН БССР", №I, 1955 г., б. I29-I30; "у складзе інстытуту налічваецца 9 лябараторыяў, у тым ліку 6 лябараторыяў, што працуюць у галіне фізыкі /тэарэтычнай фізыкі, спэктраскопіі, люмінэсцэнцыі і др./ і 3 лябараторыі ў галіне матэматыкі. Інстытут мае распрацоўваць актуальныя праблемы тэарэтычнай, экспэрымэнтальнай і прыкладнай фізыкі, а таксама матэматыкі й геадэзіі, пытаньні спэктраскопіі і ейнага прытарнаваньня да розных галінаў навукі й тэхнікі ... У Інстытуце ўжо працуе 4-х дактароў навук і 3 кандыдаты, у тым ліку ляўрэат Сталінскай прэміі, правадзейны сябра Акадэміі Навук БССР Б. Степанов і кандыдат тэхнічных навук І.Лебарев..."/; 8. Архітэктурна-будаўнічы - загадчык Ю.Егораў.

III. <u>Аддзяленьне біялёгічных і сельска-гаспадарскіх навук.</u> /Акадэмік Сакратар, правадзейны сябра Акадэміі Навук БССР - А.Лаппо/.

Інстытуты: I. Мэльярацыі воднай і балотнай гаспадаркі - дырэктар С.Скарапанаў, 2. Сацыялістычнай сельскай гаспадаркі - дыр. В.Шэмпель, 3. Лесу - дыр. І.Юркевіч, 4. Біялёгіі - Н. Турбін, 5. Жывёлагадоўлі - заст. дыр. Н.Горскі.

На чале АН стаіць Прэзыдэнт Акадэміі Навук БССР - В.Купрэвіч, Віцэ-прэзыдэнт - І.Лупіновіч,К.Міцкевіч /Я.Колас/ і

Б.Ерафееў, Вучоны Сакратар Прэзыдыюму АН - М.Мурашка або В.Гарбач. Галоўны вучоны Сакратар АН - С.Маргунскі /паводля статуту з 9.УІ.І936 г. гэткага становішча ня было, праўдападобна статут зьменены/, Вучоны Сакратар Рэдакцыйна-выдавецкага Савету - В. Горцаў, Дырэктар выдавецтва АН - А.Мікульскі. Колькі й хто сябры Прэзыдыюму АН БССР ды таго Выдавецкага Савету - няведама.

Важнай і новай установай Акадэміі Навук БССР ёсьць яшчэ "Савет па каардынацыі навуковай дзейнасьці". Старшынём яго ёсьць Прэзыдэнт АН - В.Купрэвіч, намесьнікам - Н.Ермаленка, а Вучоным Сакратаром - А.Хахлоў. Найважнейшай-жа установай, што кіруе й падганяе ўсе прэзыдыюмы й саветы, ёсьць Партыйны Камітэт АН БССР зь ягонымі "пярвічнымі" партыйнымі арганізацыямі ўсіх інстытутаў. Апрача пералічаных установаў Акадэміі Навук БССР, пры паасобных інстытутах яшчэ створаны адмысловыя "Вучоныя Саветы па прызначэньню вучоных ступеняў доктара й кандыдата навук" /Пэрсанальны склад гэтых Саветаў падаецца пры канцы гэтага, у дадатку/.

Пэрсанальны склад Акадэміі Навук БССР у І952 годзе быў наступны: Прэзыдэнт - Купрэвіч Васіль, віцэпрэзыдэнт - Колас Якуб /Міцкевіч/, Сябры Азарэнка Е.К., Акімава О.Д., Атраховіч К.К. /Крапіва Кандрат/, Алексееў Е.К., Барысенка В. - дырэктар інстытуту Літаратуры й Мастацтва, Барсток М.Н., Безбародаў М., Вінбэрг Г.Г., Вяршэня С.М./ сакратар камуністычнай партыйнай арганізацыі ў Акадэміі/ Вятохін І.А., Гарагляд Х.С. /дырэктар Інстытуту Жывёлагадоўлі/, Годнев Т.Н., Гораў К.В., Губкін С.І., Дарожкін Н.А., Драко М.М., Езубчык А.А., Ерофеев Б.В., Жэбрак А.Р., Калішэвіч С.В., Караткоў К.Н., Кедроў-Зіхман О.К. /дырэктар Беларускае Дзяржаўнае Сэлекцыйнае Станцыі/, Лапо А.І., Леонов В.А., Лупіновіч І.С., Маргунскі С.П., Маркавец А.Ф., Маркоў Д.А., Мацэпура М.Я., Нікольскі М.Н., Пераход В., Перцаў В.Н., Патапаў М.В., Пракапчук А.Я., Пшыркоў Ю.С., Пятровіч П.Г., Рагавы П.П., Сьвірычэўская М.М., Сарокін А.А., Старавойтаў В.І., Сяржанін І.Н., Томін М.П., Цярэнцьеў В.М., Чымбург І.С., Шэмпэль В.І., Юньев Г.С., Ярмоленка Н.Ф., Юскавец М.К.

Як відаць із саміх прозьвішчаў, беларускія вучоныя ў Акадэміі Навук БССР пасьля вайны сталі рэдкімі, у вадваротнасьці таму, што было да І930 г., калі Інбелкульт быў галоўным асяродкам беларускага навуковага сьвету.



## 4. Дзейнасьць Акадэміі апошняга трохгодзьдзя /І953 - І956 гг./

Кароткія паведамленьні ў "Весьцях Акадэміі Навук БССР" пра справаздачы з працы паасобных Аддзяленьняў ці інстытутаў на паседжаньнях Прэзыдыюму Акадэміі даюць пэўнае ўяўленьне аб працы й тых вымаганьнях рэжыму, што ёй ставяцца. Гэтак І2.І.І954 г., пасьля справаздачы Аддзяленьня біялёгічных і сельска-гаспадарскіх навук за І953 г., Прэзыдыюм АН адзначыў, што:

> "... дасьледваньні па шэрагу тэмаў, заплянаваных на І953 г., недавыкананы, а па шэрагу пытаньняў вяліся на недастаткова высокім тэарэтычным узроўні. Недастаткова інстытуты працавалі над пытаньнямі кармаздабываньня, над агратэхнікай гадоўлі й гародніны, адкорму сельскагаспадарчай жывёлы й кормавыкарыстаньня ... недастатковай была сувязь інстытутаў з вытворчасьцю, прапаганда асягненьняў навукі й перадавой практыкі..." ІІ7.

Прэзыдыюм АН забавязаў Бюро Аддзяленьня выправіць тыя "недахопы", а самае галоўнае:

> "накіраваць высілкі калектыву навуковых працаўнікоў на вырашэньне ў І954 г. асноўных праблемаў, што выплываюць із заданьняў, пастаўленых верасьнёўскім Пленумам ЦК КПСС" ды - "... сканцэнтраваць увагу на далейшым павышэньні тэарэтычнага ўзроўню й практычнага значэньня навуковых дасьледваньняў...", а таксама "... зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўзмацненьне працы над павышэньнем кваліфікацыі навуковых кадраў..." ІІ8 /адвечная праблема бальшавіцкіх "ідэялёгічна-вытрыманых кадраў - Г.Н./

Падобныя-ж недахопы за І953 г. былі адзначаны Прэзыдыюмам АН БССР 26.І.І954 г. і на Аддзяленьні фізыка-матэматычных і тэхнічных навук. Там таксама дасьледваньні вяліся "не на дастаткова высокім тэарэтычным узроўні", а таму прапанавалася:

> "узмоцніць работу па падрыхтове навуковых кадраў праз асьпірантуру, а таксама й шляхам абароны кандыдацкіх доктарскіх дысэртацыяў навуковымі супрацоўнікамі інстытутаў..." ІІ9

У Аддзяленьні грамадзкіх навук Прэзыдыюм АН БССР адзначыў, як дасягненьні І953 г., выданьне "Расейска-беларускага слоўніка" /вышаў пад рэдакцыяй правадзейных сябраў АН БССР - Я. Коласа, К.Крапівы й сябры-карэспандэнта АН БССР П.Глебкі ў

выдавецтве "Замежных і нацыянальных слоўнікаў", Масква, I953г./, "Нарысаў эканамічнай геаграфіі БССР" ды кнігі "Практыка распрацоўваньня пэрспэктыўных плянаў і ўвядзеньня травапольных севазваротаў у калгасах".

Недахопамі Аддзяленьня Грамадзкіх навук, гэтак як і іншых аддзяленьняў, Прэзыдыюм палічыў нявыкананьне плянаў /агульная хвароба папярэдніх плянаў/. Інстытут-жа філёзофіі й права:

> "... буйных прац у I953 г. не падрыхтаваў, абмяжаваўшыся зьмяшчэньнем у "Известиях АН БССР" шэрагу невялікіх памерам артыкулаў, галоўным чынам з пазаплянавай тэматыкай". У большыні інстытутаў Аддзяленьня "палажэньне з кадрамі, як і раней застаецца незадавальняючым..." I20,

хоць там за год "4-х аспірантаў і 9-х малодшых навуковых супрацоўнікаў абараніла кандыдацкія дысэртацыі", як адзначаў Прэзыдыюм, а ўсё-ж Бюро Аддзяленьня недастаткова вяло ... барацьбу з ... бясплоднасьцю некаторых навуковых супрацоўнікаў..."

Ніякая "барацьба" Бюро Аддзяленьня ды партыйных камітэтаў ведама што не магла вымагчы "плоднасьці" ад неспэцыялістых, калі запраўдныя гісторыкі, моваведы, эканамістыя, этнографы, падшываныя пад "ворагаў народу й нацдэмаў", фізычна вынішчаліся ў працягу двух дзесяцігодзьдзяў. Наданьне навуковых ступеняў дактароў філялёгічных навук пісьменьнікам Я.Коласу й К.Крапіве, прыкладам у галіне моваведы, не магло зрушыць наперад гэтае спэцыфічна-складанае навукі, бо яны, хоць і выдатныя пісьменьнікі, а ўсё-ж не спэцыялістыя-моваведы. Навуковая "бясплоднасьць", а перадусім навуковая няўпэўненасьць зь вялікай дамешкай навуковае бяспрынцыповасьці й хвальшу, уласьцівы не адно "некаторым навуковым супрацоўнікам", а найбольш усяму Аддзяленьню Грамадзкіх Навук АН БССР, і зусім ня зь віны саміх супрацоўнікаў.

Дасканала гэта ведаюць кіраўнікі Акадэміі Навук БССР. Нічога аднак зрабіць ня могуць, адно ў мэтах самастрахоўкі вытыкаюць недацягненьні іншым. Гэтак Прэзыдыюм АН БССР II.У.I954 г., ацэньваючы работу сэктару мастацтва Інстытуту літаратуры й мастацтва АН БССР, прызнаў, што:

> "... сэктар за пэрыяд свайго існаваньня не апублікаваў ні аднаго сур'ёзнага навуковага дасьледваньня. За апошнія 6 год апублікавана толькі адна плянавая работа памерам у 2 друкаваных аркушы. Сур'ёзным недахопам у рабоце сэктару ёсьць і тое, што сэктар абмяжоўваўся распрацоўкай толькі пытаньняў архітэктуры й тэатру. Такія-ж важныя галіны беларускага мастацтва, як музыка, графіка, кіно ня вывучаліся, а кіраўнік сэктару доктар мастацтвазнаўчых навук М.Кацэр ня прыняў належных мераў па ўкамплектаваньню сэктару адпаведнымі спэцыялістымі. У сэктары мастацтва нездавальняюча вялася таксама падрыхтоўка кадраў праз асьпірантуру..." I2I.



Вельмі блага выглядае справа і ў "навуковых" паясьненьнях бальшавіцка-камуністычнае дагматыкі - "дыялектычным матэрыялізьме". У "Дзяржаўным выдавецтве" ў I954 годзе выйшла кніга "Дыялектычны матэрыялізм" пад агульнай рэдакцыяй акадэміка Г. Александрава, што мела быць падручнікам "марксіцкай філязофіі для ВНУ і шырокіх колаў савецкай грамадзкасьці".

28 красавіка I954 году кніга трапіла пад крытычны абстрэл у Інстытуце філязофіі й права "пры ўдзеле прадстаўнікоў вузаў /вышэйшых навуковых установаў - Г.Н./ і іншых установаў". Крытыкі сьцьвердзілі, што ў кнізе шмат "памылковых палажэньняў, слабае асьвятленьне прычынаў узьнікненьня дыялектычнага матар'ялізму", аўтары кнігі "ня зводзяць канцоў з канцамі" ў трактаваньні пытаньня пра дыялектычную й фармальную лёгіку. "Дэкляратыўным" застаецца цьверджаньне, што "вонкавыя супярэчнасьці ўзьнікаюць на аснове нутраных", бо тады, паводля кандыдата філязофскіх навук І.Чымбурга, незразумела "якім чынам на аснове нутраных супярэчнасьцяй нашага сацыялістычнага грамадзтва ўзьнікаюць вонкавыя супярэчнасьці".

Дырэктар Інстытуту філязофіі й права В.Скачэляс зацеміў, што "кніга напісана насьпех, дрэнна адрэдагавана". Галоўная-ж загана "нездавальняючае паказаньне значэньня палажэньняў дыялектычнага матарыялізму для практычнай дзейнасьці камуністычнай партыі" I22.

Агульны сход правадзейных сяброў, сяброў-карэспандэнтаў АН БССР супольна з дырэктарамі інстытутаў, закладчыкамі лябараторыяў і старэйшымі навуковымі супрацоўнікамі пад канец студзеня I955 г. абмяркоўваў асноўныя вынікі навуковай дзейнасьці Акадэміі за I954 год ды разглядаў пляны навукова-дасьледавальных працаў Акадэміі на I955 год.

Із справаздачы Прэзыдыюму АН БССР В.Купрэвіча вынікала, што за I954 год "палепшылася праца па ўкараненьню рэзультатаў дасьледаў у народнай гаспадарцы. Павялічылася колькасьць і якасьць

выданьняў Акадэміі. Сур'ёзныя посьпехі асягнуты ў галіне камплектаваньня навуковых кадраў". Гэтак выглядала ў васноўным "хвалебная" частка справаздачы, своеасаблівы шаблённа-бальшавіцкі "дэбет", на "крэдыт"-жа складаліся тыя нязьменныя "аднак", што выказвалі крыху адменнае становішча: "... яшчэ ня зжаты істотныя недахопы. Ёсьць адставаньне ў разгортваньні досьледаў над праблемамі кормаздабываньня, уздыму прадуктыўнасьці жывёлагадоўлі ў рэспубліцы, агратэхнікі зернябабовых культураў, гідратэхнікі й мэльярацыі ды выкарыстаньня прыродна-сыравінных рэсурсаў".

Галоўнымі заданьнямі АН БССР на I955 г. сход вызначыў:

"а/ Усемагчымае павышэньне ўзроўню тэарэтычных дасьледваньняў ува ўсіх галінах навукі.
б/ Узмацненьне навуковых дасьледваньняў і працаў па ўкараненьню навуковых рэзультатаў у сельска-гаспадарчую вытворчасьць з праблемаў павышэньня ўраджайнасьці сельска-гаспадарчых культур і прадуктыўнасьці жывёлагадоўлі, мэльярацыі і сельска-гаспадарчага асваеньня тарфяна-балотных глебаў, аднаўленьня лясоў з павышэньнем іхнай прадуктыўнасьці, мэханізацыі ды электрыфікацыі працаёмкіх працэсаў сельска-гаспадарчага працэсу.
в/ Далейшае разьвіцьцё навуковых досьледаў у праблемах выяўленьня й выкарыстаньня прыродных рэсурсаў - торфу, мінэральных соляў, вуглёў, водных рэсурсаў і др.
г/ Узмацненьне навуковых дасьледваньняў і працаў у галіне машынабудаўніцтва, энэргетыкі, хімічнай прамысловасьці.
д/ Разьвіцьцё досьледаў у галіне тэарэтычнай фізыкі й матэматыкі, біялёгіі й фізыялёгіі.
е/ Далейшае пашырэньне навуковых дасьледваньняў зь гісторыі Беларусі, марксіцка-ленінскай філязофіі, беларускай мовы, літаратуры й мастацтва, эканомікі прамысловасьці й сельскай гаспадаркі". I23.

Успомненыя афіцыйныя зацемкі вельмі агульнага характару пра дзейнасьць АН БССР за I954 г. і пляны на I955 г. дапаўняюцца крыху больш канкрэтным матар'ялам у зацемках пра дзейнасьць паасобных аддзяленьняў ці інстытутаў.

24.I.I955 г. Агульны Сход Аддзяленьня Грамадзкіх Навук Акадэміі разглядаў справаздачу за I954 г. намесьніка акадэміка-сакратара Аддзяленьня, правадзейнага сябры Акадэміі М.Лынькова і пляны на I955 г. акадэміка-сакратара Аддзяленьня, прав. сябры Акадэміі В.Перцава.

З рэфэратаў абодвух акадэмікаў вынікала, што Аддзяленьне



за I954 г. апублікавала I0 працаў памерам 200 друкаваных аркушаў. Важнейшая зь іх: "Гісторыя Беларускай ССР т.I", "Матар'ялы і дакуманты зь гісторыі Беларусі", манаграфія "Рэакцыйная сутнасьць фізычнага ідэялізму", "Нарысы беларускай савецкай літаратуры", "Працы Інстытуту моваведы", вып. I і II, "Практыка выкарыстаньня машынна-трактарнага парку МТС".

Заганамі ў працы інстытутаў Аддзяленьня адцемлены: "адставаньне ад росту культуры й народнай гаспадаркі", мала ўдзялялася ўвагі распрацоўцы пытаньняў "атэізму ды барацьбы зь перажыткамі прошлага ў сьведамасьці людзей", гісторыі "перадавой грамадзка-палітычнай думкі ў Беларусі", вывучэньню гісторыі Беларусі савецкага пэрыяду, тэарэтычных пытаньняў палітычнай эканомікі, гісторыі народнай гаспадаркі, складаньню "поўнавартасных падручнікаў беларускай літаратуры для ВНУ і школаў, у распрацоўцы пытаньняў тэорыі моваведы".[I24]

I8-га ліпеня I955 году Бюро Прэзыдыюму АН БССР па дакладу Загадчыка сэктару гісторыі філязофіі Інстытуту філязофіі й права АН БССР І.Чымбурга пра ход працы над праблемай "Гісторыя перадавой грамадзка-палітычнай і філязофскай думкі ў Беларусі" адзначыў, што работа па распрацоўцы й заканчэньню гэтае навуковае праблемы адбываецца "надта марудна". Дагэтуль сэктар ня поўнасьцю ўкамплектаваны "кваліфікаванымі навуковымі кадрамі". Інстытуту філязофіі й права АН БССР запрапанавана "прыняць усе меры на тое, каб падрыхтаваны зборнік артыкулаў "Барацьба за марксізм у Беларусі /I883-I907 г./" у найбліжэйшы час быў здадзены ў РІСО" /Рэдактарска-выдавецкі Савет Аддзяленіня/, зьвернута ўвага на "павышэньне патрабавальнасьці да навуковых супрацоўнікаў сэктару гісторыі філязофіі да выкананьня пляну ды на павышэньне іхнай навуковай кваліфікацыі"[I25].

Тады-ж Бюро Прэзыдыюму АН БССР, выслухаўшы даклад дырэктара Інстытуту фізыкі й матэматыкі, правадзейнага сябры Акадэміі А.Сеўчанкі, знайшло, што, хоць за апошнія 2 гады створана неабходная экспэрымэнтальная база, дазваляючая праводзіць работы на "высокім навуковым узроўні", Інстытут ня выкарыстаў ўсіх магчымасьцяў па камплектаваньню штатаў інстытуту, у выніку чаго шэраг лябараторыяў /радыяфізыкі, прыблізных вылічэньняў, дыфэрэнцыяльных раўнаньняў/ ня маюць "ніводнага супрацоўніка й дагэтуль не пачалі працы". Дагэтуль "ня выкарыстоўваецца карысь-

нейшае абсталяваньне"[126].

На паседжаньні Бюро Прэзыдыюму АН БССР 14.IX.1955 г. адцемлена таксама, што пытаньне "ўкараненьня ў народную гаспадарку навейшай тэхнікі мае вялізарнае значэньне й датычыць цалкам Акадэміі Навук БССР ды ейных навукова-дасьледчых інстытутаў".

Дзеля падрыхтаваньня канкрэтных прапановаў у вырашэньні заданьняў па ўкараненьню ў народную гаспадарку практыкі й дасягненьняў "передавой айчыннай і замежнай тэхнікі" створана была камісія ў складзе: акадэміка-сакратара Аддзяленьня фізыка-матэматычных і тэхнічных навук АН БССР, акадэміка В.Папова, намесьніка Старшыні Савету па каардынацыі АН БССР - Н.Ермаленкі, дырэктара Інстытуту торфу АН БССР - П.Белькевіча, дырэктара Інстытуту геалягічных навук АН БССР - А.Аўксенцева, дыр. Інстытуту мэльярацыі АН БССР - С.Скарапанава, дыр. Інстытуту сельскай гаспадаркі АН БССР - В.Шэмпеля, загадчыка лябараторыі фізыка-тэхнічнага інстытуту АН БССР - К.Горава, загадчыка лябараторыі Інстытуту фізыкі й матэматыкі - І.Лебедзева[127].

Усе вышэй разгледжаныя мамэнты гавораць адно: Акадэмія Навук БССР, пачынаючы ад першых дзён свайго існаваньня аж да апошняга часу, г.зн. у працягу 20-ці гадоў бязупынна й сыстэматычна, крок за крокам, штораз больш траціла сваю самастойнасьць, свабоду; скоўвалася накіненымі зьверху рамкамі плянаў, што дыктавалі й дыктуюць, у якім кірунку, якім спосабам і як далёка мае сягаць творчая думка навукоўцаў.

Акадэмія Навук замянілася ў спэцыфічны, нідзе ў сьвеце ня сустраканы, бюракратычна-падганяльны калгас вучоных, які расстаўляе іх згодна супярэчных вымогаў каманды дэспатычнай бальшавіцкай партыі.

Ніхто із сумленных людзей навукі, што іх запрог бальшавізм у ярмо свае Акадэміі ды змусіў да ролі пакорных слугаў выконваньня сваіх утылітарна-дэмагагічна-прапагандавых патрэбаў, ня можа цяпер выявіць свабодна вынікаў іхных запраўдных, істотных спасьцярогаў і думак. Здабытую праўду ў працягу шматгадовае практыкі й дасьледаў яны вымушаны захоўваць унутры сябе, калі толькі яна ня ўкладаецца ў дагматычныя рамкі "марксіцкай мэтадалёгіі". У залежнасьці ад паваротаў курсу дыктатуры або ад таго, хто выпхнуўся наперад - адзін самаўладны дыктатар, ці г.зв. дыктатар-



калектыў, вучоныя вымушаны крывіць душой, хвальшаваць факты, пісаць ды занава перапісваць гісторыю.

Гісторыя Беларусі ў сьценах Акадэміі Навук БССР пісалася й перапісвалася ці мала разоў у працягу апошніх 2-х дзесяткаў гадоў і ўсё ніяк не магла выйсьці ў сьвет. Толькі ў 1954 годзе, пасьля шматлікіх абмеркаваньняў, папраўак, зьменаў, і то ў расейскай мове, пад рэдакцыяй праўдзейнага сябры АН БССР В. Перцава ды кандыдатаў гістарычных навук К.Шабуні /ён-жа загадчык Аддзелу Культуры й навукі ЦК/ ды Л.Абэцэдарскага выйшаў псэўданавуковы хвальсыфікат гісторыі беларускага народу п.н. "История Белорусской ССР, т.I".

Дзеля прыданьня большай павагі і аўтарытэтнасьці гэтаму выданьню паведамлялася, што

> "... кніга падрыхтавана Інстытутам гісторыі Акадэміі Навук БССР з удзелам работнікаў Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту імя Леніна і іншых навуковых установаў рэспублікі. У вабмеркаваньні кнігі разам зь беларускімі навуковымі работнікамі прыймалі ўдзел супрацоўнікі інстытутаў гісторыі Акадэміі Навук СССР, Акадэміі Навук Украінскай і Летувіскай рэспублік". 128.

Ужо адно імя, як рэдактара выданьня, загадчыка "Аддзелу Культуры й навукі ЦК" К.Шабуні гаворыць шмат. Ніякія абмеркаваньні ўсіх навуковых калгасаў СССР нічога ня зробяць наўсуперак таго, што хоча і як хоча паказаць народу з падзеяў ягонага мінулага ЦК бальшавіцкай партыі. Каб паказаць, што нашыя цьверджаньні не галаслоўныя, бо крытычны агляд гэтае "працы" не ўваходзіць у тэму, дазволім спыніцца на колькі характэрных прыкладах:

> "... У кнізе раскрываецца агульнасьць гістарычнага лёсу рускага, беларускага і ўкраінскага народаў, выкрываецца рэацыйная роля нацыяналістычных партый у Беларусі... Народныя масы Беларусі пераконваліся ў тым, што толькі ўзьеднаньне з брацкім рускім народам у вадзінай Расейскай дзяржаве дасьць магчымасьць Беларусам выратаваць сябе як народнасьць і стварыць умовы для гістарычнага прагрэсу". 129.

Захоп і паняволеньне беларускіх земляў царскай Расеяй "навуковая" гістарычная праца АН БССР называе "ўзьеднаньнем", якое "... спрыяла эканамічнаму, палітычнаму й культурнаму разьвіцьцю беларускага народу"[130].

Няўжо-ж, каб там ня было вока ЦК - Шабуні, вучоныя гісторыкі, аж 4-х Акадэміяў навук, Унівэрсытэту ды іншых навуковых установаў, не заўважылі-б, што Мураўёўскія шыбеніцы, забарона друку, й карыстаньня беларускай мовай у культурным і грамадзкім жыцьці краю, ці, хоць-бы, тыя мізэрныя бравары й саматужныя гарбарні дарэвалюцыйнага Менску ніяк не маглі спрыяць "разьвіцьцю эканамічнаму, палітычнаму, і культурнаму беларускага народу"?

Падобным да гэтага сюрпрызам абдароўвае Акадэмія Навук БССР у тым-жа I954 г., таксама ў расейскай мове, і ў галіне гісторыі беларускае літаратуры. У Маскве, у выданьні Акадэміі Навук СССР, выйшла кніга, падрыхтаваная "калектывам навуковых супрацоўнікаў Інстытуту літаратуры й мастацтва АН БССР, сумесна з сэктарам літаратуры народаў СССР Інстытуту сьветавай літаратуры імя А. Горкага АН СССР", як гаворыцца ў прадмове, п.н. "Очерки истории белорусской советской литературы". Кнігу рэдагавалі: В.Барысенка, М.Дабрынін, Л.Залеская і М.Лынькоў. Тут, можна сказаць, яшчэ большая кантроля. Беларускія літаратураведы, відаць, некампэтэнтныя ў гісторыі разьвіцьця роднае літаратуры. Спатрэбілася "дапамога" старэйшага брата - Інстытуту сьветавай літаратуры АН СССР. А рэдактараў-кантралёраў аж 2-х - Дабрынін і Залеская.

Выданьне гістарычных жаролаў, запачаткаванае яшчэ Беларускай Акадэміяй Навук /I том п.н. "Дакуманты й матарыялы зь гісторыі Беларусі" выйшаў у I936 г./, Акадэмія Навук БССР выдае ў вадпаведнай партыйнай апрацоўцы й падборы і ўжо ў расейскай мове. У I953 годзе выйшаў III том гэтага зборніка пад рэд. акадэміка Перцава, /"Документы и материялы по истории Белоруссии - I900-I9I7 г.г./, дзе, прыкладам, Беларускі Нацыянальны Камітэт, выбраны на зьезьдзе прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацыяў 25-I7 сакавіка ў Менску, атрымаў наступную "гістарычную" ацэну:

> "Беларускі нацыянальны камітэт - кантррэвалюцыйная арганізацыя. Арганізаваны на зьезьдзе беларускіх нацыяналістых у сакавіку I9I7 г. У склад Беларускага Нацыянальнага Камітэту ўваходзілі прадстаўнікі беларускіх нацыяналістычных арганізацыяў ... Бальшавікі вялі рашучую барацьбу супраць Беларускага нацыянальнага камітэту..." I3I.

Зборнік абмяжоўваецца адно голай прыкладкай "контррэвалюцыйная арганізацыя", не падаючы канкрэтных дадзеных тае "кантррэвалюцыйнасьці". Гістарычныя факты, ведамыя не з апрацоўкі АН



БССР, кажуць, што гэны Камітэт ставіў заданьні перабудовы Расейскай імпэрыі з тым, каб Беларусь была аўтаномнай рэспублікай. У гэтым бальшавіцкі"навуковы" камэнтатар бачыць кантррэвалюцыю. Праўда, Камітэт выклікаў незадаваленьні з тае прычыны, што на чале яго стаяў абшарнік, але незадаваленьне гэнае:

> "... давяло да таго, што хутка паўстала Цэнтральная Рада Беларускіх Арганізацыяў і Партыяў, да якое маглі належаць толькі дэмакратычныя арганізацыі". I32.

Зборнік пра гэта не ўспамінае, бо ўсе нацыянальна- самастойніцкія імкненьні  ськіраваныя да вызваленьня спад панаваньня расейскага бальшавізму кваліфікаваліся й кваліфікуюцца, як контррэвалюцыя.

Вельмі характэрнай рысай дзейнасьці апошніх гадоў Акадэміі Навук БССР ёсьць тое, што Акадэмія штораз больш камплектуецца навуковым пэрсаналам расейскае нацыянальнасьці й свае працы, прызначаныя за асноўны матарыял пры вывучэньні роднага краю й культуры студэнтамі ВНУ і "шырокімі коламі працоўных Беларусі", выдае адно ў расейскай мове ў схвальшаваным выглядзе, з тэндэнцыяй прыніжэньня гістарычнае ролі й значэньня беларускага народу ды ягоных культурных вартасьцяў і ўплываў на суседзяў у мінулым, з надмерным акцэнтаваньнем прымату і "дабрадзейных" уплываў навет царскага захопніцтва ды дэспатызму.

Склікаючца адмысловыя сэсіі Акадэміі Навук, прысьвечаныя тым ці іншым падзеям з культурнага або рэвалюцыйнага мінулага расейскага народу - сэсія, прысьвечаная 50-годзьдзю з дня сьмерці А.П.Чэхава /6.6.I954 г./, сэсія, прысьвечаная 85-годзьдзю з дня нараджэньня У.І.Леніна /2I.4.I955 г./ сэсія, прысьвечаная 50-годзьдзю першай расейскай рэвалюцыі /лістапад I955 г./, чаго зусім ня робіцца ў дачыненьні да выдатных датаў зь гісторыі Беларусі.

Праца гісторыкаў ды наагул навуковых спэцыялістых, гуманітарнага цыклю ўскладняецца, паміма суровай кантролі рэжыму, яшчэ й недаступнасьцю да архіўных крыніцаў. Усе архівы ў СССР ёсьць ня ў веданьні навуковых установаў ці міністэрстваў асьветы, а ў архіўным аддзеле МВД, доступ да якіх абмяжоўваецца вельмі складаным парадкам з патрабаваньнем ад дасьледніка роз-

ных даведак, гарантыйных лістоў, рэкамандацыяў, анкетаў ды забавязаньняў.

Дадзеныя савецкай прэсы, пасьля г.зв. паходу супраць "культу асобы", сьветчаць, што й цяпер ідзе мова не пра аднаўленьне гістарычнае праўды, а толькі пра выпраўленьне тых перакручваньняў, што нявыгадныя цяперашняму "калектыўнаму кіраўніцтву". Пры "калектыўным кіраўніцтве", гэтак як і пры "культе асобы", гісторыя й увесь гуманітарны цыкль на далей застаюцца не навукай, а прапагандай.

З гэтага яшчэ ня вынікае, што цыкль прырадаведных, тэхнічных і ўсіх г.зв. прыкладных навукаў у Акадэміі Навук БССР мае шырокае й неабмежанае поле дзейнасьці. І тутака гэтаксама ўся навукова-дасьледавальная праца, падпарадкавана выключна пастановам пленумаў ЦК КПСС ды зьездаў камуністычнае партыі, не пазбаўлена прапагандавага характару. Вялікі націск кладзецца на г.зв. "абагульненьне перадавога вопыту /практыкі - Г.Н./ ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы". У сувязі з гэтым Прэзыдыюм і партыйны камітэт АН БССР 7-га чырвеня I954 году пастанавілі:

> "... Для разьвіцьця творчай садружнасьці інстытутаў акадэміі з вытворчасьцю і ўзмацненьня прапаганды /падкрэсьленьне нашае - Г.Н./ дасягненьняў навукі й перадавога вопыту пэрыядычна праводзіць выязныя паседжаньні вучоных саветаў інстытутаў, аддзяленьняў, навуковых канфэрэнцыяў і сэсіяў на заводах, хвабрыках, у калгасах, саўгасах і МТС".I32.

Як выглядае той перадавы вопыт, паказвае адно з шматлікіх выязных паседжаньняў Акадэміі Навук БССР: вясной I956 г. акадэмікі, дактары й кандыдаты сельска-гаспадарскіх навук Інстытуту сацыялістычнае сельскае гаспадаркі; Інстытуту мэліярацыі, воднай і балотнай гаспадаркі з удзелам "актыву двух суседніх калгасаў - імя X зьезду ЛКСМБ і імя Панамарэнкі", у в. Дрычын Рудзенскага раёну, зь ініцыятывы газ. "Зьвязда", ладзілі выязное паседжаньне вучоных саветаў успомненых інстытутаў. Паседжаньне было прысьвечана "выяўленьню рэзэрваў далейшага крутога ўздыму зернавой гаспадаркі 2-х калгасаў-суседзяў".

Што-ж тое паседжаньне новага, арыгінальнага "перадавога выявіла"? - Адвечную прадзедаўскую праўду, што каб поле магло даваць добрыя ўраджаі, яно павінна добра апрацоўвацца ды ўгнойвацца. Кандыдат-жа сельска-гаспадарскіх навук Стралкоў зрабіў надта



"перадавое" адкрыцьцё, што "лубін - гэта такое зялёнае ўгнаеньне, якому й цаны няма". Сустрэчныя-ж "перадавыя й навуковыя" прамовы калгаснага "актыву" былі наступнага характару: "кажнаму калгасьніку даць на грамадзкія палі 2-3 вазы гною"; а ў дадатку яшчэ й "спаборнічаць у накапленьню гною" /!/[I33].

Чым могуць "узбагаціць" навуку падобныя каштоўныя мерапрыемствы Акадэміі Навук БССР, даводзіць няма патрэбы. Гэткія анэкдатычныя практыкі, бязупыннае ўганяньне за таннымі прапаганндавымі эфэктамі ды сумыснае й тэндэнцыйнае хвальшаваньне гісторыі і ўсіх нявыгадных акупанту праяваў культурна-грамадзкага разьвіцьця беларускага народу, значна абніжаюць вартасьць ды выклікаюць зразумелы недавер і да тых спробаў больш-менш запраўднае навуковае працы Акадэміі Навук БССР.

Бязумоўна, спробы ў гэтым кірунку, у працягу 20-ці гадоў існаваньня Акадэміі Навук БССР былі, ёсьць яны й цяпер, адно што яны гэтак моцна абрасьлі і абрастаюць марксіцка-бальшавіцкім пустазельлем, што неспрактыкаванаму чалавеку амаль не магчыма іх з таго наросту выцягнуць на дзённае сьвятло. Да таго-ж яшчэ й скромныя, баязьлівыя, а часта завуаляваныя спробы сумленных навукоўцаў заглушаюцца паводкай псэўданавуковай пісаніны нававыпяканых "марксіцкіх", ідэйна-палітычных" спэцыялістых, на якіх Прэзыдыюм і партком АН БССР ускладаюць вялікія надзеі, бо лічаць, што:

> "... аднэй з важнейшых умоваў пасьпяховай дзейнасьці ёсьць штодзённая работа па падрыхтоўцы навуковых кадраў - дактароў і кандыдатаў навук праз дактарантуру і асьпірантуру, а таксама і бяз адрыву ад вытворчасьці..." I34.

І хоць з году ў год колькасьць гэтых новых кадраў узрастае /за I954 год лік дактароў у АН павялічыўся на I5 асобаў і кандыдатаў на 50 асобаў/ за кошт выпускаў асьпірантаў і запрашэньня "высока-кваліфікаваных спэцыялістых зь іншых гарадоў СССР"[I35], тэарэтычная вартасьць навуковае працы Акадэміі павышаецца вельмі нязначна, а фактычна зусім не павышаецца. Ёсьць навет вялікія прыклады поўнае бяздзейнасьці навуковых кадраў Акадэміі:

> "... Вялікая колькасьць правадзейных сяброў і сяброў-карэспандэнтаў Акадэміі Навук БССР ня прыймае ўдзелу ў навукова-дасьледчай рабоце Акадэміі /Па-

> русьнікаў, Броўка, Трусэвіч, Безбародаў, Ліпатаў, Гутараў і інш./, вельмі мала прыймаюць удзел у рабоце Акадэміі тав. Акулаў, Чыжэўскі, Качура і інш. ..." I36.

Прычыны гэтага знайсьці ня цяжка: адны акадэмікі ня маюць і ня могуць нічога новага сказаць у навуцы, бо трапілі ў Акадэмію прыпадкова, з партыйных меркаваньняў, дык і лепш што маўчаць; іншыя-ж, хоць мо' і хацелі-б нешта сказаць, а ня кажуць, бо ня могуць з прычынаў нязгоднасьці іхных думак з вымогамі бальшавіцкага акупацыйнага рэжыму.

x

Прасачыўшы 20-ці гадовы пэрыяд жыцьця Акадэміі Навук БССР на аснове тых матар'ялаў, хай сабе й скупых, аднак даволі грунтоўна паказываючых зьмест ейнай дзейнасьці за гэты час, можна прыйсьці да ня надта пацяшальнага выснаву.

Акадэмія Навук БССР за 20 год свайго існаваньня, маючы ў сваім распараджэньні вялікія сродкі, спэцыяльныя будынкі, лябараторыі, дапаможныя ўстановы, а самае галоўнае - вялікую падтрымку бальшавіцкага рэжыму, ніколі ня была й ня ёсьць з характару, настаўленьня й кірунку свае дзейнасьці беларускай нацыянальнай навукова-дасьледавальнай установай.

Галоўным заданьнем ад першых дзён ейнага быцьця была не навуковая чыннасьць, а чарненьне сваіх папярэднікаў - ІБК і БАН, пазьней - спрыяньне перараобцы багатае беларускае мовы на несамавіты савецка-расейска-беларускі жаргон, на г.зв. "белмову", бессаромнае хвальшаваньне фактаў зь гісторыі й культуры беларускага народу.

З гэтага гледзішча, па сутнасьці, Акадэмія Навук БССР была і ёсьць найбольш шкодным бальшавіцкім дэзінфармацыйным апаратам унутры й навонкі краю, бо, прыкрываючыся шыльдам беларускасьці, навукі, удзелам беларускіх рэнэгатаў, карыерыстых ды стэрарызаваных сумленных навукоўцаў-нявольнікаў, - яна сыстэматычна, незаўважна йпрэцызыйна сеіла дэнацыяналізацыйную атруту ў сьведамасьці беларускага народу, ягонага новага папаўненьня інтэлігенцыі й маладога пакаленьня.

Акадэмія Навук БССР была і ёсьць пакорнай нявольнай служкай бальшавіцкага рэжыму.



# ДАДАТКІ

## Дадатак I

## СТАТУТ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

/Зацьверджаны 25.УІІ.1924 г. сэсіяй ЦВК БССР/

### І. Агульныя палажэньні

І. Інстытут Беларускае Культуры ёсьць дзяржаўная навуковая ўстанова ў Беларусі, якая ўваходзіць у склад Народнага Камісарыяту Асьветы БССР.

2. Інбелкульт мае сваім заданьнем плянавае дасьледваньне Беларусі з боку яе мовы, этнаграфіі, гісторыі, прыроды, эканомікі, сацыяльна-грамадзкага руху і інш., а таксама аб'яднаньне ў гэтых галінак усёй працы, якая вядзецца, як навуковымі й мастацкімі ўстановамі, гэтак і паасобнымі працаўнікамі.

3. Інбелкульт падзяляецца на сэкцыі: I/ мовазнаўчую, 2/літаратурна-мастацкую, 3/ этнаграфічную, 4/ гісторыка-археалёгічную, 5/ пэдагагічную, 6/ прыродазнаўчую, 7/ сацыяльна-эканамічную і інш., якія арганізуюцца па меры рэчаістай патрэбы.

Увага. Для распрацаваньня пэўных заданьняў пры Інбелкульце, а таксама пры ягоных сэкцыях могуць закладацца пастаянныя й часовыя калегіі.

4. Пры Інбелкульце, на правох пастаяннай камісіі, існуе "Цэнтральнае Краязнаўчае Бюро", якое працуе па наказу Навуковае Рады Інбелкульту.

5. Для дасьледваньня жыдоўскай мовы, літаратуры, гісторыі, археалёгіі закладаецца жыдоўскі аддзел, які ў сваю чаргу можа падзяляцца, у меру патрэбы, на адпаведныя сэкцыі й камісіі.

Увага. Для дасьледваньня мовы, літаратуры, гісторыі і ар-

хеалёгіі і іншых нац. меншасьцяў БССР закладаецца па меры патрэбы адпаведныя сэкцыі й камісіі.

6. Інбелкульт мае права адчыняць аддзяленьні сваіх сэкцыяў па ўсіх гарадох Беларусі.

7. Інбелкульт мае права закладаць музэі, бібліятэкі, архівы, друкарні, дасьледавальныя станцыі, а таксама склікаць навуковыя канфэрэнцыі й зьезды і арганізаваць раскопкі, экспэдыцыі і інш.

Увага. Права на вядзеньне арх. раскопак і выдача дазволу на іх у межах Беларусі залежыць выключна ад Інбелкульту.

8. Інбелкульт, як вышэйшая ў Беларусі навукова-дасьледавальная ўстанова, дае адказы на пытаньні навуковага характару ўсім інстытуцыям і асобам, якія да яго зварачаюцца.

9. Інбелкульт мае права выдаваць навуковыя часапісы й асобныя працы навуковага, мастацкага й папулярнага характару: кнігі, зборнікі, брашуры, карты, альбомы і інш.

I0. Усе выданьні ІБК абавязкава павінны друкавацца ў беларускай мове.

Увага. Па пастанове аднэй з сэкцыяў выданьне Інбелкульту ў іншай мове можа быць дазволена навуковаю Радаю.

II. Жыдоўскі аддзел друкуе свае працы жыдоўскай мовaю.

I2. Па ўсіх пастановах навукі й асьветы Інбелкульт мае права беспасярэдня зносіцца з усімі дзяржаўнымі ўстановамі СССР і навуковымі ўстановамі заграніцы.

I3. Інбелкульт мае права бязмытна атрымоўваць з-за граніцы літаратуру й прылады для абсталяваньня сваіх навукова-дапаможных інстытуцыяў.

I4. Кожнае выданьне, якое выходзіць на тэрыторыі Беларусі /кнігі, брашуры, журналы, газэты, плякаты, лістоўкі/, паступае праз Беларускую Кніжную Палату ў вадным эгзэмпляры ў бібліятэку ІБК.

I5. Пасылкі, вагою да аднаго пуда, лісты, бандэролі, з улажэньнем навуковага матар'ялу, якія пасылаюцца Інбелкультам, або паступаюць на ягонае імя, ці ягоных сэкцыяў і камісіяў, звальняюцца ад усякіх паштовых аплатаў.

I6. Інбелкульт знаходзіцца на дзярж. бюджэце. Каштарысы яго праходзяць па агульнаму каштарысу Нар.Кам.Асьветы.



I7. Інбелкульт мае свой штамп і пячатку зь дзяржаўным гэрбам.

## II. Асабовы склад

I8. ІБК утвараецца на падставе членства. Члены Інбелкульту падзяляюцца на: а/ правадзейных членаў, б/ членаў-супрацоўнікаў і в/ членаў-карэспандэнтаў.

I9. Першы склад членаў Інбелкульту назначаецца Нар.Кам.Асьветы Беларусі; у далейшым кандыдаты назначаюцца сэкцыямі, абіраюцца навуковай Радай Інбелкульту і зацьвярджаюцца Нар.Кам. Асьветы.

Увага. Тэхнічны пэрсанал ІБК назначаецца й зацьвярджаецца Старшынёй ІБК.

20. Правадзейнымі членамі Інбелкульту маюць быць толькі выдатныя прадстаўнікі навукі, літаратуры, мастацтва й культуры, а таксама працоўныя, якія маюць заслугі ў галіне тэхнікі.

2I. Правадзейныя члены ІБК назначаюцца ці абіраюцца на 3-х гадовы тэрмін, пасьля якога часу маюць быць абраны нанова.

22. Правадзейныя члены ІБК вядуць самастойную навукова-дасьледавальную працу, загадваюць навукова-дапаможнымі інстытуцыямі, арганізуюць сэмінары, кіруюць працаю сэкцыяў і камісіяў і працай членаў-супрацоўнікаў ІБК.

23. Ня менш, як раз у год, правадзейныя члены ІБК падаюць у Навуковую Раду справаздачу аб сваёй навуковай чыннасьці.

24. Членамі-супрацоўнікамі ІБК-ту ёсьць асобы, якія выказалі сябе падгатаванымі й здатнымі для вядзеньня дасьледавальнай працы.

25. Члены-супрацоўнікі абіраюцца на 2 гады Навуковай Радай ІБК, пасьля якога часу маюць быць абраны нанова.

26. Ня менш, як раз у паўгода, члены-супрацоўнікі падаюць у Навуковую Раду справаздачу аб сваёй навуковай працы.

27. Членамі-карэспандэнтамі ёсьць асобы, якія дапамагаюць ІБК-ту ў выпаўненьні ягоных заданьняў па інструкцыях ІБК.

28. Усе члены Інбелкульту /правадзейныя члены, члены-супрацоўнікі і члены-карэспандэнты/ мусяць належаць да аднэй зь яго сэкцыяў ці камісіяў, у якіх яны беспасярэдна вядуць сваю навукова-дасьледавальную працу.

III. Навуковая Рада

29. Навуковая Рада кіруе ўсёй навукова-дасьледавальнай працай Інбелкульту.

30. Навуковая Рада складаецца: а/ з усіх правадзейных членаў ІБК і б/ прадстаўнікоў ад членаў-супрацоўнікаў і членаў-карэспандэнтаў у ліку ад кажнай зь дзьвёх апошніх груп, роўнаму ліку правадзейных членаў. Навуковая Рада: а/ апрацоўвае на кажны акадэмічны год агульны плян працы ІБК-ту, б/ падзяляе гэную працу паміж сэкцыямі, камісіямі, і навуковымі працаўнікамі Інстытуту, в/ зацьвярджае пляны самастойных працаў сэкцыяў і навуковых працаўнікоў, г/ заслухоўвае ня меней двух разоў у год справаздачы прэзыдыюмаў сэкцыяў ІБК, д/ арганізуе экспэдыцыі й раскопкі, е/ назначае конкурсы й прэміі за выдатныя навуковыя працы, з/ абірае навуковых працаўнікоў Інбелкульту і інш.

32. Пасяджэньні Навуковай Рады ІБК адбываюцца ня менш аднаго разу ў месяц.

IУ. Прэзыдыюм Інбелкульту

33. Прэзыдыюм Інбелкульту абіраецца Навуковай Радай Інстытуту на двухгадовы тэрмін у складзе 5-х асобаў: старшыні, намесьніка, 2-х сяброў і вучонага сакратара.

Увага. У склад 5-х чл. Прэзыдыюму абавязкава ўваходзіць прадстаўнік ад жыдоўскага аддзелу ІБК-ту.

34. Прэзыдыюм Інбелкульту зацьвярджаецца Наркамасьветы.

35. Старшыня ІБК-ту ёсьць адказным за ўсю працу Інстытуту і старшынствуе на сходах Навуковае Рады і на агульных сходах ІБК.

Увага. У выпадку адсутнасьці старшыні, на сходах старшынствуе намесьнік або адзін з членаў Прэзыдыюму, па назначэньню старшыні ІБК-ту.

36. Прэзыдыюм ІБК-ту назірае: а/ за выкананьнем пастановаў Навуковай Рады і правільным ходам навуковай чыннасьці Інстытуту і б/ ведае гаспадарскім і адміністрацыйным бокам Інбелкульту.

У. Сэкцыі

37. Кажная з Сэкцыяў самастойна вядзе працу ў пэўнай галіне навукі па наказу, зацьверджанаму Навуковай Радай ІБК.

38. Пры разьвіцьці навуковай дзейнасьці сэкцыі могуць падзяляцца на падсэкцыі, камісіі і г.д.



39. У склад сэкцыі ўваходзяць: правадзейныя члены, члены супрацоўнікі й члены-карэспандэнты.

Увага. Прэзыдыюм сэкцыі, па згодзе з Прэзыдыюмам Інбелкульту, мае права запрашаць для сталай навуковай працы ў сэкцыі староньніх навуковых працаўнікоў.

40. Прэзыдыюм сэкцыі абіраецца агульным сходам сэкцыі й складаецца з 3-х асобаў: старшыні, намесьніка й вучонага сакратара й зацьвярджаецца Прэзыдыюмам Інбелкульту.

Увага. Старшыня сэкцыі і ягоны намесьнік абіраюцца зь ліку правадзейных членаў Інбелкульту.

4I. Старшыня сэкцыі ёсьць адказным за ўсю навуковую працу й чыннасьць сэкцыі й старшынствуе на сходах сэкцыі.

42. Прэзыдыюм сэкцыі: а/ назірае за выкананьнем пастановаў Навуковай Рады Інбелкульту, датычных сэкцыяў, б/ сочыць за своечасную падачаю навуковымі супрацоўнікамі справаздач аб іхнай навуковай працы, в/ прадстаўляе ў Навуковую Раду ня менш, як 2 разы ў год, справаздачу аб навуковай працы сэкцыі і інш.

УІ. Агульны сход

43. Па пытаньнях асаблівай навуковай важнасьці або жаданьню сэкцыі Прэзыдыюм[ам] Інбелкульту склікаюцца агульныя сходы Інстытуту, якія складаюцца з усіх членаў Інбелкульту.

44. Агульны сход лічыцца поўнамоцным пры прысутнасьці палавіны ўсіх членаў Інбелкульту, якія жывуць у Менску.

/"Асьвета", №2, 1924/

Дадатак 2

СТАТУТ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
/Зацьверджаны СНК БССР 29.УІ.1927 г./

І. Агульныя палажэньні

I. ІБК ёсьць вышэйшая дзяржаўная навуковая ўстанова ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы і знаходзіцца пры СНК БССР.

2. Інстытут Беларускае Культуры мае наступныя заданьні:

а/ пашырэньне і ўдасканаліваньне навуковых дысцыплін, якія належаць да яго кампэтэнцыі, абагачаючы іх новымі выкрыцьцямі й мэтадамі дасьледваньня,

б/ плянавае дасьледваньне Беларусі з боку яе прыродных вытворчых сіл, вывучаньне й садзейнічаньне іх выкарыстаньню, народнай гаспадаркі, права, грамадзкага руху, мовы, літаратуры, гісторыі, этнаграфіі і інш.,

в/ аб'яднаньне ў гэтых галінах навуковае працы, якая вядзецца навуковымі ўстановамі БССР і паасобнымі вучонымі,

г/ дапасаваньне навуковых твораў і вынікаў навуковых досьледаў да практычнага ўжываньня ў прамысловасьці й культурна-эканамічным будаўніцтве БССР.

3. Інстытут Беларускае Культуры мае ў сваім складзе два аддзелы:

а/ аддзел прыроды й гаспадаркі, і

б/ аддзел гуманітарных навук.

У складзе аддзелаў могуць быць арганізаваны, з дазволу СНК БССР, дасьледавальныя катэдры і інстытуты, камісіі, габінэты, лябараторыі, музэі, навуковыя таварыствы і іншыя навуковыя ўстановы. Кажны аддзел кіруе працай усіх установаў, што ўваходзяць у яго склад.

4. Для дасьледваньня мовы, літаратуры, гісторыі, этнаграфіі й быту жыдоўскай і польскай нацыянальнасьцяў у складзе ІБК-ту існуюць жыдоўскі й польскі нацыянальныя сэктары, якія працуюць паводля сваіх плянаў, узгодненых с аддзеламі, яднаюць працу адпаведных навуковых установаў ІБК /камісіяў, дасьледавальных катэдраў і інш./, якія дасьледуюць паказаныя вышэй галіны навукаў і ўваходзяць у вадпаведныя аддзелы ІБК.

5. Для дасьледаваньня мовы, літаратуры, гісторыі, этнаграфіі й быту іншых нацыянальных меншасьцяў Беларусі ўтвараюцца ў вадделах адпаведныя дасьледавальныя катэдры, камісіі і іншыя навуковыя ўстановы.

6. Пры ІБК існуе Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, якое вядзе працу паводля свайго статуту пад навуковым кіраўніцтвам Прэзыдыюму ІБК.

7. ІБК мае права з дазволу СНК адчыняць свае ўстановы ўва ўсіх мясцовасьцях БССР.

8. ІБК склікае ў вызначаным законам парадку навуковыя зьезды й канфэрэнцыі, арганізоўвае экспэдыцыі, робіць раскопкі, выдае прэміі і г.д.



9. ІБК робіць археялёгічныя раскопкі ў межах БССР без асобнага дазволу. Навуковыя ўстановы й паасобныя дасьледавальнікі, якія вядуць экспэдыцыйныя досьледы на тэрыторыі БССР, павінны ўзгадняць сваю працу зь ІБК.

I0. ІБК устанаўляе й падтрымоўвае навуковую сувязь з акадэміямі, навуковымі ўстановамі й таварыствамі СССР, саюзных рэспублік і ўсіх іншых краёў, бярэ ўдзел у міжнародных навуковых кангрэсах, зьездах і канфэрэнцыях, а таксама з дазволу ўраду склікае іх на тэрыторыі БССР.

II. ІБК знаходзіцца на дзяржаўным бюджэце й беспасярэдна загадвае сваімі крэдытамі. Ён можа мець пры сабе й такія ўстановы, якія існуюць на гаспадарскім разрахунку.

I2. ІБК штогод падае СНК БССР справаздачу аб сваёй дзейнасьці.

## II. Асабовы склад Інстытуту Беларускае Культуры

I3. ІБК складаецца з: а/ правадзейных членаў, б/ членаў карэспандэнтаў і в/ навуковых супрацоўнікаў. Апрача таго ІБК мае права выбіраць пачэсных членаў.

I4. У правадзейныя члены Інстытуту Беларускае Культуры выбіраюцца прадстаўнікі навукі або мастацтва, якія ўзбагацілі навуку або мастацтва ў сваёй галіне працамі высока-выдатнага значэньня. Лік правадзейных членаў ІБК устанаўляецца СНК БССР.

I5. Кандыдаты ў члены ІБК вылучаюцца навуковымі ўстановамі і вышэйшымі школамі, культурнымі й грамадзкімі арганізацыямі, а таксама адпаведнымі народнымі камісарыятамі БССР і разглядаюцца спэц. камісіяй, якая ўтвараецца адпаведнымі аддзеламі ІБК.

I6. У працягу месяца камісія, паказаная ў папярэднім артыкуле, павінна падаць Радзе адпаведнага аддзелу ІБК сваё заключэньне аб найбольш годных з усіх кандыдадаў. Кандыдатура, прынятая Радаю аддзелу, разглядаецца Прэзыдыюмам ІБК і ідзе ў Акадэмічную Раду ІБК. Прынятая Акадэмічнаю Радаю кандыдатура ў правадзейныя члены ІБК ідзе на зацьверджаньне СНК БССР.

I7. Для таго, каб адбыліся выбары ў Радзе Аддзелу і ў Акадэмічнай Радзе, патрэбна прысутнасьць на сходзе ня менш як 2/3 усіх членаў Рады аддзелу ці Акад.Рады, якія жывуць у Менску, ня лічучы камандыраваных і тых, што знаходзяцца ў водпуску. Для выбараў кандыдатаў у члены ІБК патрэбная звычайная большасьць галасоў сходу.

I8. Правадзейныя члены ІБК павінны прысутнічаць на ўсіх пасяджэньнях Акадэмічнае Рады і Радаў адпаведных аддзелаў і выконваць усе даручэньні ІБК. Аб прычынах няяўкі на пасяджэньні правадзейныя члены ІБК павінны загадзя паведамляць Неадменнага Сакратара Інстытуту.

I9. У члены-карэспандэнты ІБК выбіраюцца выдатныя вучоныя БССР і іншых краёў, якія зьяўляюцца карыснымі для працы ІБК, хоць-бы яны і не вялі сыстэматычнай працы ў ІБК. Да выбараў у члены-карэспандэнты ІБК ужываецца парадак прадугледжаны арт.арт. I4 і I5 гэтага Статуту, апрача зацьверджанага СНК.

20. Пачэсныя члены выбіраюцца на прапанову Прэзыдыюму Інстытуту Беларускае Культуры Акадэмічнаю Радаю ІБК і зацьвярджаюцца СНК.

2I. Правадзейныя члены й члены-карэспандэнты ІБК штогод падаюць праз аддзел у Прэзыдыюм ІБК справаздачы аб сваей навуковай працы.

22. Члены ІБК, якія ня выконваюць вызначаных для іх абавязкаў або дзейнасьць якіх відавочна накіравана на шкоду БССР або іншых саюзных рэспублік, могуць быць звольнены ад абавязкаў членаў ІБК.

23. У склад навуковых супрацоўнікаў ІБК залічаюцца навуковыя працаўнікі, якія выявілі сябе карыснымі навуковымі працамі або спэцыяльнымі ведамі й досьледамі ў вадпаведных галінах навукі або мастацтва.

24. Члены й навуковыя супрацоўнікі ІБК павінны быць у ваднэй з навуковых установаў, аддзелаў або сэктараў Інстытуту Беларускае Культуры, у якіх яны вядуць сваю дасьледавальную працу.

25. Для падрыхтоўкі навуковых супрацоўнікаў ІБК устанаўляе пэўны лік гадавых навуковых стыпэндыяў, на якія Прэзыдыюм ІБК залічае асьпірантаў з асобаў, прапанаваных аддзеламі й нац.сэктарамі.

26. Увесь тэхнічны пэрсанал ІБК назначаецца Прэзыдыюмам або Віцэ-Прэзыдэнтам ІБК.

## III. Акадэмічная Рада й Рады Аддзелаў

27. Агульнае кіраўніцтва дзейнасьцю ІБК належыць Акадэмічнай Радзе на чале з Прэзыдэнтам ІБК.

28. Акадэмічная Рада ІБК складаецца: з а/ членаў Прэзыдыюму ІБК, б/ правадзейных членаў ІБК і в/ навуковых супрацоўнікаў ІБК.



29. Акадэмічная Рада ІБК: а/ распрацоўвае і зацьвярджае агульны плян навуковых працаў ІБК на надыходзячы акадэмічны год, у тым ліку і выдавецкі яго плян; б/ разглядае і зацьвярджае пляны працы аддзелаў і сэктараў ІБК; в/ выслухоўвае справаздачныя даклады аддзелаў і навуковых установаў; г/ назначае прэміі за найлепшыя навуковыя й літаратурныя працы; д/ выбірае членаў ІБК; е/ выбірае членаў Прэзыдыюму ІБК і старшынь аддзелаў і сэктараў і зацьвярджае старшынь аддзелаў і сэктараў і кіраўнікоў /дырэктараў, загадчыкаў, старшынь і інш./ навуковых установаў ІБК; ж/ разглядае ўсе агульныя пытаньні, якія датычаць усяго ІБК.

30. Пасяджэньні Акадэмічнае Рады склікаюцца Прэзыдыюмам ІБК ня менш аднаго разу ў месяц. Усе пытаньні вырашаюцца звычайнаю большасьцю галасоў.

3I. Агульнае кіраўніцтва дзейнасьцю аддзелаў ІБК належыць Радам аддзелаў на чале з старшынямі аддзелаў.

32. Рада аддзелаў Інстытуту складаецца з а/ старшыні аддзелу і яго намесьніка; б/ правадзейных членаў ІБК гэтага аддзелу і в/ навуковых супрацоўнікаў навуковых установаў аддзелу.

33. Рада аддзелу: а/ разглядае й распрацоўвае агульныя пытаньні навукова-дасьледавальнага характару, якія датычацца аддзелу; б/ выслухоўвае справаздачныя даклады навуковых установаў і працаўнікоў аддзелу; в/ папярэдня разглядае й прыймае кандыдатуры ў члены ІБК; г/ выбірае старшыню аддзелу і кіраўнікоў /дырэктароў, загадчыкаў, старшыняў і інш./ навуковых установаў аддзелу, а таксама й навуковых супрацоўнікаў; д/ наогул разглядае пытаньні агульнага характару, якія падаюцца на вырашэньне Акадэмічнае Рады.

34. Пасяджэньні Рады аддзелу склікаецца старшынёю аддзелу ня менш 2-х разоў у месяц. Усе пытаньні вырашаюцца звычайнай большасьцю галасоў.

35. Пасяджэньні Акадэмічнае Рады, Радаў аддзелаў і ўсіх навукова-дасьледавальных установаў ІБК зьяўляюцца адчыненымі.

## IУ. Прэзыдыюм Інстытуту Беларускае Культуры

36. Выканаўча-кіраўнічым органам ІБК ёсьць яго Прэзыдыюм.

37. Прэзыдыюм ІБК выбіраецца Акадэмічнаю Радаю на 3 гады ў складзе Прэзыдэнта, Віцэ-прэзыдэнта, Неадменнага Сакратара, Старшыняў аддзелаў і Старшыняў нацыянальных сэктараў.

38. Прэзыдэнт ІБК ажыцьцяўляе агульнае кіраўніцтва работаю ІБК на пасяджэньнях Прэзыдыюму ІБК і Акадэмічнай Рады, мае права прысутнічаць з правам пастаноўчага голасу на пасяджэньнях усіх установаў Інстытуту і мае права з дарадчым голасам удзельнічаць на пасяджэньнях СНК БССР.

39. Віцэ-прэзыдэнт ІБК кіруе ўсімі адміністрацыйна-арганізацыйнымі, фінансавымі й гаспадарскімі справамі ІБК і дакладвае іх Акадэмічнай Радзе й Прэзыдыюму ІБК.

40. Неадменны Сакратар кіруе навуковаю працаю ІБК і дакладвае аб ёй Акадэмічнай Радзе й Прэзыдыюму ІБК.

4I. Абавязкі паміж іншымі сябрамі Прэзыдыюму разьмяркоўваюцца Прэзыдыюмам ІБК.

42. Прэзыдыюм ІБК зацьвярджаецца СНК БССР.

43. Прэзыдыюм ІБК: а/ выконвае пастановы Акадэмічнае Рады; б/ наглядае за правільным ходам дзейнасьці ІБК; в/ кіруе бягучымі навуковымі справамі; г/ зацьвярджае выбраных аддзеламі навуковых супрацоўнікаў ІБК; д/ прыймае праз старшыняў аддзелаў і нацыянальных сэктараў справаздачы аб працы сяброў ІБК; е/ падае на зацьверджаньне Акадэмічнае Рады кандыдатаў у сябры ІБК; ж/ зацьвярджае асьпірантаў ІБК.

44. Прэзыдыюм ІБК склікаецца Прэзыдэнтам ня менш аднаго разу на тыдзень. Пытаньні для Прэзыдыюму падрыхтоўваюцца Неадменным Сакратаром ІБК.

45. У неадкладных выпадках Прэзыдыюм мае права вырашаць справы, якія належаць да кампэтэнцыі Акадэмічнае Рады ІБК, але аб вырашаных ім такіх справах павінен далажыць Акадэмічнай Радзе на яе бліжэйшым пасяджэньні.

У. Сакратарыят Інстытуту Беларускае Культуры

46. Для разгляду й вырашэньня справаў, зьвязаных з адміністрацыйна-гаспадарскім жыцьцём ІБК і для падрыхтоўкі пытаньняў для разгляду ў Прэзыдыюме, існуе Сакратарыят ІБК.

47. Сакратарыят ІБК складаецца зь Віцэ-прэзыдэнта, Неадменнага Сакратара й старшыні таго аддзелу або сэктару, справа якога разглядаецца.



48. Сакратарыят зьбіраецца ня менш аднаго разу на тыдзень.

УІ. Нацыянальныя сэктары ІБК

49. На чале нацыянальных сэктараў ІБК стаяць іх старшыні.

50. Рада нац. сэктару складаецца з старшыні, яго намесьніка, правадзейных сяброў ІБК адпаведнага сэктару і з прадстаўнікоў ад навуковых установаў сэктару па адным ад кажнага.

5I. Рада нац. сэктару: а/ яднае і ўзгадняе працу сваіх установаў, б/ загадвае падрыхтоўкаю матар'ялаў для выданьня й выдавецтвам сэктару; в/ выслухоўвае справаздачныя даклады навуковых установаў і працаўнікоў сэктару; г/ выбірае старшыняў і дырэктароў установаў сэктару, а таксама й навуковых супрацоўнікаў; д/ вызначае ў сябры ІБК па свайму сэктару.

52. Пасяджэньні Рады сэктару склікаюцца старшынёю сэктару ня менш аднаго разу на месяц.

УІІ. Установы ІБК

53. Навукова-дасьледавальныя й дапаможныя ўстановы ІБК разьмяркоўваюцца па яго аддзелах. Установы, што абслугоўваюць абодвы аддзелы, знаходзяцца бяспасярэдна пад ведамам Прэзыдыюму ІБК.

54. Нутраное жыцьцё навукова-дасьледавальных і дапаможных установаў ІБК вызначаецца асобнымі палажэньнямі, якія зацьвярджаюцца Акадэмічнаю Радаю ІБК.

УІІІ. Правы ІБК

55. Інстытут Беларускае Культуры карыстаецца ўсімі правамі юрыдычнай асобы.

56. Інстытут Беларускае Культуры мае гэрбавую пячатку.

57. Інстытут Беларускае Культуры мае права браць на часовае карыстаньне матар'ялы ўва ўсіх бібліятэках, архівах і музэях БССР. Умовы для захаваньня гэтых матар'ялаў у ІБК павінны быць ня горшымі, чым у сталым месцы іхнага захаваньня.

58. ІБК вядзе сваё выдавецтва й для гэтай мэты можа мець свае друкарні.

59. Інстытут Беларускае Культуры мае права на паштовыя льготы й на бязмытнае атрыманьне з-за граніцы друкаваных выданьняў і навуковага абсталяваньня для сваіх навукова-дасьледавальных і дапаможных установаў, паводле закону СССР.

Старшыня СНК БССР - М. Галадзед
Кіраўнік Спраў Савету Нар.Кам. і Эканамічнай Нарады БССР - М.Мароз. 29 чэрвеня I927 г., г. Менск.
/"Савецкая Беларусь", №I90, 24.УІІІ.I927 г./.

Дадатак 3

СТАТУТ БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
/Зацьверджаны СНК БССР 26.XII.I928 г./

I. Агульныя палажэньні

I. Беларуская Акадэмія Навук ёсьць вышэйшая дзяржаўная навуковая ўстанова Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі і знаходзіцца пры Савеце Народных Камісараў БССР.

2. Беларуская Акадэмія Навук мае наступныя заданьні:

а/ пашырэньне і ўдасканаленьне навуковых дысцыплін, якія належаць да яе кампэтэнцыі, узбагачаючы іх новымі вынаходкамі й мэтадамі дасьледваньня;

б/ плянавае дасьледваньне Беларусі з боку яе прыродных вытворчых сіл, народнае гаспадаркі, права, грамадзкага руху, мовы, літаратуры, гісторыі, этнаграфіі і інш.;

в/ дапасаваньне вынікаў навукова-дасьледавальнай працы да практычнага ўжываньня ў народнай гаспадарцы і культурным будаўніцтве БССР;

г/ Аб'яднаньня ў гэтых галінах усяе навуковае працы, якая вядзецца навуковымі ўстановамі БССР і паасобнымі вучонымі.

3. Беларуская Акадэмія Навук мае ў сваім складзе два аддзэлы: а/ Аддзел Прыроды і Народнае Гаспадаркі і б/ Аддзел Гуманітарных Навук.

4. У складзе аддзелаў арганізуюцца, з дазволу Савету Народных Камісараў БССР, дасьледавальныя катэдры і інстытуты, сталыя камісіі, лябараторыі, музэі, навуковыя таварыствы і іншыя навуковыя ўстановы. Кажны аддзел кіруе працаю ўсіх установаў, што ўваходзяць у яго склад.

5. Для дасьледваньня мовы, літаратуры, гісторыі, этнаграфіі й быту жыдоўскай і польскай нацыянальнасьцяў у складзе Беларускае Акадэміі Навук існуюць жыдоўскі й польскі нацыянальныя сэктары, якія працуюць паводле плянаў, узгодненых з аддзеламі, і ядналюць працу адпаведных навуковых установаў Беларускае Акадэміі Навук /камісіяў, дасьледавальных катэдраў і інш./, прычым гэтыя ўстановы ўваходзяць у ваддзел Беларускае Акадэміі Навук.

6. Для дасьледваньня мовы, літаратуры, гісторыі, этнографіі й быту іншых нац-меншасьцяў Беларусі ўтвараюцца ў ваддзелах адпаведныя дасьледавальныя катэдры, камісіі і іншыя навуковыя ўстановы.



7. Пры Беларускай Акадэміі Навук існуе Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, якое працуе паводля свайго статуту пад агульным кіраўніцтвам Прэзыдыюму Беларускае Акадэміі Навук.

8. Беларуская Акадэмія Навук мае права, з дазволу Савету Народных Камісараў БССР, адкрываць свае ўстановы ўва ўсіх мясцовасьцях БССР.

9. Беларуская Акадэмія Навук склікае навуковыя зьезды й канфэрэнцыі, арганізоўвае экспэдыцыі, робіць раскопкі, выдае прэміі і т.д.

I0. Беларуская Акадэмія Навук публікуе ўхваленыя ёю працы сваіх членаў і іншых вучоных у пэрыядычных выданьнях, зборніках і паасобных кнігах.

II. У сваіх пэрыядычных выданьнях Акадэмія Навук друкуе толькі арыгінальныя артыкулы й дасьледваньні, якія маюць новыя самастойныя вывады й вынаходкі. Праца, якая ўжо была раней надрукавана ў іншым выданьні, ня можа друкавацца ў паказаных выданьнях Беларускае Акадэміі Навук.

I2. Навуковыя ўстановы й паасобныя дасьледавальнікі, якія вядуць экспэдыцыйныя досьледы на тэрыторыі Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, павінны ўзгадняць сваю працу зь Беларускаю Акадэміяю Навук.

I3. Узаемаадносіны паміж Беларускаю Акадэміяю Навук і Народным Камісарыятам Асьветы БССР вызначаюцца палажэньнем аб Народным Камісарыяце Асьветы БССР.

I4. Беларуская Акадэмія Навук устанаўляе і падтрымоўвае навуковую сувязь з акадэміямі, навуковымі ўстановамі й таварыствамі Саюзу ССР, саюзных рэспублік і іншых краёў, удзельнічае ў міжнародных навуковых кангрэсах, зьездах і канфэрэнцыях, а таксама, з дазволу Ураду, склікае іх на тэрыторыі БССР.

I5. Беларуская Акадэмія Навук знаходзіцца на дзяржаўным бюджэце і беспасярэдна загадвае сваімі крэдытамі. Яна можа мець пры сабе і ўстановы, якія існуюць на гаспадарскім разрахунку.

I6. Беларуская Акадэмія Навук штогод падае Савету Народных Камісараў БССР справаздачу аб сваёй дзейнасьці.

II. Асабовы склад Беларускае Акадэміі Навук

17. Беларуская Акадэмія Навук складаецца з:
а/ правадзейных членаў /акадэмікаў/,
б/ членаў-карэспандэнтаў і
в/ навуковага пэрсаналу.

Апроч таго, Беларуская Акадэмія Навук мае права выбіраць ганаровых членаў.

18. У правадзейныя члены Беларускае Акадэміі Навук выбіраюцца прадстаўнікі навукі або мастацтва, якія ўзбагацілі навуку або мастацтва працамі асабліва выдатнага значэньня. Лік правадзейных членаў Беларускае Акадэміі Навук устанаўляецца Саветам Народных Камісараў БССР.

19. Кандыдаты ў правадзейныя члены Беларускае Акадэміі Навук вылучаюцца навуковымі ўстановамі й вышэйшымі школамі, культурнымі і грамадзкімі арганізацыямі, адпаведнымі камісарыятамі, а таксама паасобнымі вучонымі і іх групамі.

20. Кандыдатуры ў правадзейныя члены Беларускае Акадэміі Навук разглядаюцца асобнаю камісіяю, якая складаецца з акадэмікаў сумежных спэцыяльнасьцяў, вылучаных Акадэмічнаю Радаю Беларускае Акадэміі Навук, і з прадстаўнікоў Народнага Камісарыяту Асьветы БССР, Сэкцыі Навуковых працаўнікоў саюзу працаўнікоў асьветы і беспасярэдна зацікаўленых ведамстваў.

21. На працягу месяца камісія, паказаная ў артыкуле 20, павінна падаць радзе адпаведнага аддзелу Беларускае Акадэміі Навук сваё заключэньне аб кандыдатах. Кандыдатура, прынятая радаю аддзелу, праз Прэзыдыюм Беларускае Акадэміі Навук ідзе ў Акадэмічную Раду Беларускае Акадэміі Навук. Прынятая Акадэмічнаю Радаю кандыдатура ў правадзейныя члены Беларускае Акадэміі Навук ідзе на зацьверджаньне Савету Народных Камісараў БССР.

22. Для таго, каб адбыліся выбары ў радзе аддзелу і ў Акадэмічнай Радзе, патрэбна прысутнасьць на сходзе ня менш як 2/3 усіх членаў рады аддзелу ці Акадэмічнае Рады, якія жывуць у Менску, ня лічучы камандыраваных і тых, што знаходзяцца ў вадпуску. Для выбару кандыдатаў у правадзейныя члены Беларускае Акадэміі Навук патрэбна звычайная большасьць галасоў сходу.

23. Правадзейныя члены Беларускае Акадэміі Навук павінны



прысутнічаць на ўсіх пасяджэньнях Акадэмічнае Рады і рад адпаведных аддзелаў і выконваць даручэньні Беларускае Акадэміі Навук. Аб прычынах няяўкі на пасяджэньні члены Беларускае Акадэміі Навук павінны загадзя паведаміць Неадменнага Сакратара Акадэміі Навук.

24. У члены-карэспандэнты Беларускае Акадэміі Навук выбіраюцца выдатныя вучоныя БССР і іншых краёў, якія зьяўляюцца карыснымі для працы Беларускае Акадэміі Навук, хаця-б яны й не вялі сыстэматычнай працы ў Беларускай Акадэміі Навук. Кандыдаты ў члены-карэспандэнты вылучаюцца ўстановамі Беларускае Акадэміі Навук. Вылучаная кандыдатура разглядаецца ў васобнай камісіі, спэцыяльна на гэта выбранай радаю аддзелу. Ухваленая камісіяю кандыдатура ідзе ў раду аддзелу, а пасьля прыняцьця радаю аддзелу - у Акадэмічную Раду. Кандыдат лічыцца членам-карэспандэнтам пасьля выбару яго Акадэмічнаю Радаю.

25. Ганаровыя члены выбіраюцца, на прапанову Прэзыдыюму Беларускае Акадэміі Навук, Акадэмічнаю Радаю Беларускае Акадэміі Навук і зацьвярджаюцца Саветам Народных Камісараў БССР.

26. Правадзейныя члены й члены-карэспандэнты Беларускае Акадэміі Навук штогод падаюць Беларускай Акадэміі Навук справаздачы аб сваёй навуковай працы.

27. Члены Беларускае Акадэміі Навук, якія ня выконваюць вызначаных ім абавязкаў або дзейнасьць якіх відавочна накіравана на шкоду Саюзу ССР, БССР або іншых саюзных рэспублік, звальняюцца ад абавязкаў і годнасьці членаў Беларускае Акадэміі Навук.

28. Навуковы пэрсанал Беларускае Акадэміі Навук падзяляецца на наступныя катэгорыі: а/ дырэктары ўстановаў, б/ навуковыя супрацоўнікі I-га разраду /вучоныя спэцыялістыя/, в/ навуковыя супрацоўнікі 2-го разраду.

29. Дырэктарам навуковай установы Акадэміі выбіраецца пастановаю рады аддзелу акадэмік або асоба з навуковых супрацоўнікаў I-га разраду, ці наагул з вучоных, вядомых сваімі навуковымі працамі і адміністрацыйнаю практыкаю. Выбраны зацьвярджаецца Акадэмічнаю Радаю Беларускае Акадэміі Навук.

30. Навуковымі супрацоўнікамі I-га разраду выбіраюцца асобы, якія вядуць самастойную навуковую працу ў сваёй спэцыяль-

© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

насьці і выявілі сябе ў гэтым кірунку карыснымі навуковымі дасьледамі і друкаванымі працамі. Навуковымі супрацоўнікамі 2-га разраду выбіраюцца асобы, якія выявілі свае здольнасьці да дасьледавальнай працы й спэцыяльныя веды ў вадпаведных галінах навукі або мастацтва. Навуковыя супрацоўнікі выбіраюцца радамі аддзелаў і сэктараў Беларускае Акадэміі Навук і зацьвярджаюцца Прэзыдыюмам БАН.

3І. Правадзейныя члены й навуковыя супрацоўнікі БАН павінны быць у ваднэй з навуковых установаў БАН, у якіх вядуць сваю сталую дасьледавальную або навукова-дапаможную працу.

32. Для падрыхтоўкі навуковых супрацоўнікаў БАН устанаўляе пэўны лік гадовых навуковых стыпэндыяў, на якія Прэзыдыюм Беларускае Акадэміі Навук залічае асьпірантаў з асобаў, запрапанаваных аддзеламі й нацыянальнымі сэктарамі.

33. Увесь тэхнічны пэрсанал БАН назначаецца Прэзыдэнтам або Віцэ-Прэзыдэнтам Беларускае Акадэміі Навук.

## ІІІ. Акадэмічная Рада й Рады Аддзелаў

34. Агульнае кіраўніцтва дзейнасьцю БАН належыць Акадэмічнай Радзе на чале з Прэзыдыюмам БАН.

35. Акадэмічная Рада БАН складаецца з: а/ членаў Прэзыдыюму БАН і б/ правадзейных членаў БАН і в/ дырэктароў навуковых установаў БАН.

36. Акадэмічная Рада БАН: а/ разглядае і зацьвярджае агульны плян навуковых працаў Акадэміі Навук на акадэмічны год, у тым ліку і выдавецкі яе плян; б/ выслухоўвае справаздачныя даклады аддзелаў і навуковых установаў БАН; в/ разглядае і выслухоўвае пляны й паведамленьні аб дзейнасьці навуковых-дасьледавальных установаў БССР для ўзгадненьня іх працы з плянамі БАН; г/ выбірае членаў БАН; выбірае членаў Прэзыдыюму БАН і зацьвярджае старшынь аддзелаў і сэктараў і дырэктараў навуковых установаў БАН; е/ назначае прэміі за лепшыя навуковыя й літаратурныя працы; ж/ разглядае агульныя пытаньні, якія тычацца ўсяе Беларускае Акадэміі Навук.

37. Пасяджэньні Акадэмічнай Рады склікаюцца Прэзыдыюмам Беларускае Акадэміі Навук ня менш аднаго разу ў месяц. Усе пытаньні вырашаюцца звычайнаю большасьцю галасоў.



38. Агульнае кіраўніцтва дзейнасьцю аддзелаў БАН належыць радам аддзелаў на чале з старшынямі аддзелаў.

39. Рада аддзелу БАН складаецца з: а/ старшыні аддзелу, ягонага намесьніка й навуковага сакратара аддзелу; б/ правадзейных членаў БАН гэтага аддзелу і в/ дырэктароў і кіраўнікоў навуковых установаў аддзелу.

40. Рада аддзелу: а/ разглядае і распрацоўвае агульныя пытаньні навукова-дасьледавальнага й навукова-арганізацыйнага характару, якія тычацца аддзелу; б/ выслухоўвае справаздачныя даклады навуковых установаў і працаўнікоў аддзелу; в/ папярэдня разглядае й прыймае кандыдатуры ў члены БАН; г/ выбірае старшыню аддзелу й кіраўнікоў /дырэктараў, загадчыкаў, старшыняў і інш./ навуковых установаў аддзелу, а таксама й навуковы пэрсанал аддзелу.

4І. Пасяджэньні рады аддзелу склікаюцца старшынёю аддзелу ня менш 2-х раз у месяц. Усе пытаньні вырашаюцца звычайнаю большасьцю галасоў.

42. Пасяджэньні Акадэмічнай Рады, радаў аддзелаў і ўсіх навукова-дасьледавальных установаў БАН зьяўляюцца адчыненымі.

## ІУ. Прэзыдыюм Беларускае Акадэміі Навук

43. Выканаўча-кіраўнічым ворганам БАН ёсьць ле Прэзыдыюм.

44. Прэзыдыюм БАН выбіраецца Акадэмічнаю Радаю на 3 гады ў складзе Прэзыдэнта, двух Віцэ-Прэзыдэнтаў, Неадменнага Сакратара, старшынь аддзелаў і 2-х прадстаўнікоў ад установаў нацыянальных меншасьцяў /арт.арт. 5 і 6 Статуту/ і ўстановаў пры Прэзыдыюме БАН. Пэрсанальны склад Прэзыдыюму БАН зацьвярджаецца Саветам Народных Камісараў БССР.

45. Прэзыдэнт Беларускае Акадэміі Навук ажыцьцяўляе кіраўніцтва работаю Акадэміі, старшынюе на пасяджэньнях Прэзыдыюму БАН і Акадэмічнае Рады, мае права прысутнічаць з правам пастаноўчага голасу на пасяджэньнях усіх установаў Акадэміі і ўдзельнічае з дарадчым голасам у пасяджэньнях Савету Народных Камісараў БССР.

46. Адзін зь Віцэ-Прэзыдэнтаў кіруе плянава-арганізацыйнымі пытаньнямі Акадэміі. Другі Віцэ-Прэзыдэнт кіруе гаспадарскаю і фінансаваю часткаю Акадэміі. Абавязкі паміж імі разьмяркоўваюцца Прэзыдыюмам Акадэміі.

47. Неадменны Сакратар кіруе навуковаю працаю БАН і дакладвае аб ёй Акадэмічнай Радзе й Прэзыдыюму Акадэміі. Бліжэйшымі супрацоўнікамі Неадменнага Сакратара БАН ёсьць старшыні аддзелаў. Пры Неадменным Сакратары існуе Выдавецкае Бюро.

48. Неадменны Сакратар па даручэньню Прэзыдыюму Акадэміі: а/ вядзе ад імя Акадэміі ўсю перапіску, якая тычыцца навуковай часткі Акадэміі, з усімі ўстановамі й асобамі ў межах СССР і заграніцай; б/ мае пад сваім ведамам Архіў БАН, кнігасхоў і Бюро для міжнароднага абмену кніг; в/ загадвае выдавецтвам і ёсьць адказным за ўсе выданьні БАН.

49. Абавязкі паміж іншымі членамі Прэзыдыюму разьмяркоўваюцца Прэзыдыюмам БАН.

50. Прэзыдыюм Беларускае Акадэміі Навук: а/ выконвае пастановы Акадэмічнай Рады; б/ наглядае за правільным ходам дзейнасьці БАН; в/ кіруе бягучымі навуковымі справамі; г/ зацьвярджае выбраны аддзеламі навуковы пэрсанал БАН; д/ выслухоўвае справаздачы навуковых установаў БАН; е/ зацьвярджае асьпірантаў БАН.

51. Прэзыдыюм БАН склікаецца Прэзыдэнтам ня менш аднаго разу на тыдзень. Пытаньні ў Прэзыдыюм падае Неадменны Сакратар БАН.

52. У неадкладных выпадках Прэзыдыюм мае права вырашаць справы, якія належаць да кампэтэнцыі Акадэмічнае Рады БАН, і аб вырашаных ім такіх справах павінен далажыць Акадэмічнай Радзе на яе бліжэйшым пасяджэньні.

У. Сакратарыят Беларускае Акадэміі Навук

53. Для разгляду й вырашаньня бягучых спраў, зьвязаных з навуковым і адміністрацыйна-гаспадарскім жыцьцём БАН, і для падрыхтоўкі пытаньняў для разгляду ў Прэзыдыюме існуе Сакратарыят БАН.

54. Сакратарыят БАН складаецца з трох асоб: Віцэ-Прэзыдэнта, Неадменнага Сакратара і кіраўніка аддзелу, сэктару або ўстановы пры Прэзыдыюме, справы якога разглядаюцца.

55. Сакратарыят зьбіраецца ў разе патрэбы.

УІ. Кіраўніцтва спраў БАН

56. Для вядзеньня адміністрацыйных і фінансавых спраў існуе Кіраўніцтва Спраў БАН на чале зь Кіраўнікам Спраў. Кіраўніцтва



Спраў падпарадкавана аднаму зь Віцэ-Прэзыдэнтаў БАН.

57. На Кіраўніцтва Спраў Акадэміі ўскладаецца абслугоўваньне навуковай, гаспадарскай і фінансавай частак БАН.

УІІ. Нацыянальныя Сэктары БАН

58. Агульнае кіраўніцтва дзейнасьцю нацыянальных сэктараў БАН належыць да радаў сэктараў на чале зь іхнымі старшынямі.

59. Рада сэктару складаецца з старшыні, ягонага намесьніка, правадзейных членаў БАН адпаведнага сэктару і з прадстаўнікоў ад навуковых установаў сэктару па адным ад кажнай.

60. Рада сэктару: а/ яднае і ўзгадняе працу сваіх установаў; б/ падрыхтоўвае матар'ялы для выданьня і загадвае выдавецтвам сэктару; в/ выслухоўвае справаздачныя даклады навуковых установаў і працаўнікоў сэктару; г/ ухваляе кандыдатуры старшыняў і дырэктароў навуковых установаў сэктару, а таксама навуковых супрацоўнікаў; д/ вызначае кандыдатуры ў члены БАН у сваім сэктары.

61. Пасяджэньні рады сэктару склікаюцца старшынёю сэктару ня менш аднаго разу на месяц.

УІІІ. Установы БАН

62. Навукова-дасьледавальныя й дапаможныя ўстановы БАН разьмяркоўваюцца ў яе аддзелах. Установы, якія абслугоўваюць усю Акадэмію, знаходзяцца беспасярэдна пад ведамам Прэзыдыюму БАН.

63. Структура й парадак працы навукова-дасьледавальных і дапаможных установаў БАН вызначаюцца асобнымі статутамі, якія зацьвярджаюцца Акадэмічнаю Радаю БАН.

64. Пры БАН або ў каардынаваным кантакце зь ёю могуць быць арганізаваны дасьледавальныя ўстановы /інстытуты, таварыствы, і г.д./, дзейнасьць, кіраваньне і ўзаемаадносіны якіх з Акадэміяю вызначаюцца іхнымі статутамі або палажэньнямі аб іх, зацьверджанымі СНК БССР.

ІХ. Правы Беларускае Акадэміі Навук

65. БАН карыстаецца правамі юрыдычнае асобы.

66. БАН мае права браць для часовага карыстаньня матар'ялы з усіх бібліятэк, архіваў і музэяў БССР. Умовы захаваньня гэтых матарыялаў у БАН павінны быць ня горшымі, чымся ў сталым

месцы іх захаваньня.

67. БАН мае сваё выдавецтва, сваю друкарню й дапаможныя пры ёй установы.

68. БАН мае права пасылаць бяз цэнзуры ўсе свае выданьні за-граніцу. Прысланыя на адрыс БАН з-за граніцы кнігі й выданьні звальняюцца ад цэнзуры.

69. БАН і ўсе яе ўстановы маюць права бясплатна высылаць ува ўсе мясцовасьці Саюзу ССР усім асобам і ўстановам усякую карэспандэнцыю поштаю і папяровыя пасылкі з навуковымі прыладамі ня больш устаноўленай вагі.

70. Уся паштовая карэспандэнцыя й пасылкі ня больш устаноўленай вагі з навуковымі прыладамі перасылаюцца на адрыс БАН або яе ўстановаў усімі асобамі і ўстановамі ў СССР бясплатна.

7І. БАН мае права беспасярэдна купляць заграніцаю навуковае абсталяваньне пасьля ўзгадненьня з Народным Камісарыятам Гандлю БССР.

72. Усе купленыя й выпісаныя з-заграніцы БАН кнігі і ўсякія іншыя рэчы навуковага прызначэньня павінны накіроўвацца беспасярэдна на адрыс БАН. Аб атрыманьні іх адпаведныя ўстановы й мытніцы павінны зараз-жа паведамляць Прэзыдыюм Акадэміі. Мытны агляд атрыманых на адрыс БАН або ейных установаў пасылак павінен рабіцца пасьля дастаўкі пасылак у падпарадкаваных Акадэміі ўстановах у прысутнасьці ўпоўнаважанага ад мытнага ведамства.

73. Пасылкі з друкаванымі і рукапіснымі творамі, зь інструмантамі, калекцыямі і інш. навуковымі прыладамі, якія высылаюцца за-граніцу БАН, паводля пастановы ейнага Прэзыдыюму, павінны бесьперашкодна дапускацца да вывазу пасьля ўзгадненьня з Народным Камісарыятам Гандлю БССР.

74. Беларуская Акадэмія Навук мае пячатку з гэрбам БССР.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР - М.Галадзед.
Нам.Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнае Нарады БССР - Л.Дубавіцкі.

/"Зборнік Законаў БССР", №5, 20.3.І929/.

Дадатак 4

## СТАТУТ БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
/зацьверджаны СНК БССР 22.VIII.І933 г./

### I. Агульныя палажэньні

І. Беларуская Акадэмія Навук ёсьць вышэйшай навукова-дасьледавальнай установай БССР і адзіным навуковым рэспубліканскім цэнтрам, у якім канцэнтруецца агульнае кіраваньне ўсёй навукова-дасьледавальнай працай у БССР. Беларуская Акадэмія Навук знаходзіцца пры СНК БССР.



2. На Беларускую Акадэмію Навук ускладаецца: а/ плянавае навуковае дасьледваньне: яе народнай гаспадаркі, культуры, гісторыі, савецкага будаўніцтва й права, мовы, літаратуры і інш.; б/ барацьба за маркса-ленінскую мэтадалёгію ўва ўсіх галінах навукі; в/ вывучэньне вытворчых сіл краю для скарыстаньня іх у розных галінах сац.будаўніцтва; г/ плянаваньне працы і ўстанаўленьне тэматыкі ўсіх навукова-дасьледавальных установаў, што працуюць на тэрыторыі БССР, незалежна ад таго, пад чыім ведамам яны знаходзяцца; д/ сыстэматычны кантроль над усімі навукова-дасьледавальнымі ўстановамі на тэрыторыі БССР у галіне выкананьня імі ўстаноўленых плянаў і мэтадаў працы; е/ скліканьне навуковых зьездаў і канфэрэнцыяў, арганізацыя экспэдыцыяў і г.д.

3. Беларуская Акадэмія Навук устанаўляе і падтрымлівае навуковую сувязь з Акадэміямі Навук СССР, Украінскай Акадэміяй Навук і іншымі навуковымі ўстановамі й таварыствамі СССР, удзельнічае ў міжнародных навуковых кангрэсах, зьездах і канфэрэнцыях, а таксама з дазволу ўраду склікае іх на тэрыторыі БССР.

4. Гадавыя пляны работы БАН зацьвярджаюцца СНК БССР.

5. БАН мае правы юрыдычнай асобы, знаходзіцца на дзяржаўным бюджэце й беспасярэдна распараджаецца сваімі крэдытамі. Яна можа мець у сваім складзе ўстановы на гаспадарскім разрахунку.

6. Беларуская Акадэмія Навук мае права пасылаць свае выданьні за граніцу. Прысланыя на адрыс БАН з-за граніцы кнігі й выданьні звальняюцца ад цэнзуры.

7. Беларуская Акадэмія Навук мае пячатку з дзяржаўным гэрбам БССР.

### II. Структура Беларускае Акадэміі Навук

6. БАН складаецца з наступных навукова-дасьледавальных інстытутаў: філязофіі, эканомікі, гісторыі, савецкага будаўніцтва й права, мовазнаўства, літаратуры й мастацтва, жыдоўскай

пралетарскай культуры, польскай пралетарскай культуры, інстытуту пралетарскай культуры літоўскай, латыскай і іншых народнасьцяў БССР, геалёгіі, торфу, аграглебавага, біялёгіі з батанічным садам і габінэтам прыродазнаўства, хіміі, фізыка-матэматычнага, псыханэўралёгічнага й камісіі вывучэньня Заходняй Беларусі.

## III. Навуковы Пэрсанал БАН

9. Навуковы пэрсанал БАН складаецца з: а/ акадэмікаў, б/ ганаровых членаў Акадэміі, в/ членаў-карэспандэнтаў, г/ вучоных спэцыялістых, д/ старшых навуковых працаўнікоў, е/ навуковых працаўнікоў, ж/ асьпірантаў.

I0. У акадэмікі і ў ганаровыя сябры БАН выбіраюцца прадстаўнікі навукі, тэхнікі або мастацтва, якія ўзбагацілі навуку, тэхніку або мастацтва творамі асабліва выдатнага значэньня і накіроўваюць сваю дзейнасьць на карысьць сацыялістычнага будаўніцтва.

II. Кандыдаты ў акадэмікі й ганаровыя сябры БАН вылучаюцца навуковымі ўстановамі, вышэйшымі школамі, грамадзкімі арганізацыямі, паасобнымі вучонымі й групамі іх.

I2. Кандыдатуры ў акадэмікі й ганаровыя сябры БАН разглядаюцца спэцыяльнай камісіяй, якая складаецца з акадэмікаў, вылучаных Прэзыдыюмам БАН, і з прадстаўнікоў Народнага Камісарыяту Асьветы БССР, Цэнтральнага бюро сэкцыі навуковых працаўнікоў і Цэнтральнага Праўленьня саюзу працаўнікоў асьветы.

I3. Ухваленыя паводля арт. I2 кандыдатуры ў акадэмікі й ганаровыя сябры Акадэміі Камісія падае на разгляд Прэзыдыюму Акадэміі Навук, які ў выпадку згоды накіроўвае іх у сэсію Акадэміі і пасьля прыняцьця сэсіяй адпаведн[illegible] кандыдатур - Прэзыдыюм Акадэміі прадстаўляе іх на зацьвярджэньне СНК БССР.

I4. У сябры-карэспандэнты БАН выбіраюцца вучоныя, карысныя для працы БАН. Кандыдаты ў сябры-карэспандэнты вылучаюцца ўстановамі БАН і зацьвярджаюцца сэсіяй Акадэміі Навук.

I5. Акадэмікі й ганаровыя сябры Акадэміі пазбаўляюцца сваеґоднасьці пастановай СНК БССР, калі іхная дзейнасьць накіроўваецца на шкоду СССР.

I6. Вучоныя спэцыялісты, старшыя навуковыя працаўнікі, навуковыя працаўнікі і асыстэнты БАН назначаюцца Прэзыдыюмам Акадэміі на падставе "Палажэньня аб навуковых працаўнікох вышэйшых



школ і навукова-дасьледавальных установаў БССР" /Зборнік Законаў БССР, I932 г., №5I, паст. 233./.

## IУ. Органы кіраваньня БАН

### а/ Сэсія Беларускае Акадэміі Навук

I7. Сэсія Беларускае Акадэміі Навук склікаецца ў складзе: а/ сяброў Прэзыдыюму БАН; б/ акадэмікаў і ганаровых сяброў БАН; в/ кіраўнікоў навуковых установаў БАН /дырэктары інстытутаў і загадчыкі сэктарамі/.

I8. Сэсія Беларускае Акадэміі Навук: а/ абмяркоўвае навуковыя праблемы; б/ разглядае і зацьвярджае агульны й гадавы плян навуковых працаў Акадэміі Навук, у тым ліку яе выдавецкі плян; в/ разглядае справаздачы паасобных навуковых установаў БАН, зводную справаздачу аб навуковай працы ўсяе Акадэміі Навук; г/ выбірае акадэмікаў, ганаровых сяброў і сяброў-карэспандэнтаў БАН; д/ выбірае сяброў Прэзыдыюму БАН; е/ назначае прэміі за лепшыя навуковыя й літаратурныя працы.

I9. Сэсія Акадэміі Навук склікаецца Прэзыдыюмам БАН ня менш 2-х раз у год.

20. Усе пытаньні на сэсіі вырашаюцца простай большасьцю галасоў, апроч выбараў акадэмікаў і ганаровых сяброў, якія выбіраюцца ня менш 2/3 галасоў прысутных на сэсіі сяброў. Кворум сэсіі складаецца ня менш як з 2/3 усіх сяброў сэсіі, ня лічучы тых, якія ў камандыроўках і адпачынку, а таксама хворых.

### Б/ Прэзыдыюм Беларускае Акадэміі Навук

2I. Прэзыдыюм БАН выбіраецца сэсіяй БАН у складзе прэзыдэнта, 2-х віцэ-прэзыдэнтаў, неадменнага сакратара й 7 сяброў. Пэрсанальны склад Прэзыдыюму БАН зацьвярджаецца СНК БССР.

22. Прэзыдыюм БАН: а/ выконвае пастановы сэсіі; б/ беспасярэдна кіруе ўсёй дзейнасьцю БАН; в/ падае на зацьверджаньне СНК БССР кандыдатуры ў акадэмікі й ганаровыя сябры БАН; г/падае на зацьверджаньне сэсіі кандыдатуры ў сябры-карэспандэнты Акадэміі; д/ зацьвярджае іншы навуковы пэрсанал і асьпірантаў БАН; е/ разглядае справаздачы навуковых установаў БАН і іншых навукова-дасьледавальных установаў БССР; ж/ разглядае пляны работ навуковых установаў БССР.

23. Усе пытаньні, якія разглядаюцца Прэзыдыюмам Акадэміі, вырашаюцца простай большасьцю галасоў сяброў Прэзыдыюму.

В/ Прэзыдэнт і Віцэ-Прэзыдэнт БАН

24. Прэзыдэнт і Віцэ-Прэзыдэнт БАН выбіраюцца сэсіяй Акадэміі Навук тэрмінам на тры гады зь ліку акадэмікаў і зацьвярджаецца СНК БССР.

25. Прэзыдэнт БАН кіруе ўсёй работай Акадэміі, мае права ўдзельнічаць з пастаноўчым голасам у пасяджэньнях усіх установаў Акадэміі, а таксама ўдзельнічае з правам дарадчага голасу ў пасяджэньнях СНК БССР.

26. Калі адсутнічае Прэзыдэнт Акадэміі, ягоныя абавязкі выконвае першы віцэ-прэзыдэнт.

27. Адзін зь віцэ-прэзыдэнтаў БАН ведае адміністрацыйна-гаспадарскімі і фінансавымі пытаньнямі Акадэміі, а другі - падрыхтоўкай навуковых кадраў. Абавязкі паміж імі разьмяркоўваюцца Прэзыдыюмам Акадэміі Навук.

Г/ Неадменны сакратар

28. Неадменны сакратар БАН выбіраецца сэсіяй зь ліку акадэмікаў тэрмінам на тры гады й зацьвярджаецца СНК БССР.

29. Неадменны сакратар Акадэміі Навук ведае ўсёй навуковай часткай Акадэміі, а таксама плянаваньнем навукова-дасьледавальнай работы ў навукова-дасьледавальных установах БССР.

30. Пры Неадменным сакратары знаходзіцца: I. арганізацыйна-плянавы сэктар і 2. сакратарыят.

3I. Неадменны сакратар Акадэміі ёсьць адказным рэдактарам усіх выданьняў Акадэміі і безь ягонага подпісу ня можа быць надрукавана ні адно выданьне БАН.

Д/ Кіраўніцтва Спраў БАН

32. Для вядзеньня адміністрацыйна-гаспадарскіх і фінансавых спраў існуе Кіраўніцтва спраў БАН на чале зь кіраўніком спраў. Кіраўніцтва спраў працуе паводля палажэньня зацьверджанага Прэзыдыюмам БАН.

Е/ Установы БАН

33. На чале інстытутаў Акадэміі стаяць дырэктары, а на чале сэктараў - загадчыкі. Дырэктары й загадчыкі кіруюць установамі на аснове адзінаначальля. Буйнейшыя інстытуты маюць апрача



дырэктараў, яшчэ намесьнікаў дырэктараў і вучоных сакратароў. Дырэктары, іхнія намесьнікі й вучоныя сакратары, а таксама загадчыкі сэктараў зацьвярджаюцца Прэзыдыюмам БАН.

34. Буйнейшыя інстытуты падзяляюцца на сэкцыі, на чале якіх стаяць загадчыкі, зацьверджаныя Прэзыдыюмам Акадэміі на прапанову дырэктараў адпаведных інстытутаў.

35. Пры Беларускай Акадэміі Навук існуе акадэмічная бібліятэка й выдавецтва з друкарняй, загадчыкі якіх зацьвярджаюцца Прэзыдыюмам Акадэміі Навук.

36. З выданьнем гэтага статуту лічыць страціўшым сілу статут БАН зацьверджаны СНК БССР 26 сьнежаня I928 г.

/"Зборнік Законаў БССР", №34, I933 г./.

Дадатак 5

СТАТУТ АКАДЭМІІ НАВУК БССР

/ Зацьверджаны СНК БССР 9 ліпеня I936 г./

I. Акадэмія Навук БССР зьяўляецца вышэйшай навуковай установай БССР, якая яднае найбольш выдатных вучоных краю. Акадэмія Навук падпарадкавана непасрэдна Савету Народных Камісараў БССР і прадстаўляе яму справаздачу аб сваёй дзейнасьці.

2. Асноўнай задачай Акадэміі Навук БССР зьяўляецца ўсямернае садзейнічаньне агульнаму ўздыму тэарэтычных, а таксама прыкладных навук у СССР, вывучэньне і разьвіцьцё дасягненьняў саюзнай і сусьветнай навуковай мысьлі і актыўны ўдзел у будаўніцтве беларускай сацыялістычнай культуры. У васнове сваёй работы Акадэмія Навук кладзе плянамернае скарыстаньне навуковых дасягненьняў для садзейнічаньня будаўніцтва новага сацыялістычнага бяскласавага грамадзтва.

3. У мэтах выкананьня гэтай асноўнай задачы, Акадэмія Навук: а/ канцэнтруе сваю работу на буйнейшых, вядучых праблемах навукі ўва ўсіх яе галінах; б/ вывучае прыродныя багацьці й вытворчыя сілы краіны, а таксама культурныя й эканамічныя дасягненьні чалавецтва й садзейнічае іх сваечасоваму й рацыянальнаму скарыстаньню; в/ садзейнічае павышэньню кваліфікацыі навуковых работнікаў БССР; г/ абслугоўвае вышэйшыя ўрадавыя воргані БССР арганізацыяй навуковай экспэртызы;

4. Акадэмія Навук БССР разьдзяляецца на 3 аддзяленьні: Ад-

